26 жніўня 2016 | № 32 (497)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Белы дом ці дом вар'ятаў?**
Стар. 19



# Апошні айчынны гранатамёт

**Дэкларацыя аб незалежнасці і суверэнітэце Беларусі набыла статус канстытуцыйнага закона 25 жніўня 1991 года. Што было б, калі б гэтага не здарылася?**



Сяргей ПУЛЬША

У тыя часы было шмат спрэчак наконт таго, што важней: кілбаса ці мова? Нацыянальныя сімвалы альбо поўныя тавараў крамы? Але менавіта Дэкларацыя аб незалежнасці стала першым крокам да выхаду з эканамічнай галечы.

Мала хто памятае, што разам з наданнем Дэкларацыі статусу канстытуцыйнага закону, у той жа дзень былі прынятыя пастановы аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці рэспублікі.

Каб не было Дэкларацыі — не было б і спробаў абараніць унутраны спажывецкі рынак. Эшалоны з прадуктамі, якіх самім беларусам не хапала, па-ранейшаму ішлі б «на Маскву». Ужо тады грамадзяне сінявокай ездзілі ў Расію, каб закупіцца там беларускай кілбасой. У выніку ўводу Дэкларацыі ў дзеянне мы сталі абараняць свой рынак. І слова «дэфіцыт» пачало знікаць з ужытку.

Сяргей Навумчык у сваёй кнізе «91» згадвае, як ён спускаў з лесвіцы Вярхоўнага Савета Уладзіміра Жырыноўскага. І, сярод іншага, піша, што Жырыноўскі прывозіў просьбу прадаць ягонай партыі шэсць аўтамабіляў МАЗ «па старых коштах».

Не было б Дэкларацыі аб незалежнасці і пастаноў аб самастойнасці рэспублікі — усю краіну вывезлі б у Расію «па старых коштах».

У выніку надання рэальнай моцы Дэкларацыі аб незалежнасці мы адарваліся ад адзінага саюзнага эмісійнага цэнтру, і пазней у нас з'явіліся свае грошы.

Шмат хто з тагачасных камуністычных босаў наракае: прынялі Дэкларацыю, развалілі СССР, парушылі ўсе эканамічныя сувязі… Але калі б гэтага не было? Беларусь засталася б у складзе Расіі, эканамічна і фінансава залежная ад Масквы. У выніку мы б атрымалі тут спачатку «чырвоных дырэктараў», якія б хутка ператварыліся ў алігархаў. І ў 1994 годзе Аляксандр Лукашэнка не мог бы гудзець з тэлевізара: «Я запушчу заводы!» Заводаў, якія б можна было б запускаць, проста не было б. Мы прайшлі б праз той жа перыяд бандыцка-алігархічнага фармавання капіталу, праз які прайшла Расія. І нічога добрага ў гэтым няма.

І былі б мы зараз яшчэ адным ці некалькімі «датацыйнымі расійскімі рэгіёнамі». Праўда, ставіліся б да нас не так, як да расіянаў, а значна горш. Як заўраз ставяцца адэпты «рускага міру»: як да другаснай нацыі, «бульбашоў-калгаснікаў». І гарматнага мяса ў тым ліку.

Каб мы не заявілі пра сваю самастойнасць у 1991-м, мы б, зразумела, засталіся з Расіяй. І, адпаведна, павінны былі б удзельнічаць ва ўсіх войнах і канфліктах, у якія так ці інакш улазіў «старэйшы брат». А іх нават цяжка падлічыць. Прыднястроўе ў 1992-м, першая і другая Чачэнскія войны, «антытэрарыстычныя аперацыі», якіх не скончаюцца і дасюль, вайна з Грузіяй 2008-га, Украіна зараз, — тое, што згадваецца імгненна. Паўсюль бы ваявалі «браткі-беларусы».

Ці здолелі б мы дамагчыся незалежнасці, каб не ўзялі яе ў 1991-м? Наўрад ці. Нават нягледзячы на словы тагачаснага кіраўніка Расіі Барыса Ельцына, што «хай бяруць незалежнасці, колькі могуць праглынуць», расійскія рэгіёны, якія гэтага жадалі, так і не змаглі стаць менш залежнымі ад «цэнтру», і нават не пашырылі сваю аўтаномію. А хто гэтага вельмі моцна жадаў, таго,




Фота www.eurasia.expert

**Дзякуючы тым падзеям мы здолелі стаць краінай**

нягледзячы на абяцанкі, нікуды не адпускалі. Напрыклад, тая ж Чачэнская Рэспубліка Ічкерыя. 8 чэрвеня 1991 года Джахар Дудаеў абвясціў стварэнне незалежнай дзяржавы, а ўжо 7 лістапада таго ж года той жа самы Барыс Ельцын падпісаў указ пра ўвядзенне ў «Чачэна-Інгушскай Рэспублікі» надзвычайнага становішча.

Дарэчы, гэта была першая «гібрыдная» вайна. З лета 1994 года ў Чачні разгарнуліся баявыя дзеянні паміж вернымі Дудаеву войскамі і сіламі апазіцыйнага «Часовага савету Чачэнскай Рэспублікі», неафіцыйна падтрыманымі Расіяй. Гэта стала вядома, калі ў палон да прыхільнікаў Дудаева трапіў шэраг расійскіх вайскоўцаў, якія «змагаліся на баку апазіцыі» па кантракце з Федэральнай службай контрвыведкі.

Калі мне кажуць пра гадавіну ГКЧП, прыняцця Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі, прыняцця Канстытуцыі і іншыя юбілеі з айчыннай гісторыі, мне заўсёды згадваецца грубы армейскі анекдот. Калі генерал з праверкай прыязджае на вучэнні і пытаецца ў байца, якую яму баявую задачу паставіў камандзір. А той адказаць нічога не можа. «Што табе афіцэр казаў, калі цябе сюды ставіў?» — ужо па-простаму кажа генерал. «Не згубі гранатамёт, прыдурак», — адказвае баец.

Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі з наданнем ёй статусу Канстытуцыйнага закону сапраўды ператварылася ў «апошні гранатамёт» краіны, які ніяк не можна згубіць. Менавіта дзякуючы ёй, яе стваральнікам і падпісантам, мы не трапілі ў надзвычай жорсткую пастку ўсходняга «брата». Дзякуючы тым падзеям мы здолелі стаць краінай. І ўсе далейшыя «інтэграцыйныя памкненні» так ці інакш разбіваліся ў тым ліку аб канстытуцыйны прынцып Дэкларацыю аб незалежнасці.

Якой краінай мы сталі — гэта ўжо іншае пытанне. У прынцыпе, вырашэнне гэтага пытання да сёння залежыць ад нас. І гэтае права выбару шляху свайго развіцця — таксама вялікая заслуга дэпутатаў, якія дамагліся прыняцця тых дакументаў.

# «Калі ціск не спыніцца — буду здымацца з выбараў»

**Настаўніца Наталля Ільініч, кандыдатка ў дэпутаты ад Партыі БНФ па Пухавіцкай акрузе №65, сутыкнулася з ціскам адразу ж пасля таго, як зарэгістравала ініцыятыўную групу.**



Спачатку ёй выпісалі вялікі адміністратыўны штраф, які кандыдатка абскардзіла, а потым на яе пікеты па зборы подпісаў былі здзейснены напады невядомых асобаў.

Пасля рэгістрацыі выйшлі на новы ўзровень. Спачатку акруговая камісія адцэнзуравала фотаздымак, прадстаўлены кандыдаткай для размяшчэння на агульных плакатах: на ім Наталля Ільініч была сфатаграфаваная на фоне нацыянальнага гербу Пагоня і надпісу «Партыя БНФ», аднак нацыянальны фон з фотаздымку знік.

Потым старшыня акруговай выбарчай камісіі Пухавіцкай акругі Зміцер Матусевіч запатрабаваў, каб біяграфічныя звесткі кандыдатка пераклала з беларускай на рускую мову — маўляў, праўладныя кандыдаты падалі свае матэрыялы для агульных плакатаў на рускай мове, і менавіта на ёй будуць выкладзеныя звесткі ўсіх кандыдатаў. Наталлі Ільініч давялося скардзіцца ў ЦВК дзеля таго, каб дамагчыся гарантаванага Канстытуцыяй і выбарчым заканадаўствам права весці агітацыю на дзяржаўнай беларускай мове.

Аднак найбольшыя спрэчкі разгарнуліся вакол біяграфіі кандыдаткі, якая мусіць быць размешчаная на агульных плакатах, што будуць выдадзеныя акруговай камісіяй. Тут праз рэдактуру камісіі з біяграфіі Наталлі Ільініч зніклі ўсе дадзеныя, якія характарызуюць яе са станоўчага боку і якія могуць быць важныя для выбаршчыкаў: камісія выкрасліла звесткі пра тое, што спадарыня Наталля нарадзілася ў сям'і настаўнікаў, што яна — настаўнік вышэйшай катэгорыі, што зараз займаецца аграэкатурызмам, рэдагуе настаўніцкі метадычны сайт aacenka.by і з'яўляецца сябрам Таварыства беларускай школы. Ну і што ўжо зусім незразумела — з плаката пасля правак камісіі знік сказ: «Пісьменніца Святлана Алексіевіч, лаўрэат Нобеля–2015, падтрымала маю кандыдатуру і ўвайшла ў ініцыятыўную групу».

«Я лічу, што выкрасленая з маёй біяграфіі інфармацыя важная, бо сведчыць, што пасля звальнення са школы за ўдзел у Плошчы 2010 года я не загінула, а здолела навучыцца зарабляць, знайсці прымяненне сваім сілам і рэалізавацца без дзяржавы. Гэта інфармацыя сведчыць пра салідарнасць у нашым раз'яднаным грамадстве і пра наяўнасць грамадскіх арганізацыі. «Актыўная ацэнка» — паспяховы праект Таварыства беларускай школы, а сёння ўжо падхопленыі і «Настаўніцкай газетай» і Міністэрствам адукацыі», — кажа Наталля Ільініч.

Наталля Ільініч падала скаргу на незаконную цэнзуру біяграфічных дадзеных у абласную выбарчую камісію.

**Паводле прэс-службы Партыі БНФ**

# Міхаіл Жамчужны пацвердзіў, што яго збілі ў турме

**Пра турэмны гвалт, а таксама пра праблему з ліставаннем палітвязень напісаў у лісце да грамадскай актывісткі Ганны Шапуцькі.**

«Лісты традыцыйна затрымліваюць ці знішчаюць. Я напісаў скаргу ва Упраўленне выканання пакаранняў па Мінску і Мінскай вобласці. Вось што мне адказалі на мове арыгінала за подпісам начальніка: «Проверкой установлено, что осужденный Жемчужный М.И. в ИК-14 отправил и получил 170 писем (вх.-65, исх. 105). С момента постановки на профучет с 17.06.2016 по настоящее время им было получено 7 и отправлено 26 писем». Па гэтай статыстыцы знішчаецца пры перасылцы амаль тры чвэрці лістоў», — паведамляе Міхаіл Жамчужны. Таксама ён піша, што ён дасылаў тры лісты нобелеўскай лаўрэатцы Святлане Алексіевіч з падзякай за высланыя ёю падарункі-кнігі, аднак ніводзін ліст да адрасата не дайшоў.

Акрамя лістоў, па нейкіх прычынах за межы турмы не выходзяць скаргі Міхаіла Жамчужнага — у прыватнасці, скарга наконт збіцця турэмнымі супрацоўнікамі, якую вязень спрабаваў выслаць у Генпракуратуру. «Я гэтыя дакументы збіраў, каб перадаць Алёне Красоўскай-Каспяровіч, але ж яна не сустрэлася са мной пры маніторынгу ІК-14. Таму адаслаў на волю, каб было што прад'явіць у будучыні», — удакладняе Жамчужны.

У іншым лісце палітвязень апісаў некаторыя падрабязнасці свайго збіцця, пра якое стала вядома месяц таму з ліста яго паплечніка Андрэя Бандарэнкі, які таксама цяпер знаходзіцца ў турме. Паводле Міхаіла Жамчужнага, намеснік старшыні СІЧУ-2 па аператыўнай працы Лаўэр А.Н. ударыў яго кулаком у твар, ад чаго ў вязня застаўся пажыццёвы дэфект на твары, а таксама ён адчувае сталы звон у вушах і дрэнна бачыць правым вокам.

«Інцыдэнт суправаджаўся абразамі і нецэнзурнай лаянкай з боку падпалкоўніка ўнутранай службы і адбыўся 2015/08/06 у 17/10 у кабінеце СІЧУ-2 у прысутнасці аператыўнага работніка паста №17 Пракапчук А.П. Падставай для інцыдэнту паслужылі мае палітычныя погляды і, нібыта, аплата за іх мне і маёй сям'і з боку замежных спецслужбаў», — паведамляе Жамчужны.

Паводле інфармацыі Міхаіла Жамчужнага, запіс пра атрыманую ЧМТ ёсць у асабістай картцы, аднак выпіску з санчасткі адвакату далі без указання пра траўму. Жамчужны піша, што пры вобшуку частка дакументаў была сканфіскаваная і знішчаная. Па вызваленні з турмы палітвязень збіраецца прыцягнуць падпалкоўніка Лаўэра да крымінальнай справы за траўмы і катаванні, паведамляе Жамчужны.

# На месцы расстрэлаў у Трасцянцы знайшлі забітага барана

**Страшэнную знаходку пабачылі грамадскія актывісты, якія прыехалі ва ўрочышча Благоўшчына правесці акцыю, прымеркаваную да Міжнароднага дня памяці ахвяр нацызму і сталінізму.**

Увечары 23 жніўня каля дзесяці грамадскіх актывістаў правялі акцыю ў памяць пра ахвяр камуністычных рэпрэсій ва ўрочышчы Благоўшчына (каля вёскі Трасцянец, Мінскі раён).

Калі актывісты прыехалі да месца акцыі, яны ўбачылі, што пасярод дарогі, пад крыжам, ляжаў забіты баран.

«Баран быў са звязанымі нагамі і перарэзаным горлам, пабач з баранам быў намаляваны і пасыпаны соллю круг, па ўсёй даўжыні якога былі напісаны нейкія літары і лічбы. У цэнтры круга была вялікая чорная пляма — верагодна запечаная кроў — і ляжала недагарэўшае вуголле і попел. Відавочна, праводзіліся рытуальныя дзеянні», — напісала на сваёй старонцы ў Фэйсбуку ўдзельніца акцыі Ганна Шапуцька.

Пасля акцыі грамадскія актывісты выклікалі міліцыю, якую давялося чакаць больш за гадзіну. Міліцыянты перапісалі дадзеныя людзей і, апытаўшы, адпусцілі. Міліцыянты паведамілі, што перададуць звесткі экалагічнай службе.

У каментары «Новаму Часу» Ганна Шапуцька распавяла, што сёння наконт гэтай гісторыі ёй званілі з Рэмаўтадора — пыталіся, дзе ж ляжыць той баран. Маўляў, ён быў на праезнай частцы, таму міліцыя загадала яго прыбраць. «Ці будуць нейкія далейшыя дзеянні па расследаванні гэтага рытуальнага забойства — невядома. Міліцыянты настроены скептычна, маўляў, забіты ж не чалавек, а баран. Сказалі, што начальства павінна прыняць рашэнне цягам трох дзён — тады і будзе нейкая новая інфармацыя. Асабліва здзіўляе, што гэты баран ляжаў метрах у 500 ад шашы і, відаць, ляжаў не адзін дзень, бо распух, а нікому не было справы, хоць там ездзяць шмат машын. Вельмі абурае, што месца расстрэлаў настолькі занядбанае», — адзначыла Ганна Шапуцька.

Інтэрнэт-карыстальнікі актыўна абмяркоўваюць, што ж за рытуальнае забойства магло там адбыцца. Вядомы мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі выказаў здагадку пра тое, што гэта мог быць армянскі абрад ахвяравання «матах», а кіраўнік партала Крыніца.інфо Максім Гацак лічыць, што абрад праводзілі неапаганцы альбо прыхільнікі чорнай магіі.

# Беларускія ўлады працягваюць ігнараваць назіральнікаў ENEMO

**ЦВК і МЗС Беларусі пакінулі без адказу запыт з просьбай пра запрашэнне ў краіну назіральнікаў еўрапейскай сеткі ENEMO на парламенцкія выбары.**

Пра гэта кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» паведамілі ў Сакратарыяце ENEMO. Звароты ў ЦВК і МЗС Беларусі былі накіраваныя яшчэ ў чэрвені, але ў адказ не было нават электроннага паведамлення, не кажучы ўжо пра афіцыйны ліст, падкрэслілі прадстаўнікі міжнароднай арганізацыі. Яны нагадалі, што напярэдадні леташніх прэзідэнцкіх выбараў на аналагічны запыт ENEMO ЦВК хоць штосьці адказала: «Міжнародныя арганізацыі запрашаюцца Міністэрствам замежных справаў», а МЗС у сваю чаргу адказу не даў.

Варта адзначыць, што ўлады Беларусі не запрашалі місію ENEMO ні на адны выбары, нягледзячы на тое, што гэтая еўрапейская сетка назіральнікаў мае сур'ёзную рэпутацыю ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, ажыццяўляе назіранне ў многіх краінах былога Савецкага Саюза — Украіне, Азербайджане, Грузіі, Арменіі, Малдове, Кыргызстане, Казахстане, у некаторых балканскіх краінах, у прыватнасці ў Косава — то бок, у тых месцах, дзе сапраўды ёсць патрэба ў назіранні за выбарамі.

Да ўсяго, ад іншых міжнародных місій ENEMO адрознівае пэўная спецыфіка: гэта не міждзяржаўнае ўтварэнне (як, напрыклад, АБСЕ), а міжнародная сетка, якая аб'ядноўвае няўрадавыя арганізацыі з розных краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія прафесійна займаюцца назіраннем за выбарамі і з'яўляюцца незалежнымі, палітычна неангажаванымі. Магчыма, менавіта гэтая спецыфіка, прафесіяналізм сябраў ENEMO і насцярожвае беларускія ўлады.

Нагадаем, што ў ENEMO ўваходзяць дзве арганізацыі з Беларусі — Праваабарончы цэнтр «Вясна» і Беларускі Хельсінкскі камітэт, якія з 2008 года ладзяць назіранне на нацыянальным узроўні ў межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары».

Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» з'яўляецца незалежнай і не ставіць мэтай падтрымку палітычных партый і якіх-небудзь палітычных дзеячаў. Увесь выбарчы працэс назіральнікі ацэньваюць выключна зыходзячы з прынцыпаў свабодных, дэмакратычных і празрыстых выбараў, пры якіх народ Беларусі можа ў поўнай меры рэалізаваць свае канстытуцыйныя правы на ўдзел у кіраванні сваёй краінай.

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Уверх па лесвіцы, што вядзе ўніз

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Падаецца, урад з нагоды передвыбарчай кампаніі пачало ліхаманіць. Нягледзячы на тое, што міністры не збіраюцца рабіцца дэпутатамі, яны паддаліся агульнаму ажыятажу і пачалі ці тое выдаваць перадвыбарчыя абяцанкі, ці тое заспакойваць насельніцтва і сваіх непасрэдных кіраўнікоў. Інакш нельга растлумачыць, чаму на нас абрынуўся вал аптымістычных прагнозаў.**

Напрыклад, 23 жніўня па выніках сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніцтвам Нацбанка і Саўміна кіраўнік Нацыянальнага банка Павел Калаур паведаміў, што стабільнасць на валютным рынку захаваецца да канца 2016 года. «Нягледзячы на тое, што мы сутыкнуліся ў гэтым годзе з новымі выклікамі — гэта зніжэнне экспарту ў коштавым выражэнні, у першую чаргу па такіх групах, як нафтапрадукты і калій, — урад і Нацбанк разам з банкаўскай сістэмай прынялі адпаведныя захады, якія дазволілі сітуацыю на валютным рынку істотным чынам стабілізаваць. Гэта стабільны стан прагназуецца і да канца года», — цытуе Калаўра агенцтва БелТА.

Калаўр таксама сказаў, што падчас сустрэчы Лукашэнка звярнуў увагу ўрада і Нацбанка, а таксама іншых банкаў на неабходнасць прыкласці адпаведныя намаганні для захавання належнай рэсурснай падтрымкі непасрэдна для крэдытавання рэальнага сектара эканомікі. «Давер да банкаў захоўваецца з боку партнёраў за межамі краіны. Банкі не зніжаюць, а павялічваюць рэсурсную базу за кошт сродкаў нерэзідэнтаў. Захоўваецца давер да банкаўскай сістэмы і ўнутры нашай краіны, што выяўляецца ў пэўнай дынаміцы укладаў насельніцтва», — заявіў Калаўр.

З апошнім можна паспрачацца. Канешне, насельніцтва (не ад добрага жыцця, зразумела) панесла ў банкі свае валютныя «заначкі», каб захаваць прыстойны лад жыцця. Аднак даступная статыстыка сведчыць: за першыя пяць месяцаў года колькасць рублёвых укладаў паменшылася як у найбуйнейшых банках, так і ў сярэдніх і дробных: у найбуйнейшых — з 17,1% на 1 студзеня да 16,4% на 1 чэрвеня, у сярэдніх і дробных — з 9,4% да 9,1%.

Але ключавым выказваннем Лукашэнкі на гэтым зборы было ўсё ж захаванне «належнай рэсурснай падтрымкі непасрэдна для крэдытавання рэальнага сектара эканомікі». Што гэта значыць? Што банкі зноў абавяжуць крэдытаваць прадпрыемствы.

З гэтым у нас такі шваx, што незалежныя аналітыкі сур'ёзна турбуюцца і за прадпрыемствы, і за банкі. У першым паўгоддзі 2016 года рэзка павялічылася сума пратэрмінаванай запазычанасці арганізацый па крэдытах і пазыках. Толькі ў Мінску гэтая лічба вырасла ў 1,6 разы. Сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Віктар Маргелаў у інтэрв'ю «Заўтра тваёй краіны» падлічыў, што эканоміка (чытай — прадпрыемствы) павінна банкам пяць месячных выручак. «Дыяна ў жыцці гэта ніколі не аддасць», — лічыць Маргелаў. Адсюль узнікае крызіс неплацяжоў, які выкліча развал прадпрыемстваў, што набралі залішне шмат крэдытаў. А наступны этап — сур'ёзны крызіс банкаў.

І, як мы бачым, Лукашэнка патрабуе працягваць крэдытаванне «рэальнага сектара».

У гэтай сітуацыі і вожыку зразумела: трэба бегчы ў банкі і здымаць свае грошы, пакуль сістэма не лопнула. І ў далейшым захоўваць іх у слоіку. Што, як сведчыць прыведзеная вышэй статыстыка па банкаўскіх укладах, беларусы і робяць. Значыць, не дурнейшыя за вожыка.

На той жа сустрэчы наконт рэальнага сектару, які трэба крэдытаваць, выказаўся прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў. Па яго словах, «у ліпені мы трошкі аселі (па ВУП), на 0,2%. Але гэта было ў канкрэтнай сітуацыі з канкрэтнымі абставінамі». Паводле слоў прэм'ера, беларускі бок спадзяецца, што «гэта часовая з'ява».

Кабякоў падкрэсліў, што па выніках першага паўгоддзя ВУП склаўся на ўзроўні 97,5% да аналагічнага перыяду мінулага года, па выніках студзеня гэты паказчык складаў 95,6%. «Гэта значыць, мы на 1,9 працэнтнага пункта за паўгоддзе палепшылі паказчык па ВУП», — дадаў ён.

Рост на 1,9% — гэта, канешне, крута. Асабліва калі ўзгадаць параўнальны 2015-ы, калі наш ВУП знізіўся на 3,6%. То бок на самай справе, гэта не рост, і нават не ўзнаўленне да мінулых паказчыкаў. Гэта ўсё яшчэ падзенне. Гледзячы з чым параўноўваць. Айчынныя чыноўнікі і прапагандысты ў гэтым даўно абазнаныя і параўноўваюць наш узровень жыцця з Кыргызстанам, а не з Польшчай ці Германіяй.

Што сапраўды з'яўляецца паказчыкам рэальнага стану эканомікі — гэта нашыя адносіны да беспрацоўных. Калісьці НЧ пісаў пра буйныя планы ўрада даць дадатковае страхаванне гэтай катэгорыі эканамічна актыўнага (падкрэслю гэта) насельніцтва і стварыць 50000 працоўных месцаў штогод. Дык вось, каб не было пытання, дзе гэтыя месцы і чаму беспрацоўе расце, статыстыку па беспрацоўі проста «замажуць».

**Трэба бегчы ў банкі і здымаць свае грошы. І ў далейшым захоўваць іх у слоіку. Што, як сведчыць статыстыка па банкаўскіх укладах, беларусы і робяць**

З 23 кастрычніка ўдвая скарачаецца максімальны перыяд знаходжання на ўліку ў якасці беспрацоўнага — з 36 да 18 месяцаў. Таксама ўносяцца карэкціроўкі адносна таго, пры якіх абставінах адбываецца зняцце з уліку. Калі раней такая мера ўжывалася за няяўку ў органы па працы, занятасці і сацыяльнай абароне больш за 3 месяцы, то зараз гэты перыяд складае 2 месяцы. Выплата дапамогі па беспрацоўі будзе прыпыняцца ў тым выпадку, калі чалавек без паважнай прычыны не прыйшоў на перамовы з наймальнікам на працягу двух рабочых дзён.

Узмацняюцца ўмовы паўторнай рэгістрацыі. Тыя, каго здымуць з уліку, могуць зноў зарэгістравацца ў якасці беспрацоўнага… толькі праз год!

І яшчэ адзін «званочак» сапраўднага стану «сацыяльнай дзяржавы». З 1 кастрычніка ў Беларусі ўводзяцца безнаяўныя жыллёвыя субсідыі для частковай кампенсацыі платы за ЖКГ і платы за карыстанне жылымі памяшканнямі, паведаміў журналістам той жа Кабякоў. Разлічваць на падтрымку змогуць сям'і, дзе аплата жыллёва-камунальных паслуг будзе перавышаць усталяваны працэнт ад сукупнага даходу. «Для гараджан гэта выдаткі больш за 20%, а для сельскай мясцовасці — 15%», — растлумачыў прэм'ер.

Паводле падлікаў ураду, гэтым скарыстаецца 10% сем'яў. То бок, кожная 10-я сям'я не ў стане самастойна заплаціць па жыроўках! Вось вам і «беларускі эканамічны цуд».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Юрый Хашчавацкі



**Знакамітаму рэжысёру, які «парваў інтэрнэт» сваім перадвыбарчым выступам, не далі зрабіць тое ж самае ў прэсе.**

Рэдакцыя газеты «Вечерний Минск» адмовілася друкаваць праграму кандыдата ў дэпутаты.

У адмове гаворыцца, што перадвыбарная праграма не можа быць апублікаваная, бо не адпавядае патрабаванням артыкулаў 47 і 75 Выбарчага кодэкса.

У артыкулах 47 і 75 гаворыцца, што праграма кандыдата не павінна змяшчаць прапаганды вайны, заклікаў да гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу, да сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці, заклікаў, якія падахвочваюць або маюць сваёй мэтай падахвочванне да зрыву, або адмены, або пераносу тэрміну выбараў, а таксама абразаў і паклёпу ў дачыненні да службовых асобаў Рэспублікі Беларусь, іншых кандыдатаў у дэпутаты.

На думку Хашчавацкага, у яго праграме няма парушэння гэтых нормаў. Рэжысёр мяркуе, што рэдакцыі мог не спадабацца ягоны пасаж: «20 гадоў мы жывем у рэжыме адзінаўладдзя, і рашэнні прымае адзін не вельмі адукаваны чалавек, галоўнай мэтай якога з'яўляецца не развіццё Беларусі, а ўтрыманне асабістай, нічым не абмежаванай улады».

«Яны пакрыўдзіліся за Аляксандра Рыгоравіча: я сказаў, што ён не вельмі адукаваны чалавек. Але гэта праўда. Усім вядома, што гісторык па адукацыі (…) сказаў, што Скарына жыў і працаваў у Піцеры. Хоць Скарына памёр за 150 гадоў да таго, як быў закладзены Санкт-Пецярбург. Гісторык павінен быў гэта ведаць. Калі ён гэтага не ведае, значыць, ён не вельмі адукаваны. Таксама ўсім вядомыя яго літаратурныя веды, да прыкладу, з нагоды вершаў Быкава», — пракаментаваў Хашчавацкі.

## Наталка Бабіна



**Прэзідэнт Украіны ўзнагародзіў некалькі замежных грамадзян «За важкі асабісты ўклад ва ўмацаванне міжнароднага аўтарытэту ўкраінскай дзяржавы, папулярызацыю яе гістарычнай спадчыны і сучасных дасягненняў і з нагоды 25-й гадавіны незалежнасці Украіны».**

Сярод узнагароджаных — беларуская пісьменніца, аўтарка «Нашай Нівы» Наталка Бабіна. Яе Парашэнка ўзнагародзіў спецыяльнай адзнакай — юбілейным медалём «25 гадоў незалежнасці Украіны». Наталка Бабіна — кіраўнік таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.

Гэтым медалём таксама ўзнагароджаныя: Віктар Гутоўскі — кіраўнік Беларускага грамадскага аб'яднання ўкраінцаў «Ватра», Галіна Калюжная — кіраўнік Мінскага аб'яднання ўкраінцаў «Заповіт», Валянціна Логвін — старшыня грамадскага аб'яднання «Цэнтр украінскай культуры «Січ», Віктар Місіюк — кіраўнік украінскай навукова-педагагічнай суполкі «Берагіня» ў Беларусі; Раман Матульскі — дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі, кіраўнік таварыства «Беларусь — Украіна».

## Марыяна Шчоткіна



**Міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі гатова пакінуць сваю пасаду дзеля крэсла ў Савеце Рэспублікі.**

«З 56 вылучаных кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі адзін з'яўляецца членам урада — міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна. Гэта з'яўляецца перашкодай для ўваходжання ў верхнюю палату, трэба, каб сябра ўрада даў абавязацельства пакінуць сваю пасаду», — паведаміла старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына.

«Марыяна Акіндзінаўна такое абавязацельства нам дала», — дадала кіраўнік ЦВК.

На пасадзе міністра працы і сацыяльнай абароны Шчоткіна правяла пытанне падвышэння пенсійнага ўзросту. Усім запомнілася яе выказванне, што беларус павінен працаваць на дзвюх працах, каб пракарміць сям'ю. Таксама яна абараніла дысертацыю, у якой прызнала, што дзяржава не спраўляецца з сацыяльным абслугоўваннем пры цяперашняй дэмаграфічнай сітуацыі (павелічэнне колькасці інвалідаў, пенсіянераў і адзінокіх людзей), і ростам патрабаванняў насельніцтва да якасці паслуг.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Маналогам па дыялогу




**Спробы сфармаваць нацыянальную культуру за «жалезнай заслонай» яшчэ нідзе не прыводзілі да станоўчых вынікаў.**

Пра што б я пісаў, калі б «Советская Белоруссия» не падкідвала мне тэмы? На жаль, такія масцітыя аўтары, як акадэмік Анатоль Рубінаў або філосаф Вячаслаў Оргіш, нячаста ажыўляюць сваімі аналітычнымі артыкуламі самую салідную газету краіны. Але жыццё не стаіць на месцы. Падрастае новае пакаленне арыгінальных мысляроў. Журналіст Барыс Лепяшко — адзін з іх.

«Дыялог і маналог культур». Так называецца яго артыкул, апублікаваны ў адным з нумароў «СБ». Паспрабую коратка выкласці яго змест.

Для развіцця беларускай нацыянальнай самасвядомасці маналагічныя працэсы важней за дыялагічныя. Чаму? Усё вельмі проста. Дыялог патрабуе роўнасці бакоў, і прадуктыўным ён можа быць выключна «ў рамках стабільнай сітуацыі ў культурным асяроддзі, а не ў сітуацыі, калі маюцца прынцыповыя рознагалоссі, што раз'ядаюць душу і плоць нацыі».

Такім чынам, да дыялогу культур нацыянальнай культуры трэба будзе яшчэ дарасці, для чаго трэба навесці парадак ва ўласным доме, сфармаваць пачуццё нацыянальнай годнасці, а ўжо потым распачаць узаемаўзбагачальнае ўзаемадзеянне з іншымі культурамі.

У якасці прыкладу журналіст спасылаецца на досвед культурнага будаўніцтва ў Расіі. Да Чаадаева, Пушкіна, Гогаля і Лермантава дыялог быў немагчымы, бо з расійскага боку суб'ект дыялогу адсутнічаў. Пасля з'яўлення пералічаных вышэй аўтараў сфармавалася нацыянальная культура, яна «заявіла пра сябе ў поўны голас» і «засталася ў гісторыі і сучаснасці ў якасці культуры Сярэбранага веку» (Барыс Лепяшко пераблытаў Сярэбраны век рускай паэзіі з залатым векам, але прапаную заплюшчыць вочы на гэткую дробязь).

Як бы апраўдваючыся за арыгінальнасць сваіх поглядаў, журналіст тлумачыць: «Гэта не значыць, вядома, што фармаванне нацыянальнай культуры магчыма толькі ў нацыянальным асяроддзі і толькі на аснове нацыянальнага матэрыялу. Гэта значыць, што па-за нацыянальным кантэкстам любыя «дыялогі» асуджаныя або на касмапалітызм, або культуры, якія толькі фармуюцца ці афармляюцца, звядуць ціск культур, якія склаліся».

Але ідзем далей. Нацыянальная культура — аснова ідэйнай кансалідацыі. Таму замест «перацягвання культурнай коўдры» ўдзельнікам працэсу варта засяроддзіца на стварэнні «асновы ўзаемнага разумення». Перашкаджае разуменню «барыкаднае» мысленне. Дзеля яго пераадолення і варта звярнуцца «да маналогу беларускай культуры», і весці гэты маналог трэба ў кансалідуючым асяроддзі, «у рамках якога нацыянальнае развіццё прыме агульнаўзгодненыя формы».

Вы штосьці-небудзь зразумелі? Я зразумеў, але мне дзеля гэтага спатрэбілася некалькі разоў перачытаць артыкул.

### Імпартазамяшчэнне не спрацоўвае

«Сябар мой, — пісаў Пушкін у сваім французскім лісце да Чаадаева ў ліпені 1831 года, — я буду гаварыць з вамі на мове Еўропы», і робіць тут жа нечаканае прызнанне: «яна мне больш звыклая за нашую». Вось такі вопыт будаўніцтва нацыянальнай культуры ў Расіі — не выдуманы журналістам, а рэальны.

«Русская мысль» (чытай, руская высокая культура), — тлумачыць акадэмік Юрый Півавараў — «прачынаецца» ў прапогу XIX стагоддзя. Мінула стагоддзе запазычанняў, вучнёўства, пераймальніцтва. Яна гатовая да спелай творчасці. Карабель Асветы пацярпеў крушэнне ў штормах Французскай рэвалюцыі. Напалеонаўскія войны, рамантызм, гістарычная школа права, нямецкая філасофія, кансерватызм (Шатабрыян), лібералізм (Бенжамен Канстан), сацыялізм і г.д. — на ўсё гэта неабходна было даць адказ. Якая эпоха сыходзіла! І якая ўступала ў свае правы!»

У тэрміналогіі Б. Лепяшко, усё пералічанае — гэта ціск культур, якія склаліся, на культуры, што толькі фармуецца. Аднак вынік ціску добра вядомы — гэта вялікая руская культура XIX стагоддзя. Не апошнюю ролю ў яе фармаванні адыграў «француз» (мянушка Пушкіна ў ліцэі).

Фразеалагізм «нацыянальная культура» журналіст шчодра рассыпаў па ўсім артыкуле. Але прыглядзіцеся да яго больш уважліва. Любая нацыянальная культура распадаецца на «высокую» і «народную». Першая, у адрозненне ад другой, звязаная з адукацыяй. Таму ў саслоўным грамадстве яна развіваецца вышэйшымі саслоўямі. Акрамя таго, «высокая» культура, як правіла, індывідуалізаваная (прызначаная індывіду), а «народная», у асноўным, калектывісцкая.

Без «высокай» культуры нацыі не пабудаваць. Як сведчыць еўрапейскі вопыт, для фармавання нацыянальнага культурнага ядра патрэбныя два кампаненты: 1) нацыянальная гісторыя, якая задае ідэю народа; 2) высокая свецкая індывідуалізаваная нацыянальная літаратура, якая задае ўзоры паводзінаў у розных жыццёвых сітуацыях, а таксама выхоўвае пачуццё патрыятызму.

Як немагчыма пабудаваць эфектыўную эканоміку, абапіраючыся на прынцып імпартазамяшчэння, так немагчыма стварыць за «жалезнай заслонай» і «высокую» нацыянальную культуру. Але менавіта гэта і прапануе журналіст «СБ», што не адрознівае «высокай» культуры ад «народнай».

### Быць большым каталікам за Папу Рымскага

Паўтару ключавую думку артыкула: «Дзеля развіцця беларускай нацыянальнай самасвядомасці маналагічныя працэсы больш важныя за дыялагічныя». Тут варта падкрэсліць, што аўтар аддае прыярытэт маналогу не толькі пры ўзаемадзеянні беларускай культуры з культурамі іншых народаў, але і разглядае маналог у якасці асноўнага інструмента ідэйнай кансалідацыі беларускага грамадства!

Але хто ў такім выпадку надзяляецца правам «прамаўляць» маналог? Само грамадства? Але беларускае грамадства, паводле прызнання адзінага палітыка (АП), складаецца з большасці і меншасці. Для тых, хто забыўся, я нагадаю: «Свае віншаванні я таксама адрасую нашай меншасці. Вы павінны ведаць: вас успрымаю як неад'емную частку нашага грамадства, са сваімі мэтамі, поглядамі і імкненнямі. Вы маеце свой пункт гледжання, асаблівае разуменне светаўладкавання і развіцця нашай краіны. Гэта ваша права, якое забраць у вас ніхто не можа» (глядзі навагодні зварот АП ад 31.12.2010).

Мне могуць запярэчыць, што на адно публічнае прызнанне меншасці з яе правам на ўласны пункт гледжання прыпадаюць дзясяткі разваг АП на тэму адзінства і згуртаванасці беларускага народа. Гэта сапраўды так. Навагодняе прызнанне было зроблена праз некалькі дзён пасля разгону Плошчы. Ніякіх наступстваў яно не мела.

Адмову меншасці ў праве на існаванне рэгулярна пацвярджаюць і выбары ўсіх узроўняў. Па прыклады далёка хадзіць не трэба. У верасні беларусам трэба будзе выбіраць так званых дэпутатаў так званага парламента. Колькі прадстаўнікоў меншасці атрымаюць мандаты? Наіўнае пытанне.

20 снежня 2010 года на прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў айчынных і замежных СМІ АП прылічыў да меншасці кожнага пятага беларуса: «Але давайце будзем сумленныя: 20% ці выказаліся супраць, ці прагаласавалі за альтэрнатыўных кандыдатаў. Пагадзіцеся, што ёсць над чым падумаць» (25–30% паводле НІСЭПД).

Аднак прадстаўнікі афіцыйнай беларускай навукі імкнуцца быць большымі каталікамі, чым Папа Рымскі. Так, паводле меркавання палітолага, навуковага супрацоўніка Інстытута філасофіі НАН Аляксея Дзерманта, «ёсць, вядома, і частка грамадства (7–10%), якой блізкія радыкальныя апазіцыйны сілы» («СБ» ад 13.07.2016).

У якасці каментара прывяду фрагмент з кнігі Нобелеўскага лаўрэата Фрыдрыха Хайека «Дарога да рабства»: «Калі навука пастаўленая на службу не праўдзе, а інтарэсам класа, грамадства або дзяржавы, яе адзінай задачай становіцца абгрунтаванне і распаўсюджванне ўяўленняў, што скіроўваюць усё грамадскае жыццё. <…> Само слова «ісціна» губляе пры гэтым сваё першапачатковае значэнне. Калі раней яго выкарыстalі для апісання таго, што трэба было знайсці, дык зараз гаворка ідзе пра нешта, што ўсталёўвае ўлада, у што трэба верыць у інтарэсах адзінства агульнай справы».

### Было б што падсумоўваць

Існуюць два ўніверсальныя спосабы вызначаць інтарэсы «агульнай справы» і падтрымліваць адзінства ў грамадстве пры іх дасягненні (у тэрміналогіі журналіста «СБ» гэта маналагічны і дыялагічны працэсы).

Першы спосаб — просты і відавочны. Растлумачу на канкрэтным прыкладзе. На першых (яны ж і апошнія — гэта важна!) дэмакратычных прэзідэнцкіх выбарах абіраецца кіраўнік дзяржавы. Далей ён з дапамогай усенародных рэферэндумаў каряктуе Канстытуцыю, пакідаючы ад прынцыпу падзелу ўлады ўрожкі ды ножкі.

Вось, уласна кажучы, і ўсё. Заканадаўчая база для правядзення маналагічнага працэсу гатовая. Маецца ў наяўнасці і адзіны суб'ект палітыкі. І зараз усе яго асабістыя інтарэсы можна смела абвяшчаць інтарэсамі нацыянальнымі. Дзеля чысціні працэсу актыўных нязгодных варта абвясціць «пятай калонай». Балазе, што гэты тып людзей мае схільнасць публічна маюкацца і задавольваць малую патрэбу ў грамадскіх месцах. А ў жадаючых засведчыць гэткія адміністрацыйныя правапарушэнні рэспубліка-партызанка ніколі не мела недахопу. Што тычыцца неактыўных нязгодных, то іх можна проста не заўважаць, у тым ліку і пры падліку бюлетэняў.

Пры другім спосабе за кожным індывідам прызнаецца права на пераслед асабістых мэтаў, што на практыцы патрабуе акрэсліць выразныя рамкі, у межах якіх кожны можа распараджацца даступнымі яму сродкамі. Нацыянальныя ж інтарэсы ёсць ні што іншае, як выніковая асабістых інтарэсаў, і вызначаюцца яны з дапамогай ДЫЯЛОГУ. Пры гэтым неабходна памятаць, што інтарэсы нацыі і інтарэсы дзяржавы — гэта не тоесныя сутнасці. Бо што такое дзяржава? У нашай краіне — гэта бюракраты. А інтарэсы бюракратыі і грамадства адрозніваюцца.

Аднак было б занадта наіўна паспрабаваць сфармаваць нацыянальныя інтарэсы простым падсумаваннем прыватных інтарэсаў. На практыцы можа апынуцца, што падсумоўваць і не будзе чаго, таму што далёка не кожны індывід здольны асэнсоўваць рэальнасць у катэгорыі інтарэсаў. Значна працэй даручыць гэтую няпростую працу «ўсенароднаабранаму». А пры такім падыходзе панаццэ нацыянальных інтарэсаў пазбаўленае сэнсу.

# Алесь Лагвінец: «Збольшага сваёй мэты мы дасягнулі»

Сяргей ПУЛЬША

**Пікет-канцэрт з удзелам Лявона Вольскага, агітацыйныя расцяжкі на мастах, «Лагвінецмабіль» і іншыя фішкі кампаніі па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Алеся Лагвінца зачапілі ўсё палітызаванае грамадства. Не дзіва, што Алеся не зарэгістравалі. Пра тое, як паламаць шаблоны, намеснік старшыні Руху «За Свабоду» распавядае чытачам НЧ.**



***— Алесь, першае пытанне стандартнае. Выбараў няма, навошта марнаваць свае высілкі без выніку?***

— Выбараў няма, але ёсць выбарчая кампанія. Калі мы не ўдзельнічаем у кампаніі, мы проста не прысутнічаем у публічнай прасторы, становімся яшчэ больш адарванымі ад людзей, ад іх патрэбаў. Безумоўна, можна і трэба працаваць з людзьмі па-за кампаніямі, але выбарчая кампанія — гэта магчымасць заваяваць давер людзей і ахапіць — праз фізічную прысутнасць, праз візуалізацыю, — больш шырокае кола грамадзян. Вось галоўная прычына ўдзелу ў кампаніі.

Мы павінны даваць людзям альтэрнатыву. Паказаць, што ва ўладаў словы і справы — гэта дзве розныя рэчы. Калі не спрабаваць удзельнічаць, то ўлады могуць настварацъ «альтэрнатыўных» кандыдатаў, зрабіць выгляд, што прайшлі выбары, і нават дазволіць сабе раскошу палічыць бюлетэні.

Ад пачатку кампаніі я арыентаваўся на тое, што збор подпісаў — гэта самая ліберальная частка кампаніі. Менавіта таму мы прыдумалі шэраг такіх «асіметрычных», нечаканых крокаў, якія дазволілі нашай камандзе і мне асабіста заіснаваць публічна ў нашай акрузе.

***— Ці цяжка вам было праводзіць гэтую «асіметрычную» кампанію?***

— Вялікіх складанасцяў не было. Найбольшы выклік — гэта мы самі. Я не лічу цяжкасцямі скаргі, якія на мяне пісалі па падказцы мясцовых уладаў ці спецслужбаў.

Я зыходзіў з таго, што выбарчая кампанія — гэта спосаб прыцягнення ўвагі да несправядлівых момантаў у нашым жыцці, да тых праблемаў, якія ёсць у грамадстве агульнанацыянальна альбо ў акрузе лакальна. У агульнанацыянальным ёсць тое, што прадстаўнікі беларускай культуры рашэннем уладаў адрэзаныя ад сваёй публікі, якая іх любіць і прызнае. Я паспрабаваў спалучыць адно і другое.

Што тычыцца канцэрту, то я задаў Лявону пытанне наконт канцэрту, ён не сказаў «не», падумаў, і, калі мы да гэтага пытання вярнуліся, ён пагадзіўся.

Пры арганізацыі канцэрту мы сутыкнуліся з пэўнымі цяжкасцямі. Побач быў адміністрацыйны будынак, і ў ім ніхто не пагадзіўся падлучыць нас да электрычнасці, адмовілі нават арэндаваць разетку на паўтары гадзіны! Нам проста пашэнціла, што ў доме непадалёк адна сям'я ласкава дала згоду падлучыцца да яе разеткі. Нізкі ім паклон!

У нас былі два генератары, але ў той момант, калі людзі ў цывільным спрабавалі націснуць на гаспадароў кватэры і перакрыць нам электрычнасць, ніводзін з іх не заводзіўся. Магло б атрымацца вельмі непрыгожа.

Абвесткі пра «спеўны пікет» мы рабілі праз сацыяльныя сеткі, вырабілі запрашальнікі на сустрэчу з прэтэндэнтам у кандыдаты з канцэртам. Раздалі людзям недзе паўтары тысячы гэтых запрашальнікаў. Але такой колькасці людзей мы не чакалі.

Мы зрабілі яшчэ адну «асіметрычную» рэч — «мост нацыянальнага сцягу». З бел-чырвона-белымі сцягамі стаялі на мосце праз МКАД. Зараз Мінгарвыканкам унёс змены ў сваю пастанову пра дазволеныя месцы пікетаванняў, і забараніў акцыі на мастах, віядуках і праезных частках дарог. То бок, фактычна забаранілі выкарыстоўваць машыны для агітацыі за кандыдата. Гэта канкрэтная рэакцыя Мінгарвыканкаму на тое, што мы рабілі.

***— Пытанне, якое цікавіць усіх і заўсёды: яркая выбарчая кампанія патрабуе грошай. Адкуль грошы на кампанію, і наогул, у якую капейчыну яна ўляцела?***

— Грошы я ўклаў свае і некаторых сяброў. Насамрэч, вялікіх грошай на кампанію не трэба. Сцягі: матэрыял каштаваў два з паловай мільёны недэнамінаваных рублёў — 250 сучасных. Пашыла іх актывістка Руху. Стэнды — фактычна капейкі, каштавала толькі жалеза і фарба. Зварылі, разрэзалі і пафарбавалі іх я асабіста і сябры маёй каманды. 10 рублёў каштавала фарба. Улёткі — раздрукаваць паўтары тысячы запрашальнікаў на канцэрт Вольскага можна на любым прынтары.

Фактычна, зараз кампанія каштуе два-тры месячныя заробкі. Любы грамадзянін, які думае стаць дэпутатам не «зараз», а за два-тры гады, можа зэканоміць гэтыя сродкі.

Я прыхільнік таго, што, калі ты не здольны ідэйна мабілізаваць людзей — не трэба сунуцца ў палітыку. Я, напрыклад, не разумею тых, хто плаціць грошы зборшчыкам за подпісы. Так, у



кампаніі ёсць выдаткі, трэба, каб былі грошы, але самае галоўнае — гэта людзі, каманда, жаданне дапамагчы.

Яркая кампанія — гэта не грошы, гэта ідэі. Канцэрт Вольскага — мая ідэя. Пікет на мосце — майго сына. Ідэя банераў — Пятра Маркелава. Здымкі нам дапамагаў рабіць бясплатна адзін вядомы беларускі фатограф, ён жа дапамог з дызайнам банеру. То бок, у нас у краіне ёсць людзі, якія гатовыя ўкладаць не грошы, а сваю працу дзеля таго, каб адбыліся змены. І гэта той патэнцыял, які надалей трэба выкарыстоўваць. Дарэчы, «Вышысцяг» — гэта таксама ідэя Маркелава.

Мы працавалі і працуем так, каб у людзей быў імпэт. Мне вельмі хацелася, каб мая каманда адчула асалоду ад камунікацыі з людзьмі. Каб досвед гэтай камунікацыі, жаданне зменаў, імкненне пераканаць людзей, што змены магчымыя, — перадаваліся ў камандзе. І потым ад каманды — далей. Мне здаецца, што гэта ў нас атрымалася.

***— Тое, што вас не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты, вашай дзейнасці не перашкодзіла?***

— Зазначу, знялі з кампаніі мяне не за канцэрт Вольскага, не за пікеты і «Лагвінецмабіль», і не за скаргі, якія пісалі настаўнікі. Фармальна мяне не зарэгістравалі за распаўсюд друкаваных матэрыялаў, якія забароненыя пастановай ЦВК. Друкаваныя матэрыялы — гэта мая візітоўка, якую мы давалі зацікаўленым, запрашэнне на «спеўны пікет», і газета «Народная воля», якую на пікеце раздавала рэдакцыя дзеля рэкламы выдання. Такое палажэнне ў пастанове ЦВК — атавізм. Ладна, напісалі б агітацыйныя матэрыялы.

Дарэчы, упэўнены, калі б не гэта, яны б знайшлі іншыя падставы, каб мяне не рэгістраваць.

Але кампанія яшчэ не скончаная — хачу гэта падкрэсліць. Нерэгістрацыя не перашкаджае дзейнічаць у акрузе далей. Мы ўжо зараз сабралі больш за 100 подпісаў за вырашэнне дзвюх мясцовых праблемаў. Адна з іх — рамонт мосту праз МКАД, дзе мы ставілі пікет. На ім у пешаходнай зоне пасля кожнага дажджу ствараецца лужына, праз якую людзям даводзіцца скакаць, вельмі небяспечна яе абыходзіць. Гэтую сотню подпісаў мы пададзім, а яшчэ фармуляры заяваў параскідваем па паштовых скрынках, каб людзі і індывідуальна дасылалі звароты па гэтай праблеме.

Да канца кампаніі мы думаем сабраць подпісы за рашэнне іншых праблем, на якія не звяртаюць увагі ні ўлады, ні іх мясцовыя дэпутаты. Якія, у прынцыпе, і павінны былі такія праблемы вырашаць. Дарэчы, мая канкурэнтка па акрузе і ёсць мясцовая дэпутатка. Яна ўжо двойчы мясцовая дэпутатка, але я не чуў ад людзей, каб яна намагалася вывучаць і вырашаць праблемы выбарцаў.

Збольшага мы ўжо дасягнулі мэтаў сваёй кампаніі. У нас яшчэ ёсць два тыдні да яе заканчэння, і мы яшчэ будзем у публічнай прасторы як акругі, так і агульнанацыянальнай.

Ёсць адзін індыкатар, лакмусавая паперка, якая кажа, што і сёлета падліку галасоў не будзе. Я бадай што адзіны з усіх альтэрнатыўных кандыдатаў, які вылучыў кандыдатаў ва ўчастковыя камісіі падвойным чынам: ад грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне» 34 чалавекі, і 37, уключаючы тых жа 34 — шляхам збору подпісаў грамадзян. Усіх чальцоў выбарчых камісіяў у акрузе — 442 чалавекі. Нашых уключылі толькі двух, а гэта 0,5% ад агульнай колькасці. Таму абвешчаныя вынікі будуць проста капрызам уладаў.

Я хачу выйграваць выбары, а не быць прызначаным. І, зважаючы на водгукі людзей, я сапраўды меў шанцы атрымаць большасць.

***— А рэакцыя людзей у параўнанні з папярэднімі выбарамі змянілася?***

— Варта адзначыць, што 101-я акруга — адна з самых «маладых» у горадзе. У ёй жывуць маладыя, эканамічна актыўныя, адукаваныя людзі, шмат хто з іх падзяляе дэмакратычныя каштоўнасці. Але як бы я гэтага ні хацеў, мушу прызнаць — сёння «рэвалюцыйнай сітуацыі» няма. Ёсць людзі, якія хочуць зменаў, але большыя з іх не вераць у гэтыя змены, у тое, што яны магчымыя. Яны бачаць, што ўлада не вядзе да зменаў, і ў той жа час не вераць у свае сілы нешта змяніць. І гэтае стаўленне трэба памяняць, будуючы больш давер людзей і прапануючы альтэрнатыву.

Кожная другая кватэра, у якую мы заходзілі, — пры тым, што зараз лета, няшмат хто ёсць дома, — падпісвалася. Подпіс — гэта ўсё ж такі пэўны давер да кандыдата. То бок патэнцыял атрымаць давер у 50% грамадзян у нас ёсць. Але гэтага, на жаль, недастаткова, каб у краіне адбыліся змены. Яшчэ трэба працаваць, працаваць, працаваць.

Канешне, на несправядлівасць уладаў нараканняў было шмат: малыя заробкі, малыя пенсіі, дарагая адукацыя... Але не было наступнага кроку — адказу на пытанне: «А што мы можам зрабіць разам?» Пакуль у нас не будзе разумення, што салідарныя шырокія дзеянні, мірны ціск на ўладу прымусіць яе мяняцца і рэагаваць, — сітуацыя будзе трымацца так, як яна ёсць.

***— Калі казаць пра планы…***

— Мы плануем вельмі актыўнае назіранне. І я вельмі сур'ёзна разглядаю магчымасць абвяшчэння байкоту на сваёй акрузе. Гэта не тычыцца ўсёй кампаніі па краіне, але ў нашай акрузе склаліся такія канкрэтныя варункі. Байкот на нашай акрузе — «Байкот 101» — быў у 2012 годзе, і менавіта з-за гэтага байкоту ўлады ўвялі ў заканадаўства забарону на заклікі да байкоту. Гэтае абмежаванне супярэчыць міжнародным абавязальніцтвам Беларусі, але пакаранне за яго — толькі адміністрацыйнае.

Але гэта вялікі выклік. Байкот павінен суправаджацца моцным назіраннем. У нас 34 участкі, трэба як мінімум два назіральнікі на ўчастак, значыць, мінімум 68 асобаў. І мы будзем намагацца іх знайсці.

***— Няўжо апроч байкоту — ніякіх планаў?***

— Канешне, ёсць. Увогуле, зараз я разглядаю сябе як мясцовага палітыка ці мясцовага актывіста. Я хачу, каб далей ішоў «разрыў шаблону». Напрыклад, буду рабіць усё, каб выбарцы Сухараўскай акругі атрымалі маю ўлётку, дзе будзе напісана, што я — кандыдат на наступных выбарах. Гэта зноў вялікі выклік, на гэта патрэбныя сродкі, але я хачу гэта зрабіць.

Традыцыйна тыя, хто за мяне падпісаўся, атрымаюць паштоўкі з падзякай за падтрымку. Гэта недзе дзве з паловай тысячы чалавек: усяго мы сабралі 1907 подпісаў, плюс 484 тых, хто падпісваўся за вылучэнне маіх прадстаўнікоў ва ўчастковыя камісіі.

Пералічанае — гэта толькі пачатак. Працы непачаты край. Зараз мы крыху паварушыліся, атрымаўся пэўны рэзананс, а што далей будзе... Гэта праца. Рэгулярная праца. Прысутнасць у медыя, непасрэдны кантакт з людзьмі праз мясцовыя праблемы, прапановы шляхоў іх вырашэння.

***— То бок, вас яшчэ пабачаць кандыдатам на мясцовых выбарах?***

— Калісьці на «Радыё Свабода» я казаў, што буду балатавацца да тых часоў, пакуль не выйграю выбары. Пакуль што ў мяне ёсць драйв і жаданне балатавацца, я яшчэ бачу сэнс ад правядзення кампаніяў. І таму трэба спрабаваць далей. Прынамсі, ужо ёсць невялічкі падмурак, невялічкі аўтарытэт... Варта яго далей пашыраць.

# Стаўка на перадавыя тэхналогіі... 1960-х

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**У Беларусі ўказам зверху ствараецца нацыянальная біятэхналагічная карпарацыя. Сама па сабе задума выдатная, але, мяркуючы па агучаных планах, яе рэалізацыя выльецца ў тое, што грошы будуць выдаткаваныя на тэхналогіі 60-х гадоў XX стагоддзя.**




### Што нам прапаноўваюць

Па паведамленні прэс-службы кіраўніка дзяржавы, ва Указе №300 «Аб арганізацыі высокатэхналагічнай аграпрамысловай вытворчасці поўнага цыклу» гаворка ідзе аб рэалізацыі экспартна арыентаванага і імпартазамяшчальнага інвестыцыйнага праекту з будаўніцтвам заводаў па вытворчасці лізіну, трэаніну і трыптафану, камбікармоў, перапрацоўцы насення алейных культур у Пухавіцкім раёне, а таксама выкананне падпраекту «Земляробства», які прадугледжвае развіццё вытворчасці збожжавых, зернебабовых ды алейных культур.

У адпаведнасці з указам, ствараецца ЗАТ «Беларуская нацыянальная біятэхналагічная карпарацыя» («БНБК»), якая будзе заказчыкам па праектаванні, будаўніцтву і камплектацыі аб'ектаў аграпрамысловай вытворчасці.

«У выніку будуць створаныя новыя вытворчасці, імпартазамяшчальная прадукцыя (лізін, трэанін і трыптафан), а таксама больш 1 тысячу новых працоўных месцаў, што забяспечыць развіццё Рудзенска (горад-спадарожнік Мінска)», — рапартуе прэс-служба.

Рэалізацыя праекту разлічаная на 2016–2032 гады. Апроч заводаў па вытворчасці амінакіслот, камбікармоў, і перапрацоўцы ў Пухавіцкім раёне плануецца стварыць комплекс збожжасховішчаў, аўтакамбінат і навукова-даследчую лабараторыю. На падпраект «Земляробства» вылучаныя буйныя пасяўныя плошчы — да 300 тысяч гектараў (гэта як дзесяць калгасаў). Там будзе гадавацца насенне зернебабовых і алейных культур.

Характэрна, што спецыялізаваная структура — ЗАТ «Беларуская нацыянальная біятэхналагічная карпарацыя» — дзяржавай ствараецца ўпершыню ў беларускай гісторыі. Праўда, усё робіцца ў горшых чыноўніцкіх традыцыях: стварыць «БНБК» даручана Мінаблвыканкаму, пасля чаго ён жа павінен скласці інвестыцыйную дамову на апісаны праект ад імя Рэспублікі Беларусь з ім жа створанай карпарацыяй. То бок, калі ва ўсім свеце на чале біятэхналагічных кампаній становяцца менеджары найвышэйшага ўзроўню, то ў Беларусі біятэхам будуць займацца чыноўнікі абласной вертыкалі.

І ўсё гэта робіцца зноў на бюджэтныя грошы. Дрэваапрацоўку ўжо з бюджэту мадэрнізавалі. І цэментавыя заводы — таксама.

Згодна ўказу, ЗАТ «БНБК» для будаўніцтва і абслугоўвання сваіх аб'ектаў атрымае ўчастак зямлі плошчай 160,05 гектары ў арэнду на 99 гадоў без аўкцыёну. Таксама карпарацыя са старту атрымлівае шэраг палёгкаў: яна будзе вызваленая ад пакрыцця страт сельскагаспадарчай вытворчасці; абсталяванне, камплектуючыя, сыравіна і матэрыялы, што ўвозяцца на тэрыторыю Беларусі пад гэты праект, вызваляюцца ад увазных мытаў і ПДВ. Падрадныя арганізацыі «БНБК» не будуць плаціць дзяржмыта за прыцягненне ў краіну замежнай працоўнай сілы, а замежныя грамадзяне, якія прыцягваюцца да гэтага інвестпраекта, вызваляюцца ад выплаты дзяржмыта за выдачу дазволаў на часовае пражыванне.



**Мы плануем развіваць тэхналогіі, якія былі актуальныя ў 1960-я гады. Сёння ж у свеце няма праблем з сельскагаспадарчай вытворчасцю**

### Каго хочуць абдурыць?

Сёння ніхто не сумняваецца, што біялагічныя і біямедыцынскія тэхналогіі насамрэч стануць асновай чалавечага прагрэсу ў найбліжэйшыя дзесяцігоддзі — гэтак жа, як сёння асновай прагрэсу з'яўляюцца кампутарныя і тэлекамунікацыйныя тэхналогіі. Але тэхналогіі тэхналогіям розніца. Словы «заводы па вытворчасці незаменных амінакіслот — лізіну, трэаніну і трыптафану» могуць уразіць выпускніка факультэта журналістыкі. Выпускнік біялагічнага факультэта толькі сумна ўсміхнецца. Аўтар гэтых радкоў вучыўся на біялагічным.

Што на самай справе нам прапаноўваюць развіваць за бюджэтныя грошы пад выглядам «найноўшых біятэхналогій»? Ва ўказе гаворка ідзе пра тэхналогіі, якія былі актуальныя ў 1960-я гады, калі ва ўсім свеце ішла так званая «зялёная рэвалюцыя». Тады чалавецтва здзейсніла ўражлівы прарыў у тэхналогіях сельскай гаспадаркі. «Зялёная рэвалюцыя» дазволіла не толькі накарміць насельніцтва Зямлі, але і палепшыць якасць яго жыцця.

Аднак сёння ні ў адной аднасна развітой краіне свету няма праблем з сельскагаспадарчай вытворчасцю. Хутчэй, наадварот: тым жа еўрапейскім фермерам урады даплачваюць, каб яны не выраблялі зашмат прадукцыі. Навукоўцы даўно давялі, што пры сучасных агратэхналогіях тэрыторыя плошчай з Аргенціну здольная пракарміць 10 мільярдаў чалавек.

Сапраўды передавыя біятэхналогіі ва ўсім свеце зараз сканцэнтраваныя на іншым — на пытаннях медыцыны і падаўжэння чалавечага жыцця, на вырашэнні праблем энергетыкі і чысціні навакольнага асяроддзя. Аднак у Беларусі мысленне кіраўніцтва краіны застаецца калгасным. Прычым у дадзеным выпадку — у прамым сэнсе. Грошы ўкладаюцца ў біятэхналогіі, якія будуць запатрабаваныя менавіта калгасамі, як бы іх там не пераназывалі.

### Біятэхналогіі будучыні

Сёння мы бачым, што стаўка на развіццё IT, зробленая дзесяцігоддзе таму, аказалася слушнай, што пацвярджае паспяховы досвед Парка высокіх тэхналогій. У прынцыпе, Беларусь магла б і ў сферы біятэхналогій шмат чаго дамагчыся, зрабіўшы іх добрай крыніцай паступлення прыбыткаў. Сёння наша краіна ганарыцца высокім узроўнем выкладання матэматыкі, дзякуючы чаму беларускіх праграмістаў шануюць па ўсім свеце. Але ўзровень выкладання біялогіі ў Беларусі не ніжэйшы — невыпадкова нашы студэнты-біёлагі рэгулярна займаюць першыя месцы на міжнародных універсіядах.

Аднак пакуль «стрэлілі», забяспечыўшы высокія прыбыткі, менавіта праграмісты. Чыннік у тым, што IT-бізнес на старце патрабуе высокіх інтэлектуальных, але вельмі нізкіх фінансавых укладанняў; таксама ён хутка пачынае прыносіць прыбытак. А таму яго аператыўна асвоілі беларускія прадпрымальнікі. У адрозненне ад кампутарнага, біятэхналагічны бізнес патрабуе нашмат большых капіталаўкладанняў і пачынае прыносіць аддачу далёка не адразу. Адпаведна, тут патрабуецца ўкладаць «доўгія» грошы, чаго беларускія бізнесмены, не ўпэўненыя ў сваім заўтрашнім дні, рабіць не любяць.

У астатнім свеце біятэхналогіі ў інвестараў — сярод найпершых прыярытэтаў. Толькі ўкладаюцца яны зусім не ў будаўніцтва «заводаў па вытворчасці лізіну, трэаніну і трыптафану, камбікармоў», а зусім у іншае. Напрыклад, карпарацыя Google у 2013 годзе стварыла біятэхналагічную кампанію «Calico», задачы якой — даследаванні ў галіне старэння, даўгалецця і падаўжэння жыцця. У «Calico» інвеставаныя ўжо сотні мільёнаў долараў. Таксама ў біялагічныя тэхналогіі ўкладвае свае грошы і самы багаты чалавек у свеце — Біл Гейтс.

У ліку прыярытэтаў у заходніх фундатараў біялагічная ачыстка сцёкавых водаў, забруджванняў глебы і т.п.; стварэнне новых формаў раслін, жывёл і мікраарганізмаў, добра прыстасаваных да індустрыяльных спосабаў вытворчасці; кіраваная змена спадчыннасці раслін; распрацоўка метадаў генатэрапіі, бяспечных для клеткі, для пераадолення генетычных хвароб і старэння; біятэхналогіі для цяжкай прамысловасці — выкарыстанне мікраарганізмаў для здабычы і перапрацоўкі прыродных выкапняў, напрыклад, для распрацоўкі адвалаў старых рудняў і бедных радовішчаў, дзе традыцыйныя метады здабычы эканамічна невыгодныя.

### На што звярнуць увагу

У беларускіх навукоўцаў ёсць свае напрацоўкі ў галіне біятэхналогій. Напрыклад, тэхналогіі вытворчасці прэпаратаў з лактаферыну для неданошаных дзяцей. Гэты праект быў шырока разрэкламаваны прапагандай як поспех навукі ў Саюзнай дзяржаве. Праца над атрыманнем бялку лактаферыну вялася доўгі час, завершаныя дзве саюзныя праграмы «Белространсген» і «Белространсген-2». Цяпер распрацоўваецца новая праграма «Белрослакт», у падмурак якой лягуць вынікі першых дзвюх праграм.

Аднак па-сапраўднаму паспяховым у Беларусі мог бы стаць іншы біятэхналагічны кірунак — біяэнергетыка. Замест будаўніцтва АЭС грошы можна было б укласці ў даследаванне механізму фотасінтэзу — і ў выніку вырабляць за кошт энергіі Сонца вадарод — самае экалагічна чыстае паліва будучыні. Альбо ствараць біяарганічныя сонечныя панелі — з вельмі нізкім сабекоштам вытворчасці (высокі кошт — галоўная праблема крамянёвых сонечных батарэй сёння).

Ужо цяпер можна было б запусціць маштабную праграму па вытворчасці біягазу — гэта даўно вядомая тэхналогія. Гэты аналаг прыроднага газу можна атрымліваць, як самагонку, з любой арганікі — ад гною да драўлянага эздліхка. Па меркаванні навукоўцаў, не меней паловы ўсяго спажываемага газу мы можам выпрацоўваць у сябе — з сельскагаспадарчай арганікі, пры дапамозе біягазавых установак. А калі вельмі пастарацца, то такім чынам можна наогул адмовіцца ад расійскага газу.

Трэба толькі абраць правільны кірунак развіцця і інвестыцый. Пакуль жа мы ўкладаем грошы не ў будучыню, а ў мінулае — як ні прыкра гэта канстатаваць.

Літаратурная Беларусь

Выпуск №8 (120)
(жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

Змест



# Кодэкс аб культуры:
## «твор, створаны на аснове творчай задумы»

**Не падзяляю заклапочанасці маіх калегаў нядаўна падпісаным Кодэксам аб культуры. Бо тая заклапочанасць выходзіць з вельмі ліслівага дапушчэння, што дзейнасць дзяржаўных органаў знаходзіцца ў нейкай залежнасці ад заканадаўства.**

У той час, як Раману Жыгараву з Akute адмовілі ў наданні статусу творчага работніка без усялякага Кодэкса проста таму, што не ведае нотаў. Дый пункт 1.15 падпісанага Кодэкса сведчыць, што «творчы работнік — грамадзянін, які займаецца творчай дзейнасцю, незалежна ад таго, з'яўляецца ён чальцом творчага саюза ці не», то бок пра ноты там ні слоўца.

Маё адчуванне такое: дзяржаўныя ўстановы вызначаюць па-свойму, кіруючыся ў пакаранні грамадзян біхевіярызмам і лаяльнасцю, дэпутаты, якім трэба дэманстраваць нейкія вынікі сваіх чатырохгадых сідак (не народу, зразумела, дэманстраваць — прэзідэнту) — пішуць тэксты, якія ў выніку кампрамісаў з боку грамадства дагэтуль называюцца законамі. Я не юрыст і не магу ацаніць тыя тэксты з пункту гледжання адпаведнасці міжнародным нормам. Але я пісьменнік, і таму пакідаю за сабой права ўспрымаць гэтыя тэксты па ўзроўні іх пісьменнасці і адпаведнасці здароваму сэнсу. Што, уласна, і раблю.

Пачынаючы рэцэнзію на Кодэкс аб культуры (КаК), я зазначу, што гэты дакумент — ці не найлепшая чытанка на сезон адпачынкаў. Ён дынамічны ў сваім памкненні ўскладніць жыццё як мага большай колькасці жыхароў краіны — ад музейшчыкаў да тых, хто заняты народнымі рамёствамі. Ён смешны, прычым смешны так, як бываюць смешныя commedia dell'arte — уласнай сур'ёзнасцю.

Тэкст нездарма называюць галоўным вынікам Года культуры. Ён мае памеры немалога рамана: 227 старонак старанна наклапана 15-м таймсам. Пасля зместу ідуць «Асноўныя тэрміны» — раздзел, быццам напісаны Павічам, які начытаўся Лёліка Ушкіна. Вось прыклад: «Арганізацыя культуры — юрыдычная асоба, якая ажыццяўляе ў якасці асноўнай дзейнасці культурную дзейнасць». Тут нельга было сказаць па-людску: «якая ажыццяўляе культурную дзейнасць».

Ці вось яшчэ: «дзеячы культуры і мастацтва — работнікі культуры і творчыя работнікі, якія маюць ганаровыя званні Рэспублікі Беларусь у сферы культуры і (або) іншыя дзяржаўныя ўзнагароды Рэспублікі Беларусь за дасягненні ў сферы культуры». Без узнагарод ты не дзеяч культуры. Не чытайце мой тэкст, таварышы, яго напісаў не дзеяч культуры, далёкі ад ажыццяўлення ў якасці асноўнай дзейнасці культурнай дзейнасці (вось, я ўжо пачаў мысліць, як яны).

Пункт 1.11. «Мастацкая творчасць — стварэнне твораў мастацкай літаратуры і мастацтва, іх выкананняў і (або) іх выкананне». Супакойце мяне, калі ласка! Скажыце, што я чытаю праект, а не тое, што падпісаў прэзідэнт і што ўвойдзе ў нашыя жыцці законам, якому мне трэба будзе падпарадкавацца!

Пасля вось такой агульнай часткі пачынаюцца ўдакладненні: пералік наяўных норм (раздзел называецца, падрыхтуйцеся, «Заканадаўства аб культуры і яго дзеянне» — быццам гаворка ідзе пра фармакалогію), апісанне дзяржаўнай палітыкі, кантроль, фінансаванне — карацей, усё, што звычайна скарачаецца словамі «бла-бла-бла» і ў найлепшым выпадку трапляе ў прэамбулы сур'ёзных дакументаў. Дзівосы пачынаюцца з раздзела 2, які пералічвае суб'ектаў культурнай дзейнасці, і паглыбляюцца ў раздзеле «Культурная дзейнасць».

Ты ўчытваешся ў гэтыя кастрыбаватыя спробы чынавенства вызначыць, што такое натхненне і творчы працэс, і пачынаеш разумець, што калектыўная свядомасць ананімнага масавага дзяржаўнага пісара нарэшце стварыла артэфакт, які кажа пра Беларусь больш, чым кіно, тэлевізар і сайты. Разумеецца, там ёсць нават раздзел «Правы грамадзян у сферы народных мастацкіх рамёстваў», і ён вялікі, і ён павучальны, і ад яго патыхае такой анталагічнай зімой, што нічога, уласна, дадаваць не трэба.

Ці вось гэта: «Грамадзяне Рэспублікі Беларусь у сферы культуры маюць права на: годны ўзровень культурнага жыцця (!!!); удзел у культурным жыцці; эстэтычнае выхаванне (!!!);

> **Гэты дакумент — ці не найлепшая чытанка на сезон адпачынкаў. Ён дынамічны ў сваім памкненні ўскладніць жыццё як мага большай колькасці жыхароў краіны**



атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб культурным жыцці (ну крута ж!); свабоду творчай дзейнасці (...) абскарджанне дзеянняў арганізацый культуры і іх работнікаў, якія парушаюць правы грамадзян у сферы культуры», — і г.д., спіс бясконцы.

Праз нейкі час, праведзены сам-насам з гэтай бібліяй рэгуляванца, пачынаеш разумець прыроду беларускага заканадаўства, ягоную прытоеную сутнасць. Вось у Сярэднявеччы людзі стваралі велізарныя кодэксы, у якіх імкнуліся пералічыць усе з'явы наваколля, бо ім падавалася, што так яны спасцігаюць і фіксуюць рэальнасць. Беларуская сістэма засвойвае рэальнасць шляхам яе нармавання, перакладу на тарабарскую мову сваіх «норм».

«Глава 22. Кінематаграфічная дзейнасць. Артыкул 204. Фільм. 1. Фільм — аўдыявізуальны твор, створаны на аснове творчай задумы, які складаецца з зафіксаваных на матэрыяльных і лічбавых носьбітах і паслядоўна злучаных у тэматычнае цэлае выяваў (кадраў) з суправаджэннем або без суправаджэння іх гукам і прызначаны для ўспрымання з дапамогай адпаведных тэхнічных прылад».

Фільмы ўпарадкаваныя, можна весці наркамаўскі наратыўны АМАП некуды далей. Што цікава, маючы дакладнае апісанне «арганізацыі культурнага адпачынку (вольнага часу) насельніцтва (раздзел 26)», кодэкс не кажа нам нічога істотнага пра літаратуру. Вызначаючы, што такое «фільм» ці хто такія «клубныя работнікі» (учытайцеся ў гэта, супрацоўнікі берлінскага Tresor! «Клубныя работнікі — работнікі культуры, якія забяспечваюць арганізацыю клубам культурнага адпачынку (вольнага часу) насельніцтва»), кодэкс не вызначае паняццяў «кніга», «верш» ці «раман». Узніклі траблы з фармулёўкамі? Не ўзнялася рука на тое, што было ад пачатку свету? Ці рыхтуецца асобны кодэкс аб літаратуры і літаратарах?

Дзяржаўныя медыі спрабуюць зрабіць выгляд, што «КаК» — пра захаванне спадчыны, пра архітэктуру і пра тое, што цяпер ва ўсіх музеях будзе як мінімум адна бюджэтная стаўка.

Свабодныя медыі крычаць пра артыкул 130, згодна з якім «культурная дзейнасць можа быць забароненая, абмежаваная або прыпыненая, калі пры яе ажыццяўленні распаўсюджваюцца паведамленні, што зняслаўляюць гонар і годнасць прэзідэнта, кіраўнікоў дзяржаўных органаў...». Яны не ведаюць, што пункт ускочыў у Кодэкс з шостага артыкула («Свабода творчай дзейнасці» Закона аб культуры, прынятага яшчэ ў 1991-м і дапоўненага пазней Палатай. Параўнайце: «Умяшанне дзяржаўных органаў (арганізацый), іх службовых асоб, юрыдычных і фізічных асоб у працэс стварэння (...) твораў мастацкай літаратуры і мастацтва (...) не дапускаецца, за выключэннем выпадкаў, калі вынікі творчага працэсу: змяшчаюць і распаўсюджваюць паведамленні, што зняслаўляюць гонар і годнасць (...) кіраўнікоў дзяржаўных органаў».

І толькі я адзін, здаецца, зразумеў, што атрыманы дакумент — проста смешны тэкст для чытання на вакацыях. Напрыканцы сфармулюю асноўныя высновы з прачытанага ў спадзяванні, што гэта дапаможа дадаць плёну ў заканатворчы працэс:

1. Не ўсё тое добра, што напісана дзяржаваю па-беларуску.
2. Апісваючы з'яву, вы не вымушаеце яе працаваць, як вам трэба.
3. Перапісваючы нормы са старых законаў, вы не ствараеце новага закона.
4. У камісію па дапрацоўцы да другога чытання трэба ўключаць літаратараў — яны хаця б прыбяруць такія відавочныя памылкі, як працаваны выраз «арганізацыю клубам культурнага адпачынку».
5. Да моманту дасканалага вывучэння дапасаванняў, выкарыстання дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў пастарайцеся і надалей трымацца як мага далей ад літаратуры.

**Віктар Марціновіч,**
**budzma.by**

# «Залатая горка» Ірыны Багдановіч

**У выдавецтве «Кнігазбор» пабачыў свет новы выпуск Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» – зборнік «Залатая горка» (выбранае паэтэсы і літаратуразнаўцы Ірыны Багдановіч).**

У кнігу ўвайшлі новыя вершы і пераклады з польскай мовы, але найбольшую частку займаюць літаратуразнаўчыя даследаванні, якія пераважна публікаваліся ў спецыялізаваных зборніках – матэрыялах канферэнцый, кангрэсаў, а таксама выходзілі ў перыядычным навуковым друку.

У акадэмічным свеце існуе традыцыя ганаравання заслужаных навукоўцаў да юбілеяў. У замежных бібліяграфіях можна знайсці нямала кніг, якія выдаюцца да круглых датаў. Паплечнікі і вучні пішуць артыкулы ў ганаровы зборнік, а таксама дадаюць апісанне навуковай дзейнасці юбіляра ці юбіляркі, бібліяграфію навуковых прац заслужанага чалавека. На жаль, у Беларусі гэтая традыцыя не сталася цалкам натуральнай. Ледзь не адзінымі выключэннямі з правіла з'яўляюцца некалькі кніг выдавецтва «Лімарыус», дзе выйшлі зборнікі, прысвечаныя Адаму Мальдзісу (адзінаму – прыжыццёва), Генадзю Кісялёву і Віталю Скалабану, з абавязковым дадаткам поўнай бібліяграфіі вучоных. З гэтай прычыны зборнікі тыя сталіся надзвычай каштоўнымі, бо бібліяграфіямі карыстаюцца цяпер шматлікія даследчыкі па гісторыі і гісторыі літаратуры XIX і XX стагоддзяў.

Ірына Багдановіч не стала чакаць, пакуль яе ўшануюць кнігай вучні, выдаўцы ці кіраўніцтва БДУ і Акадэміі Навук, дзе яна працавала і працуе некалькі дзесяцігоддзяў, і сама спрасціла ім задачу: выдала падагульняльны за 2000-я гады зборнік, дзе сабрала сваю бібліяграфію, артыкулы за апошнія гады, змясціла ўласную аўтабіяграфію – якую напісала для выдавецтва «Мастацкая літаратура» і якая так і не выйшла ў свет, хоць і была замоўленая.

Артыкулы добра высвечваюць дыяпазон навуковых зацікаўленняў аўтара, тэмы, якія яна апрацоўвала ў апошнія гады. Зразумела, што ўкладальніца кніг Казіміра Сваяка, Вінцука Адважнага для «Залатой серыі» «Беларускага кнігазбора» не магла абмінуць пытанняў, звязаных з іх творчымі метадамі. Ранейшыя актыўныя доследы і пошукі матэрыялаў па гісторыі беларускай літаратуры 1920-х гадоў таксама адлюстроўваюцца ў «Залатой горцы» некалькімі артыкуламі.

Дамінантай кнігі з'яўляецца тэма духоўных пошукаў: праз гэтую прызму разглядаецца, што зусім зразумела, творчасць пісьменнікаў, каталіцкіх святароў Казіміра Сваяка і Вінцука Адважнага. Але і паза непасрэдна каталіцкімі пісьменнікамі праблема духоўнасці аналізуецца праз, напрыклад, выяўленне хрысціянскіх вобразаў храма, Маці Божай, Вялікадня, іконы Маці Божай Вострабрамскай, Ефрасінні Полацкай у палітры беларускай літаратуры XIX-XX стагоддзяў.

Кніга «Залатая горка» стане сапраўдным падарункам для тых, хто хоча спазнаць хрысціянскую аснову беларускай літаратуры мінулага стагоддзя, цікавіцца польскамоўнай літаратурай Беларусі, а таксама адлюстраваннем гістарычных вобразаў у айчыннай паэзіі.

**Ц. Ч.**

# Гатычныя раманы па-беларуску

**У Бібліятэцы часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum» і Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшла новая кніга, якая ўлучае два класічныя гатычныя творы: «Замак Отранта» Хораса Ўолпала (пераклала Ганна Янкута) і «Франкенштайн, ці Сучасны Праметэй» Мэры Шэлі (пераклала Марына Дзергачова).**




Вокладку для кнігі намалявала мастачка Кацярына Дубовік, а прадмову напісала літаратуразнаўца, выкладчыца ангельскай і амерыканскай літаратуры Ганна Бутырчык. Гэта дзявятае папяровае выданне з серыі «PostScriptum».

«Замак Отранта» Хораса Ўолпаа — гатычная аповесць, што заклала асновы жанру; «Франкенштайн, ці Сучасны Праметэй» Мэры Шэлі — адзін з найлепшых узораў готыкі і першы навукова-фантастычны раман. Гэтыя творы ўводзяць чытача ў свет загадкавага і дзівоснага, аднак у кожнага з двух творцаў — свой арсенал сродкаў для стварэння вусцішнай атмасферы.

Абодва творы друкуюцца па-беларуску ўпершыню.

# Іван Пташнікаў: Трагічная мелодыя быцця

**(У вянок памяці)**

**«Калі-небудзь хто-небудзь напіша пра тую пару, калі ў нашым сталічным універсітэце на адным курсе ці на паралельным (філолагі — журналісты) вучыліся Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Юрась Свірка, Сымон Блатун, Тацяна Арлова, Мікола Гіль. Акрамя Барадуліна, астатнія тут — мае аднакурснікі-журналісты», — Стральцоў у сваім ужо класічным тэксце амаль не згадвае празаікаў… Сёння можна з пэўнасцю казаць, што ён паставіў свае фішкі на правільны нумар. Але пяцьдзясят гадоў таму ўсе яны ішлі ва-банк і ніхто не ведаў, як павернецца гульня. Найбольш мяне тут цікавяць трое — Адамчык, Пташнікаў і Стральцоў. Гэтыя хлопцы амаль адначасова закінулі ў нашу прозу такія апавяданні, без якіх і праз сотню гадоў цяжка будзе ўявіць класічныя жанравыя анталогіі.**

Гэта быў 1957 год. Адамчыку 24-ы, Пташнікаву — 25, Стральцову наогул дваццаць. З інтэрвалам у месяц усе трое ўпершыню прадзіраюцца ў літаратурны друк. Як ні дзіўна, толькі «зялёны» Стральцоў адразу намацвае сваю магістральную лінію «адвечнага вяртання» — ягоны кароткі лірычны аповед «Дома» абсалютна ў рэчышчы і далейшага «Сена на асфальце», і канчатковага «Смалення вепрука». Адамчык пачынае з «Свайго чалавека», апавядання, дзе галоўны герой — стары дзядзька Язэп, які ўвесь у заходнебеларускім, прыватна-ўласніцкім мінулым. Ідзя пакуль застаецца ў «трэндах» савецкай літаратуры: перамена старога мыслення на карысць новага — калгаснай вёскі.

Дваццаціпяцігадовы Пташнікаў пачынае з вялізнай аповесці.

Па сутнасці, як на сённяшняе вока, дэбютны «Чачык» — гэта невялікі раман. Ён друкуецца ў трох нумарах тоўстага часопіса «Полымя», адразу заўважаецца крытыкай, дзякуючы гэтаму твору аўтара яшчэ нават без кнігі (нячастая з'ява) прымаюць у Саюз пісьменнікаў БССР — Янка Брыль, Іван Грамовіч і Іван Навуменка ў рэкамендацыях, не згаворваючыся, робяць акцэнт на аповесці.

Але й дарэчы будзе сказаць: пасля выхаду першай кнігі Пташнікава «Зерне падае не на камень» (тоўстая кніга прозы, у цвёрдай вокладцы — аўтару 26 гадоў) становіцца відавочна, што ўнутры аўтара ідуць не абы-якія дыялектычныя працэсы. Дзве цытаты: «Ніколі яшчэ ні на праўленні, ні на сходзе не выклікала такіх гарачых спрэчак простае пытанне парадку дня: утрыманне жывёлы ў зімовы перыяд. Магчыма, першаму пытанню надавала вагу другое — радыёфікацыя калгасу, але над гэтым ніхто не задумваўся: для калгаснікаў сёння ўсё было галоўным. Блакнот старшыні ледзь умяшчаў заўвагі, якія ўвайшлі ў рашэнне адкрытага партыйнага сходу» («Чачык»).

«Доўга гляджу на раку. Цёмная ля маіх ног і нейкая бурая ўдалечыні, яна нават вечарам зрэдку ад нечага заблішчыць, бы хтосьці празрысты перавернецца ў ёй, зашуміць, забулькоча. Яна жыве… Але больш не магу глядзець на яе. Мне ўспамінаецца тая дарога пасля праліўнога дажджу… Дарога… Размытая ў калдобінах.. Не кратайся ты, зборышча маіх думак. Не руш мяне: мне балюча» («Бяроза маўчала»).

Першая кніга Пташнікава нібы ламалася на дзве часткі: калгасныя аповесці і маладнякоўска-ўзвышэнскія апавяданні, з прысмакам прачытаных кніг Зарэцкага, Чорнага, Бядулі — магчыма, і Максіма Гарэцкага, калі студэнту познесталінскага ўніверсітэта недзе ўдалося дастаць кніжку. Наогул, калі пракладаць масток ад 1920-х у 1950-я, то менавіта Пташнікаў бачыцца наступнікам, можа, нават недзе пераймальнікам традыцыі. Ягонае ўслухоўванне ў прыроду ў апавяданнях з першай кніжкі было амаль што самамэтай, вучнёўствам — пазней, у 1980-я, як распавядаў мне нядаўна празаік Анатоль Казлоў, Пташнікаў раіў «нефітам», якія неслі ў «Полымя» свае першыя творы, пачынаць з апісальнай тэхнікі: сядаць у лесе ці ў лузе ці папросту на траву ля дома і апісваць тое, што бачыш — як мага больш падрабязна й дакладна фіксаваць найменшыя зрухі быцця. З пэўнымі засцярогамі, канечне, але можна гаварыць, што падобнай тэхнікай карыстаўся і сам Пташнікаў, калі пачынаў. І гэтае «спыненне», запаволенне відавочна было патрэбным яму, каб адкаснуцца ад калгаснай тэматыкі Чачыка. Вядома, і ў Чачыку (як і ў «Сваім чалавеку» Адамчыка) была закладзеная нязгода — на першы план высоўваўся адмоўны тып. І тут, зразумела, таксама была адсылка да 1920-х, да чорнаўскага Лявона Бушмара. Але тэматычны слой відавочна не задавальняў Пташнікава, і таму ён пайшоў у глыб, «за рубеж чалавечага слова», сканцэнтраваўшыся на апавяданнях-медытацыях.

Далей кола пракруцілася яшчэ раз, па той самай амплітудзе: выйшаў раман «Чакай у далёкіх Грынях», які быў абстракльны крытыкай і пазней уважаўся аўтарам за творчую паразу. Толькі скончылася публікацыя, а 6 студзеня 1961-га ў «ЛіМе», у артыкуле «Навошта засмечваць мову?», ужо дзеліцца ўражаннямі студэнтка філалагічнага факультэта Мінскага педінстытута імя М. Горкага Вера Дыдышка. Праз два тыдні пасля Веры Дыдышка ў тым самым студзеньскім «ЛіМе» з'яўляецца вялізны артыкул схаванага за непразрыстым псеўданімам В. Крышталя «Пошукі ці літаратурная бравада?», адмыслова прысвечаны «скрыўленням лініі» ў пташнікаўскім рамане.

Пасля публікацыі «Грыняў…» і моцнай крытыкі Пташнікаў змаўкае на паўтара года. Нядаўна, размаўляючы ў «нацыяналы» з Анатолем Сідарэвічам (ён якраз з таго пакалення — Алеся Жука, Алеся Разанава, Яўгеніі Янішчыц — якое вельмі пільна сачыла за літаратурнай перыёдыкай 1960-х), спытаў наўпрост: «Калі пра Пташнікава загаварылі ўсе?». Анатоль Міхайлавіч адказаў з бібліяграфічнай дакладнасцю: «Тры апавяданні 1962 года: «Алёшка», «Бежанка», «Алені»». Амаль паўстагоддзя менавіта з іх пачынаюцца ўсе зборнікі пташнікаўскага выбранага.

Да з'яўлення гэтых тэкстаў Пташнікаў ішоў нібыта дзвюма сцяжынамі адначасова: рамантычна-імпрэсіяністычнай у аповедах і побытава-(сац)рэалістычнай у буйным фармаце.

Ад 1962 года пачынаецца Пташнікаў-трагік. Менавіта такім ён уваходзіць у хрэстаматыі й падручнікі. Калі чытаеш яго класічныя рэчы, паміж творамі не пракладаеш мяжы, цяжка сказаць, як адбываецца «эвалюцыя», там быццам бы працягнутая суровая нітка, адзіная аўтарская інтанацыя (ці, можа, музыка?), дзякуючы якой ён і пазнавальны.

Мабыць, у наяўнасці гэтай музыкі, класічнай трагічнай мелодыі, і ёсць адзнака пташнікаўскай учэпістасці: музыка вабіць і вабіць, і чакаеш увесь час нейкай зямены, асэнсаванага фатальнага выбару. Канечне, збольшага ўсё вядзецца вакол вайны. Пташнікаў не кажа, што ў вайне «трагічнае схавана харавство», як пісаў Уладзімір Жылка: гэта было б толькі эстэтыкай, толькі балетным піруэтам, а каму ж як не яму было ведаць, што ў трагедыі няма нічога прыгожага, і рэальнасць, з вясёлай, чыстай і радаснай, можа ў адно імгненнеператварыцца ў сваю супрацьлеглась.

…Хоць падчас развітання з пісьменнікам я гаварыў ціха, але як быццам у мікрафон з эфектам рэверберацыі разносіліся мае словы ў вялізнай і амаль пустой рытуальнай залі мінскага крэматорыя 30 ліпеня 2016 года. Я ўспамінаў, як гэта здорава было ўсведамляць, што вось недзе ў адным з табой горадзе жыве Іван Мікалаевіч Пташнікаў… Ды і ўсёй нашай літаратуры гэтае ўсведамленне дадавала вартасці й палітры. Што ён надрукаваў «Ненапісаную аповесць» і на пятнаццаць гадоў знік з усіх радараў і даляглядаў, і ніхто не ведаў, як і чым ён жыве. Што пра яго варта пісаць.

І пра яго сапраўды варта пісаць.

**Ціхан Чарнякевіч**

# Юнацтва сінія арэлі

## Да 80-годдзя Генадзя Бураўкіна

Алесь ЖУК

**З Генадзем Бураўкіным нас звяла «Маладосць». Тая самая «Маладосць», у якую я яшчэ студэнтам насіў свае першыя апавяданні Міхасю Стральцову.**

Вядома ж, паэта Бураўкіна я ведаў, відаць і знаёмы быў з ім яшчэ ў гады студэнцтва. Мы, маладыя, дапіналі не толькі на паседжанні ўніверсітэцкага літаб'яднання, але і ў «Чырвоную змену», і на некаторыя сходы Саюза пісьменнікаў яшчэ ў стары будынак на вуліцы Энгельса. З захапленнем чыталі вершы старэйшых паэтаў, ахрышчаных потым крытыкай філалагічным пакаленнем. Гэта і Генадзь Бураўкін, і Рыгор Барадулін, і Анатоль Вярцінскі, і Васіль Зуёнак, і Міхась Стральцоў, і Кастусь Цвірка, і Юрась Свірка, і Янка Сіпакоў, і Уладзімір Паўлаў, і Сымон Блатун, і многія-многія іншыя, пералічыць усіх я цяпер не змагу. Іхняя паэзія імпанавала нам, пачаткоўцам. Ды і час быў узвеўны, паэтычны — 60-я гады. Ну як маглі не падабацца маладому камсамольскія звонкія вершы Бураўкіна і маладая лірыка пачуццяў? Так мною тады ўспрымаўся паэт Бураўкін. Але ж Бураўкін быў не толькі паэт, але і ўласны карэспандэнт газеты «Правда» па Беларусі. Пасада вымагала быць у касцюме, пры гальштуку, а па ўсіх маіх колішніх вясковых мерках гэта быў ужо бясспрэчна і начальнік.

Але як незаўважна хутка час многае мяняе ў жыцці! У 1977 годзе я апынуўся ў адным кабінеце з Генадзем Мікалаевічам, які ў той час быў ужо галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», як яго намеснік. Пад вокнамі прасторнага рэдактарскага кабінета вясною раскашавала памятная мне са студэнцтва яблыня.

Калі прыходзіў на працу, Генадзь Мікалаевіч не вассядаў на крэсла, а адразу ж ішоў па рэдакцыйных пакоях. Уваходзячы ў пакой, абавязкова ўключаў святло, бо рэдакцыя месцілася на ценевым баку будынка, і тым самым быццам прыводзіў у рух рэдакцыйны механізм. У аддзелах вырашаліся і бягучыя рабочыя пытанні. Магчыма таму і рэдакцыйныя планёркі былі кароткімі і дзелавымі, не наладжваліся доўгія і часам нудныя разборкі аддрукаваных нумароў, як гэта было прынята ў тыя часы ў рэдакцыях.

Ён не любіў лішняе сядні на сваім рэдактарскім крэсле. Затое калі часам у канцы рабочага дня ў суседнім пакоі хлопцы даставалі шахматы, ён абавязкова быў там. Паўдзельнічаць у шахматных баталіях прыходзіў з «Бярозкі» Васіль Зуёнак, да супрацоўнікаў далучаліся і аўтары. Галоўны рэдактар увязваўся ў шахматныя баталіі. А баталіі былі азартныя, гарачыя. Пакуль



Генадзь Бураўкін і Алесь Жук — начны неспакой...

хто-небудзь з удзельнікаў не спахопліваўся, што ўжо даўно пара ісці дадому.

Генадзь Мікалаевіч сябраваў з камсамольскімі сакратарамі, з якіх потым выйшлі і міністры, і вядомыя дзяржаўныя кіраўнікі. Ён прымаў дзейсны і актыўны ўдзел у камсамольскім жыцці. У выніку камсамол стаў ініцыятарам правядзення першага семінара творчай моладзі на Нарачы, потым і другога на Свіцязі. На гэтыя семінары запрашаліся і пісьменнікі, і музыкі, і акцёры, і мастакі, і кінарэжысёры... Многія з іх сталі шырока вядомымі, заслужанымі, народнымі. Па ініцыятыве Генадзя Мікалаевіча пачаў праводзіцца творчы конкурс «Дружба» аналагічных «Маладосці» выданняў разам з Прыбалтыйскімі часопісамі. Бураўкін дамогся каляровых укleek у часопіс «Маладосць», каб знаёміць чытачоў з творчасцю беларускіх мастакоў, якія на той час не мелі свайго выдання. Таму і тыраж часопіса «Маладосць» дасягаў дваццаці тысяч экземпляраў.

Працавалі мы з Генадзем Мікалаевічам разам нядоўга. Набірала моц тэлебачанне, і Беларусі было патрэбна сваё, беларускае тэлебачанне. Выбар Пятром Міронавічам Машэравым быў зроблены дакладны — Бураўкін. Ствараць новае заўсёды цяжка. Цяжка давялося і Генадзю Мікалаевічу. Я гэта ведаю, таму што і сам пасля яго прызначэння на новую пасаду дзесьці праз паўгода аказаўся на рабоце ў ЦК КПБ і шмат чаго давялося ведаць і бачыць.

Стварэнне свайго нацыянальнага тэлебачання для некаторых здавалася святатацтвам. Ды і слова «нацыянальнае» ў той час не ўжывалася — гаварылі: сваё, беларускае. Дайшло да таго, што пытанне было вынесена на пасяджэнне Бюро ЦК КПБ, на якое Бураўкіна не запрасілі. Яго прапаноўвалася вызваліць ад пасады і выключыць з партыі. Але «распраўшчыкаў» астудзіў першы сакратар ЦК КПБ Ц. Я. Кісялёў. Генадзь Мікалаевіч застаўся на пасадзе, запушчаная ім праграма засталася ў эфіры, застаўся і не са скалечаным лёсам цудоўны паэт Бураўкін, які пазней разам з Васілём Раінчыкам напіша для беларускага тэлебачання «Калыханку», пад якую засынае ўжо не адно пакаленне беларускіх дзетак.

Генадзю Мікалаевічу ўдалося адстаяць беларускае тэлебачанне і займець адданага сябра і паплечніка Валянціна Блакіта, які на той час, пасля працы ў Гродненскім абкаме, узначаліў сектар тэлебачання і радыё ЦК КПБ, бо станаўленне такой складанай арганізацыі патрабавала не аднаго года працы, якая працягвалася да 1990 года, пакуль Генадзь Мікалаевіч не быў прызначаны пастаянным прадстаўніком Беларускай ССР пры ААН.

Яшчэ ў час працы ў «Маладосці» мы з Генадзем Мікалаевічам зрэдку выязджалі ў грыбы. І заўсёды з намі быў то хтосьці са спевакоў з опернага тэатра, то мастак, то акцёр... У яго было шмат знаёмых з творчай інтэлігенцыі, тыя знаёмствы былі нечаканымі і прыемнымі мне, абмежаванаму рэдакцыйнымі знаёмствамі.

Так, як «Маладосць» звяла нас з Бураўкіным, гэтак на доўгія гады зблізіў і лес. Хоць і не адпускала служба, усё ж у выхадныя ў грыбную пару мы маглі дазволіць сабе паездку ў лес. Паступова склаўся і амаль пастаянны «экіпаж»: Генадзь Мікалаевіч, Валянцін Блакіт, Сяргей Законнікаў і я.

Генадзь Мікалаевіч не быў зацятым грыбнікам, хаця без грыбоў мы ніколі не вярталіся. Ён любіў пабыць у лесе. Зводдаль я назіраў часам, што ён не так грыбы вызірае, а проста любуецца лесам. Я ведаю, што лес мае сваю, уласцівую толькі яму магію. І яна вабіла яго. Валянцін Блакіт і Сяргей Законнікаў былі нястомныя паляўнічыя на баравікоў. А мне хацелася выглядзець лесавога звярка, што ў лесе не так і проста.

Спачатку нашым любімым месцам быў лес ля Белага Бору ў Валожынскім раёне. Пасля таго, як яго пасыпала чарнобыльскім попелам, мы ездзілі за Магільнае, у лес, які пачынаўся за вёсачкай Язвін. Нахадзіўшыся ўдосталь, перад выездам дадому спыняліся на ўскрайку сасновага бору, які рос на пагорку, ля ссунутых з поля валуноў. Адсюль была відаць вёсачка, поле, якое паўкругам аддзяляла яе ад лесу. Калі на гэтым полі пад восеньскім сонцам зелянела рунь, прыгажосць была неймаверная. Мы пяклі на ражэньчыках сала і любілі паслухаць расказы Генадзя Мікалаевіча. Расказчык ён быў цудоўны, а жыццё падаравала яму шмат сяброў, знаёмых і проста сустрэч з цікавымі людзьмі. Мне хочацца верыць, што ён пакінуў пасля сябе запісаным тое, што ведаў.

**Генадзь Бураўкін пражыў сапраўднае вялікае жыццё і як чалавек, і як паэт, і як адданы сын сваёй Беларусі**

На жаль, тыя нашы лесавыя выездкі скончыліся, калі не стала Валянціна Блакіта. Ды і многага не стала ў жыцці, што збірала нас разам: не стала Дома літаратара, які быў культурным асяродкам горада, а потым і рэдакцыі перасталі быць своеасаблівымі літаратурнымі клубамі...

Цяпер, калі перачытваў Генадзя Бураўкіна і ўгледзеў яго прысвечаныя любімай жонцы Юлі радкі: «Юнацтва сінія арэлі // Ляцяць між небам і зямлёй», яны з той жа пранізлівасцю, як і паўвека назад, працялі мяне. Не, гэта не сказана, гэта не напісана — гэта выдыхнута душой паэта ў вечнасць, і яно застанецца назаўжды ў зямным эфіры.

Няўдзячная справа — тлумачыць творчасць пісьменніка, тым больш паэта. Паэзію трэба чытаць і мець на яе слых і душу. Пра творчасць Генадзя Бураўкіна напісана многа. І пра надзённасць, і пра сацыяльную, нават палітычную вастрыню, і, вядома ж, пра яго цудоўную лірыку. Што зроблена — тое зроблена, каму спатрэбіцца — прыгодзіцца. У добрага гаспадара павінна быць усё. З-за гэтага багацця, мабыць, пішучымі не заўважалася, як ён умеў тонка пісаць прыроду, менавіта пісаць прыроду, а не пра прыроду.

...Мне помніцца да драбніц ласкавы раннявосеньскі адвячорак. Мы сядзелі з Генадзем Мікалаевічам у бальнічным дворыку. Тады добра скончыліся ўсе яго абследаванні, і ён быў у добрым настроі. Гаварылі пра ўсё, радыя, што можам вось проста так сядзець і гаварыць. Згадаўшы ягоную апошнюю падборку вершаў, я спытаўся: «Не заўважаеш сам, стары рэдактар, што за радкамі пакрысе, але праступае самота?» Генадзь усмешліва зірнуў на мяне і адказаў сур'ёзна, па-мужчынску: «А што зробіш, Алесь, да таго ідзём...»

Генадзь Бураўкін пражыў сапраўднае вялікае жыццё і як чалавек, і як паэт, і як адданы сын сваёй Беларусі. Хварэў і паміраў ён цяжка, змагаўся да апошняга дыхання — і адышоў, не страціўшы сваёй чалавечай годнасці ні перад людзьмі, ні перад Госпадам.



Грыбны трыялог — Генадзь Бураўкін, Алесь Жук і Валянцін Болтач.
Фота з архіва аўтара

# Урокі Высоцкага

**Песні і вершы Уладзіміра Высоцкага — гэта маленькія кінафільмы з драматычнымі гісторыямі, з сутыкненнямі чалавечых лёсаў, з нечаканымі паваротамі сюжэтаў і непрадказальнымі фіналамі.**



> **На вайне героямі часцей станавіліся тыя, ад каго ніякага гераізма не чакалі, што вельмі выразна паказана ў творчасці Васіля Быкава**

У гэтых творах — жыццё як яно ёсць, якое здзіўляе, уражвае, палохае і... павучае. Так, Высоцкі сваім вострым адчуваннем нібыта будзённых з'яваў дапамагае асэнсаваць жыццё, глыбей усвядоміць калізіі стасункаў паміж людзьмі. У яго творах — школа жыцця. Хаця ад апошняга выказвання сам Уладзімір паморшчыўся б, бо гучыць нейк узнёсла. Тым не менш, паспрабуем прайсці некалькі яго ўрокаў...

### «Я зноў яго вазьму»

Мне шматкроць даводзілася чуць размовы пра гэты твор У. Высоцкага. Я спрабую сабраць усе такія размовы ў адну. Магчыма, які настаўнік скарыстае яе на адпаведным уроку літаратуры, прысвечаным У. Высоцкаму. Як выяўляецца, не кожны здольны ўбачыць тое, што схавана за радкамі паэта. І гаворка тут не толькі пра маладых людзей.

Але спачатку паслухаем яго «Дарожную гісторыю»:

*Я ціха жыў, не дзьмуў у вус,*
*Свабодны ад дурных спакус,*
*З людзьмі ў ладах — не пагарджаў*
*і не ілгаў,*
*Хрыбет не гнуў — прамым хадзіў,*
*І ўбок ніколі не зблудзіў,*
*І галаве сваёй рукамі памагаў...*
*Ды быў данос, а там турма —*
*Кругом пяцьсот і нас няма...*
*Быў кабінет з таблічкай «Время уважай!»*
*Не прычакаеш там спагад,*
*Там штэмпель ставяць наўздагад,*
*Нібы ў капэрце пасылаюць за Мажай.*
*Тады — залік, пасля — дамоў,*
*За спінай — сем ліхіх гадоў —*
*Вісяць яны на мне — ні кінуць, ні прадаць.*
*Ды на таго лёс скіраваў,*
*Хто ўсіх увішна вербаваў,*
*І за Урал машыны стаў пераганяць.*

*Дарога, а ў дарозе — МАЗ,*
*Які па макаўку загразў.*
*Ў кабіне змрок, напарнік доўгі час маўчыць.*
*Хаця б крычаў, — кіплю я злом.*
*Завея бесіцца за шклом,*
*А ён зубамі «Танец з шаблямі» брынчыць.*
*Маршрут даўно нам давялі —*
*І МАЗ даставіць мы маглі.*
*Што наша справа — сеў,*
*паехаў — дзень ці ноч!*
*Ну трэба ж так — пад Новы год —*
*Туды пяцьсот, назад пяцьсот.*
*Сігналіш марна — тут жывога не чутно!*
*«Глушы матор, — азваўся ён, —*
*Тут МАЗу нашаму гамон!»*
*Маўляў, глядзі, тут больш няма чаго чакаць.*
*Кругом пяцьсот па даўгаце,*
*Да ночы цалкам замяце,*
*Так зараўняе, што не трэба і хаваць!..*
*Я гавару яму: «Не плач!»*
*А ён глядзіць, нібы крумкач*
*З шалёным тварам, і ў руцэ трымае прут.*
*А што яму — ён тут як звер,*
*І хто каго перажыве,*
*Той і дакажа, хто быў правы, як прыпруць!*
*Ён быў за брата мне радней,*
*Ён у мяне з далоні еў.*
*А тут як гляне ў вочы — быццам шкрабане.*
*А што яму! Пасля, псямаць,*
*Хто там захоча разабраць,*
*Што ён забыў, хто я яму і хто ён мне!*
*І ён пайшоў кудысьці ўбок.*
*Я адпусціў, а сам прылёг.*
*Мне сніўся сон пра наш «вясёлы» наварот:*
*Нібыта зноў кругом пяцьсот,*
*Шукаю выхад я з варот,*
*Яго няма, а толькі маецца ўваход.*

*...Канец такі: прыйшоў цягач,*
*І там быў трос, і быў урач,*
*Патрапіў МАЗ, куды прызначана яму.*
*І ён прыйшоў — дрыжыць увесь...*
*І там — ізноў далёкі рэйс —*
*Я зла не помню, я з сабой яго вазьму!..*

— Як вы разумееце апошні радок «Я зла не помню, я з сабой яго вазьму»?

— Ну гэта ж хрысціянская норма: палюбі ворага свайго...

— Сумнеўна неяк. Па-першае, герой твора нідзе не пазначаны як прыхільны да Бога. Па-другое, якая шчырая хрысціянская вера прымусіць чалавека перажыць такое паўторна. Дый увогуле гаворка пра Савецкі Саюз, у якім рэлігія, гэты «опіум для народа», была ў загоне.

— Але ж і ў Савецкім Саюзе шмат хто верыў у Бога. І ў цэрквы хадзілі, і дзяцей хрысцілі, нават камуністы ўголас казалі пра «опіум», а таемна хрысцілі дзяцей.

— Так. Але тут вось яшчэ: чалавек, які перажыў жорсткую несправядлівасць, у выніку чаго патрапіў на сем гадоў у турму, наўрад ці прыслухаецца да парады «палюбі ворага». Прычыну яго «зла не помню» трэба шукаць у іншым.

— У чым жа?

— Варта перачытаць папярэднія радкі: «...прыйшоў цягач, і там быў трос, і быў урач...» Як гэта: цягачы з урачамі ў завеі так і ходзяць па заснежаным полі, шукаючы, каго б ўратаваць?

— Ну а што? МАЗ не дайшоў, куды прызначана, — вось і паслалі цягач шукаць яго.

— Гэта можна было б прыняць як правамоцную гіпотэзу, калі б МАЗу да мэты заставалася кіламетраў дваццаць-трыццаць. Але ж там «кругом пяцьсот»... Цягач, адпраўлены ў завею за пяцьсот кіламетраў, — гэта ўжо нейкая дзіўная фантазія!

— А вы думаеце, што гэта напарнік знайшоў і прывёў цягач?

— Менавіта так і думаю. Іншыя варыянты мы разгледзелі, і яны ці вельмі сумнеўныя, ці фантастычныя.

— Тады чаму «ён прыйшоў»? Чаму ён не прыехаў з цягачом?

— Тут можна паразважаць. У кабіне цягача мог змясціцца толькі адзін чалавек, апроч вадзіцеля. Там ехаў урач. А напарнік, магчыма, ехаў на падножцы цягача ці неяк інакш, але не ў кабіне, з чаго і «дрыжыць увесь». Пад'язджаючы, ён саскочыў з падножкі і падышоў да МАЗа. Вадзіцель жа не бачыў, як ён там — ішоў ці ехаў.

— А навошта яму, напарніку, гэта, калі ён ужо і МАЗу гамон спрарочыў, і вадзіцеля быў гатовы забіць?

— Забіваць яму ніякага сэнсу не было. Хутчэй сам вадзіцель у злых вачах напарніка ўбачыў нешта небяспечнае і прут у руцэ ўспрыняў як пагрозу. Пабыўшы ў турме ці ў лагеры, так і прызвычаішся ўспрымаць паводзіны тых, хто вакол цябе, бо свядомасць знявечаная турэмным жыццём. Але ў напарніка такія намеры наўрад ці былі. Варта ўсё ж паспрабаваць зразумець, аб чым яны спрачаліся.

— Ну як?! Напарнік хацеў уратавацца, і яму пляваць было на МАЗ.

— Дык жа нармальная з'ява. Любы чалавек хоча жыць і не хацеў бы замерзнуць у застылым МАЗе.

— А хіба ў полі, дзе «кругом пяцьсот», не замерзнеш?

— Калі сядзець на месцы, тады дакладна замерзнеш. А калі пойдзеш нечага ці некага шукаць, то, магчыма, і знойдзеш. Нездарма ж кажуць: хто шукае, той знаходзіць.

— Чаму ж так не думаў вадзіцель?

— Вось гэта цікавае пытанне. Магчыма, ён таксама разумеў, што, пайшоўшы ў поле, можа ўратавацца. Але ў яго адказнасці была машына, якую ён павінен быў даставіць у пэўнае месца. Страціўшы машыну, не выканаўшы задання, ён трапіў бы пад суд. І паколькі ўжо адбыў тэрмін, то пакаранне, як рэцыдывісту, было б жорсткае. Вось сітуацыя: варыянт загінуць разам з машынай яму здаваўся менш страшным, чым трапіць у лагер паўторна.

— Але ж ён ратаваў сваё жыццё — суд, магчыма, улічыў бы такія абставіны.

— Магчыма, улічыў бы, але хутчэй за ўсё — не. У той краіне жыццё чалавека мала цанілася. Ты павінен загінуць, але тэхніку зберагчы. У Высоцкага гэта выразна паказана. Да таго ж, варта перачытаць пачатак: «я ціха жыў... з людзьмі ў ладах, не пагарджаў і не ілгаў...» Аднаго паклёпніцкага даноса хапіла, каб чалавека кінуць на сем гадоў за краты. «Там штэмпель ставяць наўздагад». Вось такі кошт жыцця.

— Павінен загінуць — гэта калі вайна. Па законах ваеннага часу тут нейкая жорсткая логіка ёсць.

— А Савецкі Саюз і існаваў па законах ваеннага часу. Там заўсёды былі бітвы — бітва за ўраджай, бітва за выкананне плана, бітва за цаліну, бітва за Беламор-канал. Перамогі ў тых бітвах часта дасягаліся за кошт чалавечых лёсаў і жыццяў. І людзі да гэтага пачыналі прызвычайвацца. Вадзіцель МАЗа быў з тых, каго прывучылі да такога парадку.

— Ну і сказаў бы: я не пайду, а ты — як хочаш. Чаго спрачацца?

— Як вынікае з тэкста, ён там быў старшым і таму адказваў не толькі за машыну, але і за напарніка. Калі б напарнік замёрз, яго б зноў жа абвінавацілі і судзілі. Таму і не адпускаў. З-за чаго і выбухнула гарачая спрэчка з шалёнымі вачыма і з прутом у руках. «Я адпусціў», бо вымушаны быў. Напарнік не пагаджаўся сядзець у машыне і чакаць невядома чаго. І вось жа: не кінуў сябра ў бядзе, знайшоў і цягач, і ўрача, вярнуўся сам з рызыкай быць абмарожаным. І МАЗ патрапіў, куды прызначана было. З такім не прападзеш! Вось таму і «зла не помню». Якое там зло?! «Я з сабой яго вазьму». Каго ж і браць, калі не такога?

*У гэтым кароткім творы і летапіс жыцця былой краіны, і лёсы яе насельнікаў, і чалавечыя стасункі ў жорсткіх умовах, калі самае патаемнае ў душах пакутліва прабіваецца вонкі, і нечаканая высакароднасць «маленькага», звычайнага чалавека.*

*Нават на вайне героямі часцей станавіліся тыя, ад каго ніякага гераізма не чакалі, што вельмі выразна паказана ў творчасці Васіля Быкава, а не «стандартна» высокія, дужыя, плячыстыя, смелыя. І гераізм гэты не выяўляўся адразу, а прадзіраўся праз бруд, якога хапала ў душы кожнага, праз пакуты, сумненні. І сам чалавек часцей і не разумеў, што ён зрабіў нешта гераічнае.*

*У Быкава і Высоцкага — не пра герояў, у іх — пра чалавека звычайнага...*

**Тэкст і пераклад верша**
**Міхася Булавацкага**

# З кнігі «Полька беларуская»



Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

### Крыўда беларуская[1]

*Зоры дзікія равуцца ад Вільні*
*Да жаданага Чорнага мора.*
*Едзе сын па вялікай краіне,*
*У душы і навокал — прастора!*

*Гарадок ажыве на хвіліну,*
*Маці з'явіцца ў хустцы літоўскай:*
*«Абляці, сыне, гэту краіну,*
*Гарады ўсе і вёску за вёскай...»*

*Абляцеў, і жаданае мора*
*Засталося за днямі-вякамі.*
*Дзякуй Богу, што Вільня ўжо скора,*
*Зоры стомлена б'юць капытамі.*

*Але ж крыўда нясе дамавіну,*
*І раптоўныя чуюцца словы:*
*«Захавай, сыне, тую краіну,*
*Дзе трымаліся роднае мовы...»*

[1] Яшчэ на стадыі выдавецкага рэдагавання твор быў зняты з маёй кніжкі «Вандроўнік» (1983 г.). У чэрвені 1984-га гэты верш пад назваю «Сын» я прачытаў Уладзіміру Караткевічу — у яго дома...

**7 верасня 1983 г., 10 чэрвеня 1984 г., 19 кастрычніка 2015 г.**

### Паляванне беларускае

*Хоць вы зусім не паляўнічыя —*
*Пакіньце ж таўкачы і ступы,*
*Знайдзіце стрэлы ваяўнічыя*
*Не для звярынае загубы,*

*А на загубу — баязлівасці,*
*Халопства вечнага і страху,*
*І абыякавай маўклівасці:*
*«Хай родны край вядуць на плаху...»*

*Не кракаўскае і не тульскае*
*Ярмо, а наскае пароды...*
*Хай паляванне беларускае*
*Давеку доўжыцца, заўсёды.*

**22 снежня 2011 — 25 верасня 2015 г.**

### Стан беларускі

*Беларушчына не дараструшчана...*
*Дамавінаю будзе калыска?*
*Мова божая з торбаю пушчана,*
*Хата кінута з лыжкай і міскай...*

**23 ліпеня 2012 г. — 2 кастрычніка 2015 г.**

### Від з моста[2]

*На лужку адхоністай гары*
*Пасвяцца каза і казляняты —*
*Трохі воддаль і двары, і хаты,*
*Лодкі з ланцугамі, і Гарынь...*
*А на самым версе той гары*
*Лозунг ад усходу да заходу*
*Фарбай навальнічнаю гарыць:*
*«Власть у нас принадлежит народу!»*

*На слупах надзейных, металічных,*
*З моцнай сеткай выплеснуых крат*
*Ля свайго чырвонага аблічча*
*Бачыць ён казу і казлянят.*

[2] На стадыі выдавецкага рэдагавання верш быў зняты з кніжкі «Вандроўнік» (1983 г.), а пазней і з кніжкі «Над пляцам» (1986 г.).

**10 чэрвеня 1983 г., 20 траўня 1984 г., 19 кастрычніка 2015 г.**

### Вораг

1
*Мо навучуся трываць, дараваць?!*
*Сёння я думаў, рахманы вяльможа:*
*«Ворагу трэба дапамагаць,*
*Бо хто ж яму, беднаму, дапаможа...»*

2
*Перачытаў і сам сабе кажу:*
*«Цудоўна сказана, цудоўны Леанідзе!*
*Закінуў іскру ў сонную душу,*
*І тая іскра — сонейка ў зеніце!»*

3
*Аднак другая хваля набягае*
*З калючым афарызмікам такім:*
*«Ніхто нікому ўжо не памагае,*
*Бо той, хто памог,*
*быў названы дурным...»*

**24 верасня 2015 г.**

### Назіранне

*Было такое некалі*
*І больш ужо не будзе —*
*Ішоў па беразе ракі*
*Вандроўнік*
*І даў іншаму вандроўніку*
*Рыбіну...*

*Цяпер*
*Тую рыбіну*
*Трэба злавіць самому.*

**10 чэрвеня 2016 г. — 1 ліпеня 2016 г.**

### Спадарыні Давідовіч

*Быць артысткай — на сябе забыцца,*
*Памятаючы пра ўсіх наўкол,*
*І ў часіну кожную садзіцца*
*З Апалонам за галодны стол;*

*Ведаць, што падманнае каханне,*
*Кожны верш падманны і раман.*
*А з падмосткаў — словам і дыханнем*
*Славіць гэны радасны падман.*

*Сцэна — гэта тыя ж прапілеі,*
*Пад якімі кожны раз наноў*
*Лілія становіцца Лілеяй —*
*Кветкаю паэтаў, каралёў.*

**Снежань 1996 г.**

### Тэатральная кавярня

*І кветкі, і лыжкі, і водар кавярні,*
*І дробная соль на сурвэтцы калянай, —*
*Раптоўнай дзяўчыны пагляд уладарны*
*З адбіткам узору падлогі цаглянай.*

*Гадзіна міне, і кавярню зачыняць,*
*А покуль яшчэ не стаміліся пляшкі*
*У чаркі званіць, і на гэтай дзяўчыне*
*Яшчэ нерухомеюць апранашкі.*

*Адсюль праз гадзіну я толькі скрануся,*
*Бо зараз, не вызнаўшы пляшку дарэшты,*
*У край бы які не пайшоў Беларусі —*
*У гэтай кавярні ізноў апынешся,*
*Дзе шмат галасоў, і чужымі вачыма*
*Глядзіш на сябе і на тое, што будзе.*
*І побач з табою садзіцца дзяўчына,*
*Як свята, як самы шчаслівы твой будзень.*

**24 ліпеня — 4 верасня 1983 г.**

### Ля тэатра

*Я чакаў, як добры дурань,*
*Перад ветрам лістам слаўся*
*І над плотам, і над мурам*
*Я ўзлятаў і апускаўся.*

*У святле старой ліхтарні*
*Цень мой заставаўся ценем,*
*Клаліся ў яго хістанне*
*Дроту дробнае трымценне;*

*Краты холаду скразнога,*
*А яшчэ сцякаў па бруку*
*Цень ад будкі паставога*
*З вазай сметніцы пры боку...*

*Ты — акцёрка і, канешне,*
*На спатканне ўжо не прыйдзеш...*
*Я — і смешны, і пацешны*
*Холадам дабіты рыцар!*

*Падыду да паставога*
*Так або спытаць аб нечым.*
*Бліснe зорка вострым рогам*
*На плячы яго авечым.*

**14 сакавіка 1984 г. — 15 кастрычніка 2015 г.**

### Шэсцьдзясят

*У шэсцьдзясят магчыма зразумець —*
*Няма сяброў, а ёсць туман і вільгаць,*
*Мох на лазе і страчаная Вільня,*
*Дзе дух крывіцкі чуецца ледзь-ледзь.*

*Адчуўшы ў сэрцы, як жалеза, цвердзь,*
*Пра кожны дзень кажы адно: «Магільня...»*
*І дарабі нязробленае пільна,*
*І нават сына не прасі: «Заедзь...»*

*Такі ўжо вырак — вырак справядлівы*
*У існаванні дробным і хлуслівым,*
*А ў дажыванні наймацней адна*
*Карціна ўстане і суцешыць сэрца:*
*Гарынскі бераг, агарод, вясна*
*І сонца з ганка коціцца па сенцах.*

**2 красавіка 2016 г.**

# Пераклады з Лі Хэ

**Лі Хэ (790–816 гг.) — кітайскі паэт; з трагічнасцю ягонага кароткага жыцця і з празрыстай шчырасцю ягонай творчасці — магчыма, сугучнае беларускае ўяўленне пра лёс.**

### Пра пустэльніка Джао Шэна

*Складаная вельмі кухарства навука,*
*Аднак жа навукай валодае гэтай*
*Старэйшая жонка — карэнне бамбука*
*На бляхе высмажвае добра нагрэтай.*

*І жонка сярэдняя з працаю цяжкай*
*Таксама спраўляецца, не наракае —*
*Таўчэ яна рыс таўкачом, і як яшма*
*У ступе той рыс калярова іграе.*

*Зіма на парозе, і Джао Шэн рана*
*Яловае голле збірае, а сонца*
*І мох, і кару саграваe платана,*
*І меле праменне ў крынічных жаронцах.*
*У працы такой ці ў такой прагулянцы*
*Стаміцца не дзіва (пустэльнік калі вы!) —*
*Ён спіць, спачывае ва Ўсходняй альтанцы*
*Прыгожы, здаровы і вельмі шчаслівы.*

### Сяньжэнь

*Ператтварыўшы мур у сяміструнны цынь,*
*Сяньжэнь — жыхар нябёс і вечны, і высокі —*
*Пільнуе фенікса і ў ранішнюю стынь*
*З Паўднёвых гор здзімае ўніз аблокі.*

*Алень з крыніцы п'е — ідзі і паглядзі...*
*І паглядзі, як рыба ў моры грае скрыта...*
*Не вер паэтам — тым,*
*што ў час цара Удзі*
*Цвіценне персікаў уславілі нібыта.*

### Уначы сяджу і спяваю

*Куды каня начны віхор панёс?*
*Заходні вецер кінецца ў фіранку...*
*Дзе Млечны Шлях — там і Вялікі Воз,*
*І я адна маркочуся да ранку,*

*І «Думы доўгія» пяю, і лёс*
*Адзіны знае, што пяю для мужа...*
*Венера свеціцца на ўсходзе дужа;*
*Світанак набліжаецца, як сцюжа —*
*Конь шэры майго мілага панёс.*

### На другі год Джанхэ

*Аблокі, вецер і пшаніца...*
*У Гуаньджуне сітак шмат,*
*Якім ніколі не знасіцца,*
*А ў Гуаньдуне — акурат*

*Няма чыноўнікаў, якія*
*Здзіраюць плату за наймо.*
*І бык пастаўлены ў ярмо*
*Араць камлыжыны цяжкія...*



*Сяляне тут сям'ёй вялікай...*
*Я сто манет прашу ў казны,*
*Каб шчыра заплаціць музыкам*
*За кветкі белыя вясны.*

*Ці з лесу дзікага, ці з неба*
*Дух Божы з'явіцца за стол*
*Паснедаць — вынікла патрэба...*
*І апушчуся я на дол,*

*Вымольваючы даўгалецця...*
*І ў гэты час, як бык арэ,*
*Сем зорак перакруціць вецер,*
*Чан Э прыгожая памрэ.*

### Песня пра лютага тыгра

*Убачыўшы тыгрыны ладны след —*
*Суціш ходу сваю і хваляванне,*
*На дзіду плюнь і выкінь арбалет,*
*І болей не хадзі на паляванне.*

*Бо ён — скала, бо камяніца ён,*
*Умацаваны спрытам год каторы...*
*У злосці тыгр, вядома ўсім здавён,*
*Хвост, нібы сцяг, ускідвае ў прасторы.*

*І з мора Ўсходняга славуты Хуангун,*
*Што мог звяроў уціхамірваць сэрцам,*
*Нясе ў душы спалох, нібы валун —*
*Баіцца ноччу з тыграм тым сустрэцца!*

*А нейкі просты чалавек Ню Ай,*
*За тыдзень не адолеўшы хваробу,*
*Стаў тыграм і хапіў тут цераз край —*
*З'еў брата роднага, нібыта антылопу.*

*І тыгру Беламу, які з травы*
*Жыве адной, Ню Ай прамовіў крыва:*
*«Ты меч драўляны, а не баявы...*
*Ты гром фальшывы, бо грыміш маўкліва...»*

*Пачуў Канфуцый ля Тайшань-гары*
*Жаночы плач аб горы-адзіноце:*
*«Сям'я мая прапала без пары*
*У пашчы лютай, у ікластым роце!»*

*Чыноўнікі (о, палахлівы люд!)*
*Загад улады: «Знішчыць людажэра!» —*
*Не выканаюць, хоць забіся тут...*
*Баяцца ж тыгра лютага, халера!*

**Падрадкоўнікі вершаў кітайскага паэта Лі Хэ і неабходныя для перакладу тлумачэнні падрыхтавала Алена Раманоўская.**
**Пераклад Леаніда Дранько-Майсюка.**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (120) | 26 жніўня 2016 | № 32 (497) Новы Час

# Развітальны вясельны



Стася НАРКЕВІЧ

— Ніна Іванаўна, ты дзе? — крыкнула Марыя Пятроўна, падыходзячы да адчыненага акна. А калі ўбачыла, што тая сядзіць на падлозе і разглядае фотаздымкі, сказала:

— Сядзіш, карткі нейкія тасуеш, а не адчула сэрцам, што госці амаль на парозе. Ды толькі на масточку штосьці з машынай здарылася. Загрукатала яна і спынілася, што той наравісты конь. Мабыць, трактар патрэбны, каб прыцягнуў яе да твайго дома. Мо схадзіла б, зірнула?

— А божачкі, нават нідзе не кальнула... Я так захапілася, што ўжо з добрую гадзіну сяджу і ўсё забаўляюся. Ведаеш, прыемны занятак знайшла. Дык, кажаш, каля крынічкі, на масточку стаяць? Цікава, а хто ж машынай кіраваў, мо Тамарачка. Казала, што ўжо атрымала правы, — дзялілася сямейнай навіной Ніна Іванаўна.

— А хіба я ведаю? Бачыла толькі, як адчыніліся дзверы і з салона выйшла твая дачка, потым выбегла Волечка, а за ёй выкаціўся, што мячык, муж Тамары.

Ніна Іванаўна адклала ўбок стары жоўты альбом з надпісам: «Тут дзесяць класаў пройдзена...», у якім яшчэ ляжала гара фотаздымкаў, і выйшла да Марыі Пятроўны на вуліцу. Толькі наблізілася да брамкі — зірнула направа, туды, дзе знаходзіўся масток, а калі ўбачыла чырвоненькую «Мазду», якая пад'язджала ўжо да дашчатага доміка Ніны Іванаўны, не вытрымала і папракнула суседку:

— Ты што, Марыя Пятроўна, схлусіла. Бач, самі прыехалі, ніякая дапамога не спатрэбілася.

— Вось і добра. Менш клопату табе. А то дзе б ты знайшла той трактар, — выкруцілася Марыя Пятроўна. — У калгасе гарачая пара. Сенакос.

Жанчыны падышлі да машыны, з багажніка якой Тамара і Леанід ужо даставалі рэчы. Ля іх тупала чатырохгадовая Волька. Малая, як толькі ўгледзела бабулю, адразу кінулася да яе на рукі.

— А якая ж ты вялікая! — падымаючы ўнучку, прамовіла Ніна Іванаўна. — Праўда, як былінка. Такая ўжо лёгкая. Цыбе, відаць, бацькі не кормяць?

— Голадам морым. Паспрабуй ёй у рот што-небудзь упіхнуць! Бяда з гэтай ежай, — замест прывітання адказала дачка. — Апусці гэтага няўструя на зямлю, і мы з табою па-людску павітаемся.

— А мы і так павітаемся, — і Ніна Іванаўна пацалавала ў шчаку Тамару, потым зяця і сказала:

— Хадзем у хату хутчэй. Вы толькі не звяртайце ўвагі на вэрхал, які я там учыніла. Каб ведала, што вы сёння з'явіцеся, прыбрала б.

— Мамулечка, што ж ты такое натварыла?

— Фотаальбомы з гарадской кватэры сюды прывезла. Ледзь не надарвалася. А сёння ўселася і пачала іх разглядаць. Быццам яшчэ раз сваё жыццё па другім крузе прабягаю.

— Во і мы пазнаёмімся з тваім юнацтвам. А то ты, як партызанка на допыце, нічога і ніколі не расказвала нам з сястрой, — ужо ў хаце сказала Тамара.

— Хіба толькі вечарам знайду хвіліну-другую, каб зрабіць экскурсію ў мінулае, а цяпер палуднаваць самы час.

— Мама, а мы не галодныя. Гадзіну таму ўсталі з-за стала. Пасля што-небудзь перахопім. Дай толькі вадзіцы папіць ці кампоту. Я ведаю, што ты кожны дзень яго гатуеш з вішань.

— А я вішань хачу, я вішань хачу! — залямантавала Волька. — Вунь тых, што вісяць за акном, — і паказала пальчыкам на спелыя, амаль чорныя ягады.

— Ідзі з бацькам да дрэва. Вішань столькі сёлета, што ажно голле ломіцца. Ужо не ведаю, што з імі рабіць. Што абяру, а што шпакі здзяўбуць, — гаварыла бабуля ўнучцы.

— Пакуль вы будзеце смакаваць вішні, я дапамагу прыбраць у пакоі. А то і праўда — няма куды ногі паставіць. Толькі зірну на гэты сабраны скарб, — Тамара нахілілася над альбомамі, над стосікам пажоўклых ад часу фотакартак, адну з іх узяла ў рукі.

— Мамачка, гэта ты? Колькі табе было гадоў, калі фатаграфавалі? А дзе здымак рабілі? Дзесьці за мяжой?

— У Санкт-Пецярбургу. Гэта першая мая ўзнагарода за добрую вучобу. Я тады вучылася ў сёмым класе.

— А чаму ты ні мне, ні Веры нічога пра Піцер не гаварыла раней? Можа, і мы вучыліся б лепш, і нас бы вазілі па розных гарадах.

— Ну і дзівачка ты, дачушка. Хіба ж гэта вялікая перамога — выдатная вучоба? Хаця, шчыра табе прызнаюся, я не вельмі шмат часу тым урокам аддавала, бо даваліся мне прадметы вельмі лёгка. А калі ў шаснаццаць гадочкаў набегла каханне, наогул не хацелася за падручнікі брацца. Такі тлум стаяў у галаве, не давядзі божа.

— Здаецца мне, не толькі ў цябе. Многія падлеткі праз хваробу з дыягназам «першае каханне» прайшлі і выжылі, многаму навучыліся, — удакладніла Тамара, якая зусім нядаўна абараніла кандыдацкую па псіхалогіі. — Цікава, а дзе яны, твае аднакласнікі, што скончылі, кім працавалі? Пэўна ж, некаторыя, як і ты, ужо на пенсіі? Толькі хлопцам вашым, відаць, не пашанцуе. Ім пенсійны ўзрост павялічылі.

— Канечне ж, адпачываюць. А дзе працавалі — не ведаю. Сорак гадоў мінула, я многіх і не бачыла з таго часу. Ведаю, што толькі чацвёра з нашага «звярынца» атрымалі вышэйшую адукацыю.

— Трое матэматыкаў і ты?

— Не зусім так. Гэля паступіла ў інстытут, але потым яго кінула. Зоя скончыла ўніверсітэт, як, дарэчы, і Тэрэза Пятрова. Зоська, так любілі мы называць Зою, працавала ў адным з міністэрстваў праграмістам. Тамарачка — заслужаны настаўнік. Выкладае беларускую мову. Гена Маруды вучыць дзетак гісторыі. Цяпер, наколькі я ведаю, ён — дырэктар школы.

— А ты, мамулечка, стала журналістам. Дрэнны з цябе рэпарцёр, калі да сённяшняга часу не знайшла школьных сяброў і не распавяла народу, якім стаў ваш клас, як пражылі дзесяцігоддзі, «перабудову». Гэта ж цікава.

— Усё так. Пэўна ж, я напісала б і пра аднакласнікаў, каб была побач з імі. Неяк наважылася іх шукаць, але, сама ведаеш, жыла ад роднага куточка вельмі далёка...

— Вы ж пры сустрэчы адно аднаго не пазнаеце! Будзеце пытаць: а ты хто, а ты?

— Думаю, так і будзе, — уздыхнула Ніна Іванаўна, змоўкла і зірнула на здымкі; танклявыя пальцы падчапілі ражок нейкай карткі і паднялі ўверх.

— Зірні. Гэта наша пявуння. Не голас, а галасісча. Тварык кругленькі, быццам журавінка. А прозвішча ў яе — Жураўская. Здаецца, і зараз Люська выскачыць з фотакарткі, як аднойчы выскачыла праз акно, што было з боку ад сцэны, на вуліцу, калі зблытала словы песні, якую выконвала на нямецкай мове падчас канцэрта. Мы тады ўсе прыліплі да шыбін. Думалі, што ногі паламала. Два метры да зямлі, гэта табе не жартачкі. Дзякуй богу, абышлося. А, ведаеш, якая яна была шчырая сяброўка і выратавальніца. Памятаю, як у нашу школу накіравалі на працу фізручку. Гімнастку. Кандыдата ў майстры спорта. Маленькую, вяртлявую дзяўчыну, амаль аднагодку нашу. Косцік Сяньчук закахаўся ў яе так моцна, што месца сабе не знаходзіў. І яна па ім гарэла шызым агнём. Справа была ў панядзелак. Прыйшлі мы ў школу і пачалі па звычцы дзяліцца ўражаннямі выхаднога дня. Хто прыдумваў небыліцы, хто праўду расказваў, толькі Люська маўчала і свідравала вачыма аднакласніка, які сустракаўся з фізручкай. Потым падышла да яго і штосьці шапнула на вуха, і яны адразу пакінулі нашу шумную кампанію. Калі вярнуліся назад, то на Косціку быў швэдар Люсі з высокім каўняром, а прывабную постаць дзяўчыны лагодна абхоплівала Косціна кашуля. Мы адразу ўсе здагадаліся: Ніна, так звалі нашу настаўніцу па фізічным выхаванні, на шыі хлопца пакінула сляды гарачых пацалункаў.

— А навошта і ад каго было хаваць сінячкі? Падумаеш, які вялікі грэх!

— Ад каго? Ад фізічкі. Каб яна заўважыла такое, не было б жыцця нашаму Косціку столькі часу, колькі б ён вучыўся, а Ніначцы, пэўна ж, уляпілі б вымову, нягледзячы на тое, што ў гэтай пары былі шчырыя адносіны і сапраўднае каханне, якое потым, дарэчы, дапамагло стварыць ім моцную сям'ю.

**Раней хлопцы ганарыліся, калі ішлі ў армію. Не тое, што цяпер. Усе «косяць» ад службы. Дзяўчаты нават не хацелі сябраваць з тымі, хто не прайшоў вайсковую вытрымку**

— Малайчына ваша Люська. Вось гэта сапраўдны ўзор сяброўства.

— А мы ўсе былі малайцамі.

— Што я чую? А цяпер з гэтага месца падрабязней. Ці сорамна ўспамінаць?

— Які там сорам. Раскажу, чаму ж не распавесці. Кавалера Алімкі ў войска забіралі. Позва, што хлопца чакаюць у ваенкамаце, ляжала ў яго запісной кніжцы, дзяўчына ўжо слёзы ліла. Раней хлопцы ганарыліся, калі ішлі ў армію. Не тое, што цяпер. Усе «косяць» ад службы. Дзяўчаты нават не хацелі сябраваць з тымі, хто не прайшоў вайсковую вытрымку. А які ж навабранец без вясёлых выправін, без танцаў, якія ладзілі для сваякоў, суседзяў, знаёмых і блізкіх? Вечар мёўся адбыцца ў аўторак. Позненька. А як тайна пакінуць часовае жытло, ці, як мы яго называлі, інтэрнат, дзе жылі з позняй восені да ранняй вясны, каб не заўважыла выхавацелька? Яна ж ні ў якім разе не дазволіць пасля дзевяці гадзін выйсці з памяшкання. Прыдумалі ўрэшце: праз фортку вылузнуць на двор. Пяць дзяўчат паспяхова пакінулі пакой, а шостая, як на бяду, не змагла. Сукенкай зачапілася за кручок і павісла на сярэдзіне рамы. Вісіць. І ў гэты момант нашая вусатая выхавацелька, былая настаўніца пачатковых класаў, шырока адчыніла дзверы дзявочага пакоя. А там — карціна пад назвай «Прыплылі». Галава Тоські — на вуліцы, а ногі — у пакоі, быццам нажніцы, стрыгуць паветра. Дапамагла выхавацелька дзяўчыне без траўмы пакінуць акно і прымусіла пасля такога стрэсу легчы ў ложак. Так яна і засталася ў інтэрнаце. А мы ж схаваліся за кут будыніны і без лішніх прыгодаў праз хвілін дзесяць падаліся ў суседнюю вёску да навабранца. Сярод пяцярых адважных была і я. Натанцаваліся ўдосталь і вярнуліся назад. А як зайсці ў памяшканне? Акно высока, не падскочыць да лаза-форткі. Спрабавалі на плечы адна адной залезці, ды дзе там. Ад смеху не змаглі. І вельмі баяліся, што выхавацелька зноў з'явіцца перад намі. А спаць хацелася, вочы на ходу заплюшчваліся. Некалькі разоў грукалі ў раму: чакалі, мо дзяўчаты, якія спалі, прачнуцца і ўпусцяць у пакой. Ніхто нават вухам не варухнуў. Давялося мне падысці да акна, ля якога спала нашая Аляксандра Альфрэдаўна, і паскрэбсці, быццам котцы, па шкле ды папрасіць, каб пусціла мяне ў пакой. І гэта каля шасці гадзін раніцу! Божухна, які сполах быў у ейных вачах! Выхавацелька хуценька ўсхапілася, а спала заўсёды ў вопратцы, і пайшла мяне ратаваць, балбочучы пад нос: «Як?

Чаму? У такі час?» Давялося выкручвацца, што, маўляў, выйшла ў прыбіральню, а дзяўчаты пажартавалі і дзверы зачынілі. Не ведаю, паверыла ў маю байку ці не, але я ўжо была ў пакоі, праз некаторы час і дзяўчаты прабраліся ды ціхенька ў ложак леглі...

— Ну і хітрыя ж вы былі!

— Не хітрыя, а практычныя. У жыцця самастойнасці вучыліся. Праз некаторы час такімі і сталі. Канцэрт падрыхтаваць — не праблема, у футбол згуляць — няма пытанняў, дапамагчы калгасу — лёгка. Вось так і жылі. Усё ў нас атрымлівалася, усюды мы паспявалі. Не прыкмецілі, як і выпускны падбег, быццам маладзенькі алень, хутка, з высока ўзнятай галавой. Ганарліва.

— Мама, а гэта ты з дзяўчатамі на выпускным? — разглядаючы наступны здымак, спытала Тамара. — Напэўна, той дзень запомнілі на ўсё жыццё?

— Запомнілі, яшчэ як запомнілі... Асабліва падрыхтоўку да банкету, ці, як казвалі па-вясковаму, да п'янкі, на якую запрасілі бацькоў і настаўнікаў.

— А дзе ж вы бралі прадукты? І хто вам усё гатаваў?

— Ну і дзівачка ты, Тамара. Што купілі ў крамах, што ў калгасе. Памятаю, пайшла я да старшыні гаспадаркі і папрасіла, каб ён выпісаў цялятка, кілаграмаў на трыццаць. Не адмовіў Аляксандр Рыгоравіч. Толькі тую жывёліну патрэбна было забраць з фермы, якая ад школы знаходзілася за пяць кіламетраў. Мы ўнеслі ў касу грошы за прыкладную вагу і паехалі па будучыя адбіўныя. Ведаеш, дачушка, нават не падазравалі, што нас чакала ў загарадцы. Там не цялятка стаяла, а шкілет, які дрыжэў у перадсмяротных сутаргах і мутнымі вачыма глядзеў у адну кропку: хворымі ў яго былі і косці, і нутро. Жывёліна, пэўна ж, праз дзень-другі капыты б адкінула. Зірнулі мы на таго небарака і войкнулі. Да яго нельга было падысці, такое бруднае. Але ж грошы аддалі, значыць, трэба забіраць. А Толік, Ваня і Валодзя не хочуць набліжацца да таго бедалагі. Папрасілі даглядчыкаў і ахвяравалі ім літр віна, каб яны ўскінулі жывёліну на вазок. І каб ніхто не страхоцце не бачыў, мы яго сенам прыцярушылі. Толькі страшэнныя гукі, якія раздаваліся з-пад сухой травы, насцярожвалі калгаснікаў, якія сустракаліся на шляху дахаты, дзе мы меліся адзначаць свята. Я да той ялавічыны не дакранулася, як і астатнія пастаўшчыкі мясных прысмакаў.

— А чым яшчэ табе запомніўся выпускны? Вы хадзілі сустракаць раніцу?

— Сустракалі мы раніцу на ферме. Праўда, не ўсе дзяўчаты. Дапамагалі маці адной з нашых аднакласніц даіць кароў. Бо матуля яе вельмі стамілася за святочным сталом... Ты не ўяўляеш, як прыемна назіраць,

# вальс

калі цыркае малако. І тыя два струменьчыкі цякуць у вядро, якое напаўняецца на тваіх вачах. А які смачны пах сырадою! Мы па пяць кароў выдаілі. А потым, калі вярнуліся дахаты, спалі, як пшаніцу прадаўшы...

— А гэты здымак таксама з выпускнога? Ты тут непадобная да сябе. Не ўсміхаешся, знік агеньчык. І, як мне здалося, вочы напоўнены слязьмі.

— Дай зірнуць, які гэта эпізод з майго жыцця трымаеш? Так, мне было вельмі сумна і не да весялосці. Я развітвалася са школай, з аднакласнікамі, са сваім першым каханнем. Хлопец, які стаіць збоку, — Віктар. Ён на некалькі гадоў быў старэйшы за мяне. Адслужыў у войску, скончыў ваеннае вучылішча і служыў ужо ў часці, якая дыслацыравалася ў лесе, непадалёк ад вёскі, дзе ён нарадзіўся. Быў сувязістам. Як мне хацелася, каб ён падышоў да мяне на выпускным і пакляўся, што, нягледзячы на расставанне і адлегласць, якая будзе нас раздзяляць, мы пранясём каханне праз гады і выпрабаванні! І што мы, калі настане час, звяжам адным моцным вузлом свае лёсы. Але ён не толькі не кляўся ў той вечар, а нават не падышоў да мяне. Маё сэрца амаль што разарвалася ад болю. Я не магла зразумець такія перапады ў настроі свайго любага.

— А ён прыгожы. Статны. І, відаць, весялун.

— Не тое слова! Што прыгожы, то прыгожы, і да дзяўчат захожы. Ніводнай спаднічкі не прапусціў. Словам — Казанова. Я ў яго закахалася яшчэ ў восьмым класе. Пазнаёміліся ў клубе на танцах. Віктар прыехаў з войска на пабыўку дадому. Як яму пасавала ваенная форма! Танцавалі ўвесь вечар, пасля Віктар пайшоў мяне праводзіць да інтэрната, да яго кійком дакінуць можна было, але мы ішлі, пэўна, гадзіны тры. Ён распавядаў цікавыя выпадкі з вайсковага жыцця. У той вечар падарыў зорку, самую яркую, і я была, бадай, на сёмым небе ад шчасця, што такі прыгажун звярнуў увагу на мяне і больш ні на кога. А які салодкі быў яго пацалунак... Першы мой пацалунак у жыцці. Месца сабе не знаходзіла пасля таго вечара. Мроіла Віктарам...Аднойчы да мяне падышла Ганна, практыкантка-стаматолаг, з якой я сябравала, і спытала:

— Ніна, скажы, у цябе сур'ёзныя адносіны з Віктарам Сібіраком?

— А што здарылася? — таксама спытала я і, каб доўга не стамляць дзяўчыну, прызналася: — Так, ён мне вельмі падабаецца.

— Не вер яму. — І Ганна працягнула мне канверт са штэмпелем, які быў адрасаваны ёй. Я зірнула — і мне здалося, быццам почырк Віктара прабег па маім твары, а не па той паперы, ды размаляваў чырвонымі ўедлівымі пісягамі шчокі, шыю. Я стаяла і маўчала, а Ганна трэсла мяне за руку. А што гаварыць? Фактычна, яна — саперніца. Я маўчала. У маёй галаве насілася Віктарава прызнанне ў каханні, якое перакрэслівалася крыўдай і падманам. Не ведаю, колькі б я так стаяла, каб не прапанова Ганны: узяць канверт, пакласці маё і яе пісьмы і адаслаць у часць. Так і зрабілі. Праз нейкі тыдзень я атрымліваю вялікае пасланне — адно на дваіх. А пачыналася яно са слоў: «Шаноўныя мае сіньярыты, я вам хачу сказаць, што вы абедзве мне падабаецеся. І вы так дапаўняеце адна адну, што толькі ўдзвюх здольны стварыць вобраз дзяўчыны, які я сабе прыдумаў. Я кахаю вас...» Як аказалася потым, з такім шчымлівым пачуццём ён адносіўся і да трэцяй мясцовай прыгажуні — начальніцы пошты, якой таксама дасылаў лісты і сустракаўся падчас адпачынку.



У яго дзень быў распланаваны так: з раніцы Віктар загаворваў зубы стаматалагічцы, з начальніцай круціў шуры-муры днём, а вечарам тлуміў галаву прыгожымі словамі мне.

Пасля таго ліста я больш не атрымлівала ад Віктара вестак. Трошкі пасталеўшы, вельмі пашкадавала, што паслухала Ганну. Хаця хто яго ведае, што было б потым... Але тое першае каханне, такое незабыўнае і шчымлівае, бывае, і сёння ўзрушыць памяць, асабліва калі Віктара пабачу ў сне. Калі ён вярнуўся з войска, мы яшчэ сустракаліся, але тыя сустрэчы былі падобны да нацягнутай струны: кранеш, а яна адгукнецца ціхім стогнам. Гэта было, калі я вучылася ў дзясятым класе. А на выпускным ён не падышоў...

— А што было далей?

— Далей? Ён служыў. Я спасцігала таямніцы журналістыкі. Кожны з нас выбраў сваю дарогу і пакрочыў па ёй. І колькі б я ні ішла па сваёй, я ўсё ж марыла пра тое, што калі-небудзь сустрэну Віктара, і зноў між намі адновяцца цёплыя пачуцці, рамантычныя спатканні. Не так, як у вас сёння: на першай гадзіне знаёмства — кампліменты, на другой — пацалункі, а пад канец вечара — моцныя абдымкі ў ложку.

— Мама, а што, ты так і не сустрэла яго больш? Нават здаля ніколі не бачыла?

— Бачыла. Напярэдадні яго вяселля. Я тады працавала ўжо ў газеце свайго раёна. Прыехала з камандзіроўкі, і, хоць вельмі стамілася, мы з дзяўчатамі пайшлі на танцы. Як вы сёння кажаце — на дыскатэку. А ладзілася яна на адкрытай пляцоўцы ў Парку адпачынку. Толькі падышлі да касы па білеты, як мяне схапіла за руку Вольга Наверач, аднакласніца, і выдала:

— А ведаеш, Віктар жэніцца з тваёй сяброўкай — Зінай, праз тыдзень вяселле. Тыя словы, быццам сякера, падсеклі мае ногі. Ад нечаканасці я ледзь не павалілася. Толькі выгляду не падала і выціснула з сябе:

— Як, якім чынам? Ён жа з ёй ніколі не сустракаўся. Ці я памыляюся?

Вольга толькі галавой пакруціла і ні слова не сказала.

З гэтай навіной мы і пайшлі на пляцоўку. Быў шэры надвячорак. Напаўзлі густыя хмары, і дробненькія кропелькі пачалі падскокваць на дашчатай падлозе. Трошкі грымела ды пабліскавала маланка. А вось у маёй душы пачынаўся буран... А яшчэ — жаль. Так сябе шкада зрабілася, што слёзы ракой паліліся. Я плакала, нават не выцірала тыя салёныя кроплі і шаптала: «Канец. Цяпер канец. Я так доўга яго чакала. Яшчэ на нешта спадзявалася. Нават набыла заручальны пярсцёнак і надзела на палец, каб адпудзіць ад сябе кавалераў, якія не давалі праходу. Хоць бы на яго зірнуць у апошні разок».

І ты не паверыш: Віктар раптоўна вырас перада мною. Якім чынам мяне тут знайшоў сярод сотні людзей, я і сёння не магу ўцяміць. Павітаўся са шчырай, абаяльнай усмешкай і запрасіў на вальс. Мы пайшлі ў круг. Не ведаю, куды дзеліся слёзы, адкуль з'явіўся смех, уедлівы, у перасыпку са злымі, калючымі кпінамі. Ён толькі здзіўлена пазіраў ды слухаў і ўсё бліжэй і бліжэй туліў маё цела да сябе, быццам хацеў гэтым штосьці сказаць, але баяўся. А я ж была нібы вожык. Але як мне хацелася абхапіць яго шыю, закрычаць на ўсё наваколле: «Не аддам, не аддам!» Ды замест гэтага я прагаварыла:

— Віншую. Чула, што ты ўжо старлей, і што хутка тваё вяселле. Чаму ж ты мяне на яго не запрашаеш?

— На якое? — быццам бы здзіўлена спытаў Віктар, нахіліў сваю галаву над маім вухам і прашаптаў: — Я яшчэ не жанюся. Ты ж не хочаш за мяне выходзіць?

Што я магла адказаць? Нават не знайшла слоў, каб яго ўкалоць балюча-балюча. У маёй галаве толькі прабегла: «А хіба ты калі-небудзь пра гэта гаварыў? Ты нават не развітаўся, не сказаў, што паміж намі легла прорва. Не прызнаўся, баязлівец, што пакахаў іншую. Тым самым вызваліў мяне б ад перажыванняў, пакут». Не ведаю, чым бы ўсё скончылася, каб не сціхла музыка і пад густы рокат грому ды шалёны танец дажджу Віктар праводзіў мяне да сябровак. Прывёў, пацалаваў у шчаку. Вусны яго былі гарачыя-гарачыя... Я той дотык, як кроплю кіпеню, і сёння адчуваю. Праз гады. Вось такое было развітанне. Віктар павярнуўся і пайшоў у натоўп. А я глядзела яму ўслед да болю ў вачах, да слёз, якія зноў каціліся па шчоках, буйныя ды горкія. Выціраю іх, скідваю на падлогу і кажу дзяўчатам:

— Не ведаю, як вы, а я пайду дадому... Мне млосна. Ды і дождж, відаць, не перастане...

І мы выйшлі з танцпляцоўкі. Дайшлі да кватэры, якую здымалі, і я, не распранаючыся, легла на ложак. Усю ноч праплакала. Я кожнае, бадай, спатканне прыгадала, кожнае слова... Вось якім было маё першае расчараванне, як і першая навука: не верыць прыгожым узнёслым словам. Я і цяпер, хоць прайшлі дзесяцігоддзі, да кампліментаў адношуся з асцярогай. Бо думаю, што за імі хаваецца падман. Пасля таго «вясельнага танца» ў мяне доўга не было хлопца. Я ўжо нікому не верыла.

— Мама, цікава, як склаўся ў Віктара лёс?

— Дакладна не магу сказаць. Але чула, што з жонкай ён разышоўся і з'ехаў з Беларусі ў Сібір.

— Ты адна, мабыць, і ён...

— І што ты гэтым хочаш сказаць? Няўжо ж думаеш, што я, самадастатковая жанчына, згублю галаву і пабягу яго шукаць? Не, дзіцятка, я здрадніцай на дух не цярплю. Хаця, думаю, гэта была і не здрада з боку Віктара, а хлусня. Не, нават не хлусня, а гульня прыгожых слоў, гульня ў каханне, на якое я, як дурніца, паддалася. Я, калі сустрэла твайго бацьку, не чула ад яго ўзнёслых слоў, не ўмеў іх гаварыць, але ж убачыла ля сябе сапраўднага мужчыну: выхаванага, тактоўнага, які гатовы быў аддаць мне ўсё на свеце. І я яму была ўдзячна за гэта. Я яго паважала, вельмі паважала. Вось толькі праклятая хвароба, якую ён падчапіў падчас ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, скараціла нашыя светлыя і шчаслівыя дні, — на адным дыханні прамовіла Ніна Іванаўна і сціхла. Зірнула на альбомы, нахілілася і пачала збіраць фотаздымкі, прыгаворваючы:

— Расселіся мы з табою, Томачка. Разглядаем усё без патрэбы, а на дварэ пагрымвае. Дождж, відаць, прабяжыць. Вось і пайшоў... Добра, што бялізну да вашага прыезду зняла. А то б пасушыла. Бяжы па дзіцё, а то вымакне, — сказала і працягнула руку, каб абаперціся на плячо дачкі ды ўстаць з падлогі, як раптам пачула:

— Ніна Іванаўна, да цябе можна?

— Заходзь, заходзь, Клава Сяргееўна. Даўно цябе не бачыла. У горадзе не можам сустрэцца, хоць на адной пляцоўцы жывём, дык хоць тут пабачымся. Па патрэбе якой завітала? А ў мяне госці.

— Ды бачу я. Павіталася ўжо з унучкай. І аддала ёй канверт, які табе перадала наша суседка. На яе адрас прыйшло пісьмо, а прозвішча тваё. Заказное. Вось і папрасіла мяне, калі паеду на лецішча, перадаць табе ліст.

— Волечка, унучачка, ты дзе? Пісьмо нясі хутчэй. Што ж там у ім?

— Я тут, — адпіхаючы Клаву Сяргееўну з дарогі, прамовіла дзяўчынка і патрэсла канвертам.

Ніна Іванаўна падхапілася з падлогі, падбегла да малой, узяла пасланне.

Хуценька прабегла вачыма па незнаёмым почырку, падышла да стала, узяла нажніцы і адрэзала краечак канверта. Дастала складзены ўдвая аркуш, разгарнула і пачала ўголас чытаць. «Паважаная Ніна Іванаўна! Чакаем цябе ў нашай школе 19 чэрвеня а 12 гадзіне. Твае аднакласнікі».

— Ну гэта ж трэба так! А я думаю, чаму мяне на ўспаміны пацягнула? Фотаальбомы расклала. Думала, што старэю. А тут вось як павярнулася!.. Цікава, як мяне знайшлі? — не звяртаючы ўвагі на прысутных, гаварыла сама сабе Ніна Іванаўна. Потым нахілілася над альбомамі і падняла адзін, той, дзе былі фотаздымкі аднакласнікаў. Прытуліла да грудзей, і радасна-ўзрушаны позірк пабег праз акно на двор, на вытаптаную сцежку, над якой вісела чорная хмара, якая выкручвала з сябе кроплі вады. Яны падалі на зямлю і ўздымалі ўверх пыл-пацяруху, які, быццам жывы, падскокваў, танцаваў пад раскаты грому ды феерверк бліскавіц, як тады, на танцпляцоўцы. Ён вяртаў Ніну Іванаўну ў мінулае, у яе маладосць ды быццам запрашаў на той развітальны вясельны вальс...

# Любоўю жывіцца сусвет...



Анатоль ДЭБІШ

## У горне

*Самотай і болем агорне.*
*Душу, але Дух не кране.*
*Нібыта жалезу, што ў горне,*
*Жыццём выпрабоўвацца мне.*

*Чым болей турбот і навалы —*
*Тым Дух майго цела мацней.*
*Глядзіце, з жалезам што стала —*
*Яно пачало палымнець.*

## Збіўся з тропу

*Ішоў па шчасце! — збіўся з тропу.*
*Адну брыду трымаю ў лапе.*
*Хацеў патрапіць я ў Еўропу, —*
*У джунглі Афрыкі патрапіў.*

## Балада пра сябра

*Маім найлепшым сябрам быў:*
*Усмешкі шчырыя дарыў,*
*З адной еў міскі, шклянкі — піў,*
*І разумеў — з паўслова.*
*Ды вось патрапіў я ў бяду,*
*І на расстрэл мяне вядуць,*
*Яшчэ імгненне — я сыду...*
*Да д'ябла, ці да Бога?*

*Бывай, мой край! Мой родны дом!*
*Усё жыццё мае — на злом,*
*Наўкол — Гамора і Садом,*
*Паклёпы, гвалт і здзекі.*
*Хвіліны прамінаюць, дні —*
*Ані сяброў, ані радні...*
*Натоўп галёкае: «Распні!*
*Каб не ўваскрос навек ён...»*

*Дзе ж сябра мой? Мо толькі ён*
*Аплача мой гвалтоўны скон?..*
*Ягоны чую я праклён, —*
*З натоўпу злітым хорам.*
*«Распні!» — нясецца над зямлёй...*
*З усмешкай шчырай і святой*
*У скронь страляе сябра мой...*
*...Крывёй змывае сорам.*

## Абмежаванне

*Свабоду Шарык тую мае —*
*Ланцуг якую дазваляе.*

***

*Даведзена да ладу:*
*І на двары, і дома.*
*На ганак я прысяду.*
*Сваю развею стому.*

*Сяджу. Куру стамлёны,*
*І дзякую я Богу...*
*Як ліст пажоўклы з клёна,*
*Кладзецца дзень пад ногі.*

## Любоўю жывіцца сусвет

*Прыняўшы вобраз чалавечы,*
*Ў краіну радасці і бед*
*Хрыстос прыйшоў з нябёс, каб сведчыць:*
*Любоўю жывіцца сусвет.*

*Яна — дае нам моц і лечыць.*
*І без яе жыццё — турма.*
*Хрыстос на крыж пайшоў, каб сведчыць,*
*Што смерці для любві няма.*

*Няхай парою смерць лякае,*
*Што ніткі лёсу абарве.*
*Няма жыццю канца і краю,*
*Калі любоў у ім жыве!*

## Замураваны

*Храм збудаваць хацеў жаданы,*
*Дзе ззяе сонцам кожны камень.*
*Храм волі. Сам замураваны*
*Цяпер у гэтым, з думак, храме.*

## У карчме

*Ноч. У карчме — толькі я і габрэй.*
*Зымканне мухі, агмень цыгарэты.*
*А ля ўваходу, ля самых дзвярэй,*
*У місе з вадою — злоўлены ветах.*
*П'ём цішыню. Бо яна — задарма.*
*І за віно больш плаціць нам не трэба —*
*Выпілі ўсё. Ды і ежы няма,*
*Хіба, для пыхі, кавалачак хлеба.*
*Есці багата адвыклі даўно.*
*Можа, якісь агурок з лебядою.*
*Мокры, журботна глядзіцца ў акно*
*Злоўлены ветах у місе з вадою.*
*Ды на яго ніхто не зірне,*
*Сёлета кожны заняты сабою.*
*Думае, пэўна, габрэй пра мяне,*
*Я ж пра яго. Непатрэбныя — двое.*
*Ды разыходзіцца мы не спяшым,*
*Удвух мы мацней, калі што, што якое...*
*Плача габрэй, плачу побач я з ім.*
*Злоўлены ветах у місе з вадою.*
*Ноч прамінае. І дзень настае —*
*Вось за акном хутка сонца заззяе.*
*Больш мы не плачам. Мы песні пяем.*
*Плакаць чаго — калі доля такая?*

*Раптам ускрыквае сонны габрэй:*
*«Ты паглядзі — нас не двое, а трое!*
*Ён, як і мы, сцень нямы між людзей, —*
*Злоўлены ветах у місе з вадою.*
*Можа, адпусцім на волю яго,*
*Вызвалім мы, небараку, з палону?»*

*Вынулі з місы. І толькі ўсяго...*
*Свеціць і свеціць той ветах — да скону.*

## Мяжа

*Нябачнай сцяной мяжа*
*паўстала на маім шляху:*
*без пагранічных стаўпоў*
*і вартаўнікоў,*
*разбітая на сотні аскепкаў*
*і паяднаная ў адно цэльнае — жыццё...*
*Мяжа — без межаў.*

***

*Я знаю — сустрэну чароўную пані,*
*Якую ў жыцці гэтак прагнуў знайсці,*
*А з ёю надзею сваю і каханне, —*
*Ды толькі не ў гэтым, не ў гэтым жыцці.*

*І вораг мой люты — за сябра мне стане,*
*Каб поруч заўжды па дарозе ісці:*
*Дзяліць — і жытло, і бяду, і жаданні, —*
*Ды толькі не ў гэтым, не ў гэтым жыцці.*

*І будзе — ноч светлай і сонечным — ранне,*
*Усё навакол — і спяваць, і цвісці...*
*Вясна — у вачах, а на сэрцы — літанне...*
*Ды толькі не ў гэтым, не ў гэтым жыцці.*

*Таму непазбежнасць не страшыць растання.*
*Жадаю любові святлом прарасці,*
*Хай нават праз вечнасці пыл і выгнанне, —*
*Калі і не ў гэтым — у іншым жыцці.*

# Голы кароль



Васіль ДЭБІШ

## Госць

*Пастукае мне ў акно,*
*Сярод ночы,*
*Чалавек,*
*Поўны роспачы,*
*Назавецца іменем маім...*
*Я адчыню дзверы*
*І скамянею:*
*Гэты чалавек*
*Так падобны да мяне,*
*Нібыта адзін твар*
*Я і Ён.*
*— Не, скажу,*
*Я не магу цябе*
*Пусціць:*
*Я ўжо Ёсць...*
*Чалавек*
*Растворыцца*
*Ў цемені ночы.*
*А я і не заўважу,*
*Што я адзін*
*Іду,*
*Заблудзіўшыся, ў дарозе,*
*Што за сабой*
*Мяне вядзе*
*Прабітая цвіком*
*Рука.*

## Прарок

*(Балада)*

*Прысвячаю Алесю Каско*

*Хмурны мужчына,*
*З тварам, бы мапа краіны,*
*Думкамі вечна азораны,*
*Чалавек з вачыма-азёрамі,*
*Збіральнік песень і стогнаў,*
*Разгарачаны, крочыў да Бога,*
*Прытаміўся скарб гэты несці,*
*У шынок зайшоў, каб паесці.*
*Адштурхнуў валацуг з парога,*
*На габрэя зірнуў ён строга,*
*Пасміхнуўся, прысеў за столік...*
*І заплакаў ад смутку, болю:*
*— Божа, дзе ты, чаму пакінуў*
*Ты мяне і маю краіну!?..*
*Абылгалі нас, абакралі,*
*З роднай хатачкі нас прагналі*
*І адправілі ў свет блукаці*
*Сіратой без Радзімы-маці.*
*Ты вярні, што належыць нам, Божа!*

*...Ды дарма слёзы ліў і маліўся,*
*Толькі жаль на душы памножыў.*
*Затрымаўся ў шынку, спазніўся*
*Адзінокі вандроўнік-нябога*
*На сустрэчу да пана Бога.*

## Адносна

*Усё адносна ў свеце гэтым:*
*То срэбра зыркі бляск, то — гразь.*
*Жабрак разбуты і раздзеты,*
*А ў параўнанні з ім ты — князь.*

*Дзе тыя межы, тыя грані,*
*Што раздзяляюць нас? Дзівак!*
*Вунь князь у залатым убранні...*
*Ты ў параўнанні з ім — жабрак.*

## Праўдападобная казка

*«Кароль — голы...!?»*
*Г. Х Андэрсэн*

*Да смяхотнага пенкны, нібыта царэўна,*
*Невідушчы Гамер з сваёй лютняю спеўнай.*



*Ён спявае і танчыць, ды так адмыслова,*
*Што бы згустачак мёду — кажнюткае слова.*
*А на ўзбочыне песні, і стогны, і крыкі,*
*Дзе натоўп вар'яцее ад радасці дзікай.*
*Людзі цягнуць далоні, гатовыя пляскаць...*

*Тут знікае мяжа паміж явай і казкай.*
*Па краіне маёй блазен з лютняй ступае,*
*Сам сляпы, ды відушчым сябе ўяўляе,*
*Бо пабачыць не здатны брыдоты наўкола:*
*Што народ танчыць голы, і сам танчыць — голы!*

## Халадзільнік

*Не спіцца... Трэцюю гадзіну*
*Раве, скавыча халадзільнік*
*Ды так надрыўна, так пагана*
*Бы ты, калі прыходжу п'яным,*

*Нібы памёр я — не іначай,*
*Заходзішся на ложку плачам.*
*Пасля — гадзюкаю ў клубочак,*
*І знаць мяне тады не хочаш.*

*Аж раптам — ціш. Чуваць і муху,*
*Што заляцела на змярканні.*
*О, як прыемна цешыць вуха,*
*Яго, каханая, маўчанне.*

***

*Гарацъ агні. Смуга заслала бераг*
*Ракі. Смуга — на сэрцы і ў вачах.*
*Іду без мэты я, адзін, наперад,*
*Губляецца ў сівым тумане шлях,*

*З якога мне не выбрацца ніколі*
*І смутку мне не пераплыць раку.*
*Пад'ёмны кран, бязрукі сімвал Волі —*
*Хістаецца на ветры скразняку.*

*У бераг хвалі плешчуць палахліва.*
*На грэбнях ні праменьчыка, ані.*
*Туман халодны сцелецца на ніва...*
*Гарацъ агні, бязлікія агні.*

***

*Я — паганец. Не срэбру і золату бляску —*
*Кветкам у лузе малюся, траве і расе.*
*Перуну і Ярыле з бабулінай казкі,*
*Што грымотнаю пугай аблокі пасе.*

*Я — паганец. З магутнага дуба*
*скульптуру*
*Высек Зніча, цяпер пакланяюся ёй.*
*Што мне храм той зямны,*
*з яго велічч хмурай?*
*Прыгнятае мяне ён раскошай сваёй.*

*Лада ценем лагоды і смутку акрыла,*
*Каб любоўю мой кожны агучыўся крок,*
*І дала мне яна цудадзейную сілу.*
*Я — паганец, спакрэвіч вятроў і аблок.*

# «Маўчыце, пасівелыя вякі...»

**Старонкі дыярыуша (1963–1967)**

Сяргей ПАНІЗЬНІК

**«Me fecit Sluciae» — пазнака на канцах знакамітых слуцкіх паясоў з Беларускага аддзела Львоўскага нацыянальнага музея...**

*Узнёслы горад — як мальберт…*
*…Я, беларускасці малюск,*
*раскрыў Свянціцкага канверт,*
*спасцігнуць сэнс: «Мэ фэцыт Слуцк».*
*На акварэльнай любаце*
*бузок у Стрыйскім парку цвіў.*
*І ў Алаізіным куце*
*свяцілася: «Мэ фэцыт Львіў»…*

Служыў я ў артпалку 120-й гвардзейскай Рагачоўскай дывізіі на самым ускрайку Мінска. На месцы таго кустоўя паўстаў Інстытут культуры Беларусі. У 1962–1963 гадах напорыста друкаваўся ў дывізійнай газеце. І аднаго разу яе рэдактар маёр Барыс Яфімавіч Грыншпун узгадаў пра Львоў, дзе вучаць на журналістаў. Як фельчар без практыкі я заціхаў у медыцыне. А тут пра нейкі казачны Львоў загаварылі! Далёкая невядомасць зачаравала. Паслаў у Львоў патрэбныя дакументы, пасля выкліку вясной 1963-га здаў іспыты — і ачмурэў ад фантастыкі горада, які толькі ў некаторых дэталях нагадваў мне ўжо знаёмую Рыгу.

Прыемна было знаходзіцца ў даволі спагадлівых умовах: асабліва не прыгняталі курсантаў Вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА і ВМФ. Сярод будучых журналістаў былі хлопцы з высокімі паэтычнымі задаткамі…

Вяртаюся пад Стрыйскі парк, каля якога і размяшчаліся будынкі вучылішча. Пасля самападрыхтоўкі мне дазвалялася наведваць бібліятэкі, музеі, архівы і спецсховы пры іх. Хацелася дазнацца пра вучобу ў Львове нашай паэткі Алаізы Пашкевіч (Цёткі), паглядзець на артэфакты, выкупленыя ў Беларусі Іларыёнам Свянціцкім для Нацыянальнага музея… У Дзяржаўным архіве Львоўскай вобласці даведаўся пра тое, як падпольна друкавалі ў Стаўрапігійскім інстытуце газеты КПЗБ «Жыццё» і «Беларускае жыццё» (з вершамі Максіма Танка, Янкі Купалы…).

Мой допіс «Беларускі падпольны друк у Львове» быў надрукаваны ў 1966 годзе ў часопісе «Беларусь». А перад гэтым я пасылаў былому віленскаму падпольшчыку, апекуну названных выданняў Максіму Танку перазнятыя архіўныя сведчанні. Дарэчы, наша Беларускае зямляцтва мела з Максімам Танкам стасункі. Мы павіншавалі яго з абранем старшынём Вярхоўнага Савета БССР. У адказ атрымалі (ці не ў канцы 1964 г.) навагодняе віншаванне і верш «Жадаю вам…»

«Дарагі дружа!»—так пачынаў Максім Танк свой ліст да мяне ад 4 красавіка 1966 года, у якім дзякаваў за фотаздымкі, удакладняў архіўныя дадзеныя, згадваў сваіх сяброў-змагароў, якія спрыялі выданню аднаднёвак, сканфіскаваных, на вялікі жаль, львоўскай паліцыяй. Да сэрца прылёг апошні сказ з гэтага ліста: «Поспехаў у Вашай службе і працы. Моцна цісну Вашу руку — Максім Танк»…

А сувязі з Мінскам не парываліся. Ліставаўся з Рыгорам Барадуліным, які рыхтаваў да друку мой зборнік «Кастры Купалля». Пасылаў свае вершы Сцяпану Гаўрусёву, Анатолю Вялюгіну… Пісаў Янку Брылю аб жаданні ўшанаваць імя Цёткі у Львове. Іван Антонавіч параіў звярнуцца да Івана Шамякіна. Той адмыслова патурбаваў Кіеў — і ўрэшце-рэшт мемарыяльная шыльда ў гонар Пашкевіч-Цёткі была прымацавана на будынку па вуліцы Жовтнэвай, 41…

Сябрамі львоўскага Беларускага зямляцтва імя Цёткі былі курсанты двух факультэтаў вучылішча, студэнты-медыкі, студэнты-паліграфісты… Мы выпісвалі часопісы «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», газеты «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», «Голас Радзімы», куды пасылалі свае нататкі. На мінскім радыё нават канцэрт па заяўках львоўскіх беларусаў зладзілі…

У Львове напаўняўся я, курсант, творчай аўрай, якая сыходзіла ад такіх творцаў, як Уладзімір Лучук, Аксана Сенатовіч, Мікола Пятрэнка, Мікола Ільніцкі… Да сённяшняга дня ўдзячны жонцы Іларыёна Свянціцкага — Аніссі Мацвееўне — за дазвол дакранацца да кніжных скарбаў Нацыянальнага музея, набытых у Беларусі. Не астыў у мяне голас спадзеву дачкі Свянціцкага Веры Іларыёнаўны: вынесці наповерх з музейных скляпенняў святыя экспанаты так званага Беларускага аддзела пры Нацыянальным музеі, заснаваным 100 гадоў таму, каб і паслужыць дыфузіі роднасных культур, і сцвердзіць нашую глыбінную духоўную еднасць…

7 кастрычніка 1965 года нас, курсантаў, адпусцілі ў горад, каб мы вышуквалі цікавыя матэрыялы для старонак зборніка нарысаў. Я выкарыстаў дзень, каб пахадзіць па важных установах ды распытаць пра сувязі ўкраінцаў з беларусамі ў працяглыя часы. А напачатку мне хацелася даведацца больш падрабязна пра згаданую ў біяграфічных нататках Максіма Танка газету, якая як быццам выходзіла ў Львове ў 30-х гадах.

Адправіўся ў былы Асалінэум. Даведаўся, што на вуліцы Стэфаніка ў 1940 годзе была заснавана бібліятэка на базе закрытага Інстытута Асалінскіх. Нацыянальная бібліятэка Польшчы — Асалінэум — была заснавана графам Асалінскім у 1817 годзе. Пасля вайны трэцюю частку фондаў перавялі ў Вроцлаў — у падарунак польскай дзяржаве.

А ў старажытны львоўскі будынак трапляла пасля вайны ўсё: фонды таварыства «Просвіта», частка бібліятэкі і архіў Стаўрапігійскага інстытута, канфіскаваныя бібліятэкі манастыроў, прыватныя зборы… Мільёны адзінак захавання аказаліся на паліцах былога Асалінэума.



**Так выглядаў галоўны корпус Львоўскага ўніверсітэта, які наведвала беларуская пісьменніца. Злева ад уваходу ў будынак універсітэта змешчана шыльда ў гонар Алаізы Пашкевіч.** Фота С. Панізьніка. 1966 г.

**Паслаў у Львоў патрэбныя дакументы, пасля выкліку вясной 1963-га здаў іспыты — і ачмурэў ад фантастыкі горада**

Там, у навуковай бібліятэцы імя Васіля Стэфаніка НАН Украіны, вельмі цёпла сустрэлі курсанта-беларуса. Супрацоўнікі бібліяграфічнага аддзела выслухалі мяне ўважліва. Адразу ж узгадалі, што ў Львове вучылася класік беларускай літаратуры Цётка — Алаіза Пашкевіч.

Нагадалі мне, што ў Львове ў 30-х гадах выходзіў часопіс «Вікна», дзе пісалі і пра Беларусь. Так, выходзілі тут і газеты-аднаднёўкі, падрыхтаваныя ў Вільні. Аж да 1939 года цешылі беларускімі публікацыямі і польскамоўны часопіс «Sygnaly». Добразычлівыя львавяне паабяцалі дапамагчы беларусу ў выяўленні цікавых забароненых цэнзурай выданняў.

…Да сямі гадзін вечара 23 лістапада 1965 года займаўся ў Дзяржаўным архіве Львоўскай вобласці. Ён знаходзіцца на вуліцы Підвальнай. Побач будынак друкарні Стаўрапігійскага брацтва, Успенская царква.

У архіве працавала прафесіянал сваёй справы — Кацярына Паўлаўна Пыльо. Калі мы пазнаёміліся, распачалі лагодную гаворку, то жанчына адразу падзялілася цікавымі ўспамінамі. Узгадала, што ўступіла ў КПЗУ ў далёкім 1934 годзе. Разам з беларусамі сядзела ў польскіх турмах. Бачылася з нашым пісьменнікам Піліпам Пестраком. А не так даўно ў Брэсце сустрэлася з беларускай — сваёй сяброўкай па былой турэмнай камеры…

Нікому не перашкаджаючы, мы доўга гаварылі пра тое, як развіваюцца нашыя нацыянальныя культуры, якія праблемы з мовамі. Пазней я даведаўся, што мая знаёмка Кацярына Паўлаўна стала доктарам гістарычных навук, працавала ўніверсітэцкім прафесарам…

Дык што ж я ўбачыў у тых «Вікнах»? Напачатку ў бібліятэцы імя В. Стэфаніка параілі прагледзець праз фільмаскоп тэкст апавядання Міхася Чарота «Кірмаш», пераклад якога быў надрукаваны ў «Вікнах» (№ 10, 1930 г.). Аказваецца, гэты часопіс, які выходзіў пад эгідай Камінтэрна з лістапада 1927-га да верасня 1932 года, быў органам рэвалюцыйных пісьменнікаў Заходняй Украіны. Гэтыя творцы ў 1929-м аб'ядналіся ў групу «Горно».

Часопісам апекавалася МАРП — Міжнароднае аб'яднанне рэвалюцыйных пісьменнікаў (1925–1935). Напачатку рэдактарам быў Васіль Бабінскі. Пазней ён заахвоціўся перабрацца на ўсход, дзе і быў расстраляны энкавэдзістамі ў 1938 годзе. Яго замяніў Сцяпан Тудар.

Часопіс «Вікна» і перад жорсткім пераследам польскай цэнзуры прапагандаваў дасягненні не толькі ўкраінскай культуры. Сярод перакладаў з балгарскай, польскай, нямецкай моваў сустракаюцца і пераклады з беларускай. Пра апавяданне Міхася Чарота я ўжо згадваў. У чэрвеньскім нумары за 1928 год паведамлялася аб наведванні Харкава Янкам Купалам, Якубам Коласам, Цішкам Гартным, Міхасём Зарэцкім і Міхасём Чаротам.

У майскім нумары за 1930 год чытаю: «Беларуская прэса паведамляе, што ў Вільні арганізаваны першы Саюз беларускіх пісьменнікаў і журналістаў». А на другой старонцы гэтага нумара знаходжу такі тэкст: «Орган беларускіх пралетарскіх пісьменнікаў «Маладняк» змясціў доўгі інфармацыйны артыкул пра «Вікна» і «Горно», напісаны прафесарам П. Бузуком…»

Варта зазначыць, што Пятру Апанасавічу Бузуку — лінгвісту-славісту, педагогу, доктару філалагічных навук, паэту, празаіку, заставалася тварыць яшчэ восем гадоў. Як і В. Бабінскі, ён будзе расстраляны ў 1938 годзе.

Своеасаблівымі вокнамі былі нумары ўкраінскага часопіса, праз якія праламляліся промні літаратурнага жыцця і з Заходняй Беларусі, дзе цэнзура была асабліва жорсткай. Пра гэта сведчыць і «Ліст з Беларусі» (№ 5, 1931 г.), які прыслаў у рэдакцыю Янка Чабор: «…Пралетарскай беларускай прэсе запламбіраваны вусны. А сілы ў нас, хоць слабыя, але ёсць. І калі няма ў нас пакуль што магчымасці аднавіць сваю палітычную прэсу, то трэба нам арганізаваць свой літаратурны часопіс, які б згуртаваў ля сябе заходнебеларускіх пралетарскіх пісьменнікаў… І гэтым шляхам звяртаюся да ўсіх тых маладых і старэйшых беларускіх пісьменнікаў, якім дорага пралетарская справа: АДГУКНІЦЕСЯ!.. Даймо нашым рабочым і сялянам мастацкае, класава начыненае слова! Чакаю вашага голасу, таварышы! З пралетарскім прывітаннем — Янка Чабор».

Варта, думаю, узгадаць хоць крыху пра гэтага беларускага пралетарскага паэта. Янка Чабор — Іван Сцяпанавіч Патаповіч — нарадзіўся 11 ліпеня 1911 года ў вёсцы Рачканы пад Слуцкам. Выявіў сябе паэтам, публіцыстам, актыўным удзельнікам нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў Заходняй Беларусі. У 1931 годзе напісаў «Адкрыты ліст», урывак з якога і надрукаваў часопіс «Вікна». У 1934 годзе Іван Сцяпанавіч быў асуджаны польскімі ўладамі на пяць гадоў турмы. А навечна «запламбіраваны вусны» Янку Чабору былі ўжо ў савецкім ГУЛАГу…

Аб тым, што ўкраінскія «Вікна» траплялі ў Заходнюю Беларусь, сведчыць і такі факт: у вераснёўскім нумары 1931 года ў раздзеле «Старонка чытача» знаходзім ліст А. Грамака з Клецка. Тэкст набраны па-беларуску, у якім, між іншым, адзначалася: «Адсутнасць у Зах. Беларусі сял.-раб. прэсы зусім пазбаўляе вестак аб жыцці нашых братоў на ўсходзе. Гэта пустое места мог бы часткова запоўніць ваш часопіс, змяшчаючы артыкулы аб творчасці тых пралетарскіх пісьменнікаў…»

Рэдакцыя, на жаль, не змагла адгукнуцца на такую прапанову беларуса. Ужо ў 1931 годзе нумары «Вікон» выходзяць з мноствам пустых старонак, на якіх стаяла толькі адно слова: «Сканфіскавана». У 1932 годзе выдаваць часопіс стала яшчэ цяжэй. Апошнім выйшаў вераснёўскі нумар, ушчэнт парэзаны цэнзурай…

У жніўні 1967 года лейтэнант Панізьнік адправіўся служыць у мінскае Уручча, у тую самую дывізійную газету, рэдактар якой і даваў мне рэкамендацыю для паступлення на вучобу ў Львоў…

# Памаранчавая лямпа



Васыль КУЗАН

* * *

*Паэты сыходзяць часта,*
*Часцей, як не паэты.*
*Іх душы ляцяць у неба,*
*Іх рукі, як тыя крылы, —*
*Заўжды патрабуюць лёту.*

*Паэты згасаюць проста,*
*Як лісце ляціць з бярозы.*
*У свеце — халодная восень,*
*Апошняя, як самотнасць, —*
*Сястра і каханка паэта.*

*Паэты згараюць зранку*
*Без пляшкі, што на пахмелле,*
*Без мроі, якую патрэбна*
*Чакаць і шукаць яму зноўку,*
*Як чарговую дзеўку.*

*Паэты сціхаюць хутка —*
*Няма калі жыць ім у прозе,*
*Бо вечна — напаўдарозе,*
*Бо Муза стаіць на парозе*
*Са словам, было што першым.*

*Паэты знікаюць рана,*
*Іх трэба любіць учора,*
*Бо сёння й на вечныя векі*
*Ім недасяжныя будуць*
*Ні кветкі, ні пацалункі.*

*Паэты ўміраюць вечна,*
*Бо вечна шукаюць смерці,*
*Бо здаўна на Шляху Млечным*
*Паводзяць сябе бяспечна,*
*А быць сёння трэба іншым.*

*Паэты нясуць на плаху*
*Лебядзіныя спевы свае,*
*І восені ўжо не стае,*
*Каб радасці лёсу піць...*
*Паэты не ўмеюць жыць.*

* * *

*Калі ад верша адкінуць рыфму,*
*Што ж застанецца?..*
*На слова*
*Ўпадзе патройная насалода*
*І будзе гучаць, гарэць і грэць*
*Прысутнасць духа.*

*Калі ад верша адкінуць слова, —*
*Яго чуллівасць, памкненні, мроі*
*Рассыплюць зерне па ўсім сусвеце*
*І прарастуць усе да праўды,*
*Як віртуальныя радкі пакутаў.*

*Калі ад верша адкінуць голас,*
*Не зможа ён захаваць задуму.*
*Счаўрэе цалкам,*
*Апусціць крылы*
*І будзе пешкі ісці да храму*
*Паўз тых, хто край паланіць наш хоча, —*
*Каб засталася адна свабода.*

* * *

*Доўгая нітка дарогі*
*За голкай жаданняў бяжыць*
*І, нітуючы сэрца,*
*Знікае за мроямі згадак.*

*Кожны паварот долі —*
*Як серп у руцэ калгасніцы,*
*Якая б'е рабочага*
*Па молаце.*

*А кожны камень на той дарозе —*
*Як вузел на нітцы,*
*Што праходзіць скрозь грудзі.*
*І кожным вузлікам*
*Стукае*
*Па высакавольтных венах,*
*Аголеных рэбрах,*
*Павуцінні нерваў.*

*Нітка дарогі жыцця*
*Не рвецца ніколі.*
*Проста не ўсе вузельчыкі долі*
*Могуць прайсці*
*Скрозь сэрца,*
*Не заблытаўшыся ў ім.*

* * *

*Яна мяне запаланяла доўга —*
*Бы прорва, бездань, вір, вадаварот.*
*І сны, і думкі да яе сплывалі,*
*А цела не хацела. Ды ўсё ж*
*Ці можа цела зберагчы абдоймы?*
*Як у гадзінніку пясок,*
*Са сферы неба выцек я*
*У сферу быту,*
*Пусціў карэнне,*
*Прывязаў*
*Да сябе зямлю —*
*Планету пацалункаў і праблем.*
*Я стаў зямным, а ў сферы неба*
*Няма цяпер*
*Ніякіх «я».*

* * *

***Sine ira studio!***

*Доля пу́гай звініць,*
*Некаторым — у спіну страляе*
*Пла́стыкавымі кулямі,*
*Якія могуць выявіцца...*
*Залатымі.*

*Ды ці не ўсё адно:*
*Золата ці свінец*
*Пакуты твае пільнуюць*
*І ствараюць малітву.*

*Кожная малітва — каласок.*
*Складаючы іх адзін да аднаго,*
*Ты можаш звязаць цэлы сноп,*
*Які дасць табе магчымасць*
*Спадзявацца на хлеб душы...*

*І ты можаш, прынамсі,*
*Памерці спакойна.*

* * *

*Памаранчавая лямпа і стары гадзіннік.*
*Адбівае восем, прэзентуе пяць.*
*Крутнеш цыферблатам —*
*Гойдаецца стрэлка...*
*Гадзіны-сняжынкі — у бездань ляцяць.*
*Захочаш — і вечар, жадаеш — і ранак.*
*Дзіцячыя мары і песні ўначы...*
*Прывыкшы да свету, звыкаеш да здрады,*
*Чарсцвееш душою, мяняеш ключы.*
*Крутнеш цыферблатам...*
*Згадаеш, заплачаш,*
*Як плакаў у восем, як плакаў у пяць.*
*Гульня тая, можа, — бальзам*
*для дарослых,*
*А можа... Разбіць і зламаць яе! Хай,*
*Няхай не лякуе, няхай не трывожыць...*
*Навошта рухавасць? Настала пара?*
*Заплакаць ужо аніколі не зможаш,*
*Бо мроі заснулі й на сэрцы гара́.*
*Найлепш захаваць іх!*
*Далей іх ад лямпы.*
*Гады хай павольна ў прадонне ляцяць.*
*Дзіцячы гадзіннік хай спіць у шуфлядзе —*
*Паказвае восем, паказвае пяць.*

* * *

*Цянёты слоў засмоктваюць мяне.*
*І боўтаюся, каб не патануў я*
*У акіяне зместу ды імён.*
*Карэнне ног выцягваю з бетону —*
*У клей нябёсаў кры́ламі прыліп.*

*Я ў песні толькі літара-ўспалох.*
*А слоў бязмежжа, што мяне*
*прысвойваюць,*
*Бяруць між собку, ставяць у канец*
*Ці пачынаюць страсна біяграфіі*
*Свае з мяне. З майго сутва,*
*Што толькі літара,*
*Што толькі свет*
*І слова.*

*Я толькі літара ў цянётах слоў.*
*Я толькі літара адзіная — у слове.*

* * *

*Хачу цябе*
*Абдымаць рукамі жадання,*
*Багаццем зменлівага слова*
*Тварыць салодкае цяпло.*

*Я хачу цябе*
*Цалаваць вуснамі пажару,*
*Каб лёд твайго сэрца растаў,*
*Каб крыга не збіла мяне.*

*Я хачу цябе*
*Губляць пасекундна да смерці,*
*Бо вернасць і вечнасць — не сёстры,*
*Бо кажуць: каханне — палон.*

*Я хачу цябе*
*Выгнаць, быццам з клеткі птушку,*
*Бо знаю, што вернецца зноўку.*
*Тая клетка трымае мяне.*



* * *

*Твая ўсмешка пусціла карэнне*
*Ў маім сэрцы.*
*Яна вырасла і запоўніла грудзі і мары,*
*І сусвет думак.*
*Я нібы застаўся сабой, але*
*Маімі вуснамі гаворыш ты,*
*Маімі вачыма смяешся ты...*
*Я не магу ні заплакаць,*
*Ні схавацца ад сябе,*
*Бо на кожнай сцяжыне маёй душы*
*стаіш ты.*
*Карэнне тваёй усмешкі*
*Высмактала сокі майго «я»*
*І ператварыла мяне ў парожнюю пісанку,*
*У паветраны шарык, у мыльную бурбалку,*
*Што напоўнена чужым паветрам*
*Ды йграе чужымі колерамі,*
*Якая нібыта ёсць — і якое быццам няма.*
*Твая ўсмешка прарасла скрозь мяне.*
*Яна стала навагодняй ялінкаю,*
*Якую ўпрыгожваюць цацкі маіх надзей.*
*Яна стала вожыкам, які нясе*
*на сваіх голках*
*Яблыка майго сэрца.*

* * *

*Цяжка*
*Прызнацца ў каханні,*
*Калі напраўду кахаеш.*
*Калі радуешся пры сустрэчы,*
*Сумуеш у разлуцы,*
*Трымціш ад дотыку*
*І згараеш у пацалунку...*
*Ды яшчэ цяжэй*
*Сказаць жонцы*
*Праз дзесяць гадоў*
*Супольнага жыцця:*
*Я цябе кахаю.*
*Як тады...*

* * *

*А калі настане восень*
*І калі даспеюць слёзы,*
*Я, нібыта ліст кляновы,*
*Упаду табе да ног.*
*Аж заплача неба сінню,*
*На маю сівую голаў*
*Выльецца цвёрда і няспынна*
*Дзевяноста дзён дажджу.*
*Мокра, холадна, няпэўна*
*Пройдзеш ты і не пабачыш,*
*І на сэрца не наступіш —*
*Проста пройдзеш так — і ўсё.*
*Згасне золата прыроды...*
*Застануся я ляжаць,*
*Пакуль родныя мне людзі*
*Не наступяць на душу.*

* * *

*Два кавалачкі магніту,*
*Прагнучы еднасці,*
*З вялікім паскарэннем*
*Ляцяць насустрач*
*Адзін аднаму*
*І змятаюць з дарогі*
*Усё,*
*Што не дае ім*
*Аб'яднацца.*
*Мыз табой*
*Як тыя магніты,*
*Толькі сёння*
*Хтось вышні*
*Павярнуў нас*
*Адно да аднаго*
*Бакамі,*
*Якія*
*Адштурхоўваюцца.*

* * *

*Мой цень баіцца святла.*
*Цвікі промняў*
*Прагнуць прыбіць яго да зямлі.*
*А ён сціскаецца,*
*Скручваецца,*
*Пакрываецца халодным потам*
*Ці расою...*
*І маўчыць.*
*Ён трымціць і бялее,*
*Становіцца меншым*
*І меншым...*
*Аж пакуль не знікае зусім.*
*Мой цень баіцца святла —*
*Як і твая*
*Душа.*

* * *

*Спачатку я шукаў цябе.*
*Потым шукаў іншых.*
*Затым — зноўку цябе.*

*Цяпер я шукаю зацішку*
*ў тваіх абдымках,*
*Спакою ў тваіх вачах,*
*Упэўненасці ў тваіх марах.*

*Магчыма,*
*Я не знайшоў бы цябе,*
*Калі б не шукаў іншых,*
*І не знайшоў бы сябе,*
*Каб не ты.*

*Ты была Храмам, а я — сцежкаю,*
*Ты была гарой, а я — Магаметам,*
*Ты была Маткай,*
*А я — блудным сынам.*

*Ты была і будзеш*
*У маім сэрцы,*
*У маіх вершах,*
*Бо я і сёння*
*Шукаю цябе.*

**Пераклаў з украінскай А. А.**

# «Дзве душы» і беларускі дзэн

**Памятаю апошнія паказы спектакля Мікалая Пінігіна «Тутэйшыя» паводле твора Янкі Купалы. Кожная рэпліка і жэст здзіўлялі сваёй дакладнасцю, адгукаліся, разумеліся. Менавіта ў Купалаўскім тэатры ўпершыню прагучала для мяне тэма дваістасці беларускай душы...**




Івось, тая ж сцэна, той жа рэжысёр — прэм'ера спектакля «Дзве душы» паводле аднайменнай незавершанай аповесці Максіма Гарэцкага. Водгулле «Тутэйшых» немагчыма не заўважыць і ў новай працы.

«Дзве душы» Максіма Гарэцкага — твор глыбінны, шматпланавы, мудры, неадназначны, у які «далі нырца» ствральнікі яго сцэнічнай версіі, што рызыкнулі надаць філасофскай аповесці тэатральны фармат. Ідзя пастаноўкі, якую можна назваць эксперыментальнай, належыць рэжысёру Мікалаю Пінігіну. Да таго часу твор Гарэцкага ніколі не меў тэатральнага ўвасаблення.

Аўтарам інсцэніроўкі аповесці Максіму Клімковічу і Уладзіславу Ахроменку, відаць, было няпроста знайсці адпаведную форму для сцэнічнага прачытання. Жанр спектакля — «сцэны», куды ўвайшлі трыццаць два фрагменты-эпізоды твора, дапоўненыя ўрыўкамі з іншых тэкстаў беларускага класіка, у якіх можна было храналагічна і фрагментарна на тле карціны падзеяў беларускай гісторыі прасачыць жыццёвыя дамінанты галоўных герояў. «На фоне знакавых гістарычных падзеяў у часе пасля Першай сусветнай вайны пераплятаюцца лёсы розных людзей, якія апынуліся ў гушчы рэвалюцыйнай "куламесы" — падмененых у дзяцінстве панскага і сялянскага сыноў, палітычных прайдзісветаў, зhouseholds кананых дзяўчат, адраджэнцаў.

Дзве душы — гісторыя ўнутранай супярэчнасці беларускага інтэлігента Ігната Абдзіраловіча, які здольны рэфлексаваць над часам і сабой у складаным свеце, шукаць «яснасць у паглядах на спрадвечна няяснае», што непазбежна робіць яго староннім і безабаронным у сваім асяроддзі», — гаворыцца ў анатацыі.

Сцэна аформленая ў выглядзе старога фотаатэлье ў эпоху чорна-белай фатаграфіі. У часе дзеі таксама падаецца кіна- і фотахроніка з архіваў пляменніка аўтара — знанага акадэміка Радзіма Гарэцкага. Змена месца дзеяння адбываецца практычна імгненна, дзякуючы мабільным дэкарацыям Барыса Герлавана. Цешыць, што і беларускага гледача пачынаюць паступова частаваць і відэакантэнтам (Сяргей Тарасюк) — па прыкладзе нашых усходніх і заходніх суседзяў, якія ўжо даўно ствараюць неверагодныя эфекты дзякуючы новым тэхналогіям. У спектаклі ж Пінігіна асноўны эфект — гэта кроў, што залівае экран — чырвоным па белым. І ёй праліваецца неаднойчы...

Гісторыя вядзецца вакол падмены двух немаўлят (шляхецкага і сялянскага) маці-карміцелькай. Па іроніі лёсу сялянскі хлопчык Ігнась становіцца панам, атрымлівае адпаведнае выхаванне і адукацыю. А сыну заможных шляхцюкоў наканавана быць сялянскім хлопцам Васілём. На зломе часоў, у віры рэвалюцый ды войнаў гадуецца і сталее малады шляхціч Абдзіраловіч, які мае ў літаральным і ў метафізічным сэнсе дзве душы — і ўсё не абярэ (прынцыпова не хоча абіраць!), на чыім жа баку быць?

Для каго гэты спектакль? Мяркую, тыя, каго адносяць да «свядомых» у беларускім грамадстве, сыходзяць са спектаклю з адчуваннем уласнай расстралянасці (разам з героямі напрыканцы), бо перараслі ўжо выбар душы і даўно вызначыліся, а вынік з таго — зноў пошукі. Тыя ж, хто не чытаў «Дзве душы», будуць адчуваць няўцямнасць, расчараванасць ды нежаданне (не сто гадоў таму, не цяпер) далучыцца да «адраджэнцаў», паказаных у спектаклі — несамадастатковымі, кволымі, нервова-інфантыльнымі, якія, па сваёй сутнасці, нерашучыя, баязлівыя і папросту не самыя прыемныя людзі, хаця, магчыма, і робяць важную справу. Але, як кажуць, не важна, дзе, — важна, у якой кампаніі. І кампанія тут — зусім не заманлівая.

Магчыма, спектакль створаны для тых, хто яшчэ не стаміўся разважаць над зачараваным колам беларускай гісторыі і ментальнасці — мы зноў і зноў робім адныя і тыя ж памылкі. Мы, беларусы, не змяняемся. Для моладзі гэта дужа далёка, для старэйшых — задужа сумна: шукаць прычыны паразы беларускага адраджэння наноў і наноў.

На спектакль сходзіць адназначна варта. Хаця б таму, што: Гарэцкі, Пінігін, па-беларуску, знакавы твор. Каб чарговы раз пабачыць, як жа безвыходна і вынішчальна быць як па адзін, так і па іншы полюс (з гледзішча філосафа), і так не знайсці адказ — як усё ж варта рабіць, каб яго знайсці. З іншага боку, тут ёсць на што абурацца, а пры жаданні і крыўдзіцца. І РПЦ — за паказ святара, які прысабачвае каштоўны пацір. І камуністам — за вобраз Гаршчка. Па сутнасці, усе героі пададзеныя крыху карыктурна. Бадай, за выключэннем Маланкі (Алены Сідаравай), якая адчуваецца непадробна трагічнай. І кожны разумее, што не можа спачуваць «свайму».

З іншага боку, калі паспрабаваць адысці ад адназначнага ўспрыняцця (бачання з-за нашага боку барыкадаў і плоту) і чаканняў (любыя зачараванні вядуць да расчараванняў), то можна ўбачыць, што герой Ігнася Абдзіраловіча (Раман Падаляка) — будыст, ён, як памятаем яшчэ з філасофскага эсэ «Адвечным шляхам» — за «ляючасць формаў», быццё між тымі і гэтымі, між Захадам і Усходам, праваслаўем і каталіцызмам, ён маўклівы сузіральнік, чакальнік, які не столькі змагаецца з адраджэнцамі, колькі папросту ім крыху болей спачувае. Ён рэфлексуе, аглядае, не абірае нікога, бо ўсе яму — чужыя, і ён нікому дарэшты не свой, не аднадумец.







**З тэатра выходзіш з пачуццём не тое што раздвоеным, а разгубленым: усе мы падмененыя, не з той калыскі, з дзвюх калысак**

Абдзіраловіч у творы — даследнік анатоміі беларускай душы. Відаць, вельмі няпроста іграць пабочнага глядзельніка і ціхага думальніка вонкі, таму праўдзівацца персанаж перадусім унутры выканаўцам Падалякам, ён іграе нюансы, якія не заўжды магчыма заўважыць на тле апошняй дзеі. У Гарэцкага — гіне Гаршчок. У Пінігіна — па добрай беларускай традыцыі — усе. Хаця тут акурат можна было знішчыць толькі аднаго — таго, да каго суперажыванне. Такім фіналам рэжысёр і раўняе ўсіх. І выказвае свае сімпатыі — каму даць шанец: нікому. А калі ўдумацца: пакуль мы будзем паўтараць нашыя памылкі — у нас не з'явіцца шанец змяніць будучыню, і беларуская нацыянальная ідэя будзе наноў і наноў паўтарацца, трапляючы ў млын беларускага Вечнага Вяртання, як сто гадоў да нас, так і сто гадоў пасля.

Няўцямнасць — як беларуская адметнасць, а не як адсутнасць адметнасці. Беларускі дзэн — як шлях да разумення. Так можна ахарактарызаваць формулу, якая прыйшла па праглядзе спектакля.

Кавалкі твора змацаваныя швамі-фатаграфаваннямі. Няма драматургіі эмоцый. Ёсць яскравы запамінальны фінал. І ёсць эмацыйныя сполахі, раскіданыя па палатне п'есы — і ў тым вялікая заслуга акцёраў. Зорка спектакля Алена Сідарава. Кожная сцэна з ёй прабірае да дрыжыкаў. Выдатныя Аляксандр Падабед і Георгій Маляўскі. Алесь Малчанаў у ролі Рускага Салдата і перадусім у масавых сцэнах запомніўся гледачам ці то імправізаванасцю, ці то падкрэслена нечаканай іранічнай вобразнасцю (што крыху адсылае да найлепшых часоў Віктара Манаева і зноў «Тутэйшых», нават сваёй лексікай і маўленнем). Падалося, што ўнутры пінігінскай пастаноўкі ён грае свой асобны ўнутраны, прыдуманы ім спектакль. З ролю гнюса-Гарэшкі дасканала справіўся Ігар Сігоў.

Адной з наймацнейшых сцэнаў магла б стаць перамежавальная малітва двух хлопчыкаў — Васіля і Ігнася, адзін з якіх праваслаўны, а другі — каталік. Шкада, што тэкст малітвы «Ойча наш» і сама размова зусім не развучаныя з дзецьмі і гучаць як «чарнавік», як і сама непрапрацаваная бойка між імі апасля. Пытанне гэтае не да дзяцей, а да пастаноўшчыка. Бо так і накатвае аддаца моманту, але не атрымліваецца праз выпаданне з мастацкай прасторы праз недапрацоўкі. Шкада, бо звычайна дзеці на сцэне — гэта збольшага выйгрышна.

Адметна, што ў спектаклі толькі тры жаночыя ролі. Між тым інтымнасць і эротыка ў творы мінімізаваная. Толькі сцэна з самалашчаннем Ірыны (Марта Голубева) пры люстэрку зацягнутая і не ўтрымлівае відавочных неабходных метафараў. Увогуле, не зусім зразумела, навошта гэты эпізод...

Лірычны герой Гарэцкага — апавядальнік, Пісьменнік, у робе (Аляксандр Паўлаў), магчыма, крыху і падобны да аўтара, але задужа ружовашчокі і «здаровы» для вязня НКВД, ды і прамаўляе крыху дзіўна — па-ментарску.

...Зала была поўная, аншлаг. Публіка стоячы пляскала, але, на жаль, гэта не ёсць паказнік поспеху для нашых тэатраў. Бо практычна ўсе спектаклі яна сустракае менавіта так.

Самае цікавае, што ніхто з герояў спектакля не выклікаў суперажывання (хіба апроч гераіні Алены Сідаравай), нават сімпатыі (хіба што фрагментарна герой Алеся Малчанава), і галоўнае — ідэнтыфікацыі з ім.

З тэатра выходзіш з пачуццём не тое што раздвоеным, а разгубленым: усе мы падмененыя, не з той калыскі, з дзвюх калысак. Мо ў прыняцці абедзвюх (і вострага відэльца гербавай шляхты, і драўлянай лыжкі простага селяніна) — і ёсць адкрыццё. Але хто яго зробіць?

**Валярына Кустава, «Белсат»**

# Не стала Фазіля Іскандэра

**Класік савецкай літаратуры другой паловы XX стагоддзя Фазіль Іскандэр памёр у Маскве на 88-м годзе жыцця пасля працяглай хваробы.**



Іскандэр нарадзіўся 6 сакавіка 1929 года ў горадзе Сухумі. У 1954 годзе скончыў Літаратурны інстытут імя Горкага. Першая кніга яго вершаў «Горные сцежкі» выйшла ў 1957 годзе, у канцы 1950-х гадоў ён пачаў друкавацца ў часопісе «Юность».

Знакамітым Ф. Іскандэра зрабіла сатырычная аповесць «Созвездие Козлотура», апублікаваная ў часопісе «Новый мир» у 1966 годзе. У 1989-м па аповесці быў зняты аднайменны фільм.

Асаблівае месца ў творчасці Ф.Іскандэра займае цыкл твораў пад агульнай назвай «Сандро из Чегема».

Фазіль Іскандэр быў узнагароджаны ордэнамі «За заслугі перад Айчынай» II, III, IV ступеняў, з'яўляўся лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР і Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі, прэміі «Трыумф».

# 6 схем сусветнай літаратуры

**Навукоўцы з "Computational Story Lab" універсітэта Вермонта высветлілі, што ўсе літаратурныя творы пабудаваны на «чаргаванні палюсоў эмацыйнай афарбоўкі».**

У сваім даследаванні яны вылучылі шэсць базавых крывых, якія ілюструюць папулярныя паслядоўнасці «ўзлётаў» і «падзенняў».

У аснову свайго аналізу навукоўцы паклалі наступную ідэю: кожнае слова можна ахарактарызаваць станоўчай ці адмоўнай эмацыйнай думкай. Яны выкарыстоўвалі алгарытм "Hedonometer", у якім гэтая эмацыйная нагрузка выяўленая ў лікавым значэнні. Алгарытм дзеліць тэкст на ўрыўкі з 10000 слоў і вылічвае сярэднюю эмацыйную валентнасць. Такім чынам яны прааналізавалі 1737 тэкстаў з электроннай бібліятэкі праекта «Гутэнберг».

«Мы знайшлі набор з шасці асноўных крывых, на аснове якіх будуюцца больш складаныя наратывы», — заяўляюць навукоўцы. Вядома, многія творы маюць адметную пабудову, але ў цэлым асноўныя эмацыйныя крывыя выглядаюць так:

«З гразі ў князі» (узлёт): «Аліса ў краіне цудаў» Льюіса Кэрала;

«Трагедыя» (падзенне): «Рамэа і Джульета» Уільяма Шэкспіра;

«Чалавек у яме» (падзенне-ўзлёт): «Чараўнік краіны Оз» Фрэнка Баума;

«Ікар» (узлёт-падзенне): «Рымскі Экспрэс» Артура Грыфітса;

«Папялушка» (узлёт-падзенне-ўзлёт): «Калядная песня» Чарльза Дыкенса;

«Эдып» (падзенне-ўзлёт-падзенне): «Герой нашага часу» Міхаіла Лермантава.

Напрыклад, эмацыйныя крывыя ўсіх кніг пра Гары Потэра будуюцца па аднолькавай схеме «з гразі ў князі» («забіць дракона»), хоць эмацыйная афарбоўка змяняецца ад сцэны да сцэны.

Назвы крывых аўтары ўзялі з папярэдніх даследаванняў, прысвечаных асноўным сюжэтам сусветнай літаратуры. Многія літаратуразнаўцы выказваліся аб трох, сямі, васьмі і трыццаці дзвюх базавых сюжэтных схемах, якім рапавядаюць усе гісторыі, якія існуюць. Курт Ванегут, напрыклад, вылучыў восем сюжэтаў. Часткова Ванегут прадставіў сваю тэорыю ў кнізе «Чалавек без краіны», дадаўшы туды некалькі графікаў, на якіх вертыкальная лінія азначала рух героя ад «падзення» да «ўзлёту», а гарызантальная — ад пачатку да канца гісторыі. Пры гэтым навукоўцы адзначаюць, што эмацыйныя дугі могуць не супадаць з кампазіцыяй і сюжэтам твора. «Эмацыйная дуга аповеду не дае нам прамой інфармацыі пра сюжэт або чаканае значэнне гісторыі, а хутчэй выступае як частка апісання», — сцвярджаюць яны.

Паводле аўтараў, вынікі даследавання могуць падацца цікавымі не толькі літаратуразнаўцам, але і распрацоўнікам праграм для напісання тэкстаў. Напрыклад, калі меркаваць па колькасці загрузак на сайце «Бібліятэкі Гутэнберга», то чытачам больш падабаюцца гісторыі, у якіх шматкроць змяняецца эмацыйны полюс і заканчваецца «падзеннем».

# Пісьменнік Іван Вышынскі далучаны да ліку святых

**Іван Вышынскі — заходнерускі праваслаўны манах, уплывовы духоўны пісьменнік, публіцыст і палеміст.**



Ён нарадзіўся ў сярэдзіне XVI ст. у мястэчку Судовая Вішня на Львоўшчыне (у творах называў сябе «Ян мніх з Вішні», «вандроўнік прапаноў Вышэнскі», «З Вішні»). Дакладная дата яго нараджэння невядомая, аднак даследчыкі называюць перыяд паміж 1533–1550 гадамі. Іван паходзіў з мясцовага шляхецкага роду Вышынскіх.

Украінская Праваслаўная Царква 20 ліпеня на пасяджэнні Святога Сінода прыняла рашэнне аб далучэнні да ліку святых вядомага ўкраінскага пісьменніка-палеміста, афонскага падзвіжніка.

«Вялебны Ян (Вышынскі) 40 гадоў падвізаўся на Афоне і вядомы ўсім нам па школьнай праграме як выдатны пісьменнік-апалагет. Такія пісьменнікі, як Іван Франко, Панцеляймон Куліш, вельмі высока шанавалі яго працы і лічылі яго адным з найвялікшых пісьменнікаў-апалагетаў XVII стагоддзя. Захавалася 16 пасланняў святога Іаана (Вышынскага), якія ён пісаў з Афона, падтрымліваючы сваіх праваслаўных суайчыннікаў», — распавёў кіраўнік справамі УПЦ мітрапаліт Антоній.

Таксама мітрапаліт Антоній адзначыў, што Іван Вышынскі жыў у цяжкі перыяд для праваслаўных, якія ў той час знаходзіліся пад уладай каталіцкай Рэчы Паспалітай.

З твораў Івана Вышынскага вядомыя «Пасланне да князя Астрожскага і ўсіх праваслаўных», «Пасланне да апошніх адступнікаў ад праваслаўя Кірыла, Іпацця і Мячэўніка» і інш. Дакладная дата смерці пісьменніка-палеміста не вядомая, але гісторыкі лічаць, што ён памёр паміж 1620–1630 гадамі.

# Сусветная прэмія фэнтэзі

**Аўтар серыі раманаў «Вядзьмак» фантаст Анджэй Сапкоўскі атрымаў Сусветную прэмію фэнтэзі (World Fantasy Award) за "асаблівыя заслугі перад жанрам".**



Пісьменніка ўзнагародзяць на Сусветнай канвенцыі фэнтэзі ў Агаё напрыканцы кастрычніка.

Акрамя А. Сапкоўскага, гэтую ўзнагароду атрымаў укладальнік анталогій Дэвід Хартвел.

А. Сапкоўскі стаў першым палякам, які атрымаў гэтую прэстыжную прэмію.

Сусветная прэмія фэнтэзі — штогадовая міжнародная ўзнагарода, заснаваная ў 1975 годзе. Лічыцца адной з самых прэстыжных прэмій у галіне фантастыкі і фэнтэзі.

# Аповесць Садама Хусэйна

**У Вялікабрытаніі выйдзе аповесць, напісаная зрынутым прэзідэнтам Ірака Садамам Хусэйнам.**



Выдавецтва «Hesperus», якое рыхтуе кнігу, апісвае яе як сумесь «Гульні тронаў» і «Картачнага доміка». Гэтая аповесць ужо выдавалася на іншых мовах, у прыватнасці, японскай і турэцкай, пад назвамі «Танец д'ябла» і «Праклятыя, прэч!». Яна апісвае яшчэ народ, які жыў каля Еўфрата 1,5 тысячы гадоў таму і быў вымушаны змагацца з іншаземнымі захопнікамі. Англійскі пераклад пакуль не мае назвы, але кнігу плануецца выдаць у снежні 2016 года — у дзясятую гадавіну пакарання смерцю С. Хусэйна.

С. Хусэйна павесілі ў Багдадзе раніцай 30 снежня 2006 года. Раней іракскі суд прысудзіў яго да смяротнага пакарання за дачыненне да расправы над 148 жыхарамі вёскі эд-Дуджэйль у 1982 годзе, дзе на яго быў здзейснены замах. Назіральнікі і праваабаронцы назвалі суд на С. Хусэйнам палітызаваным, а яго пакаранне — відавочным актам помсты. Пакаранне здымалі на відэа, нацыянальнае іракскае тэлебачанне транслявала гэты запіс па ўсіх тэлеканалах.

# Пра «Папялушку» братоў Грым

**Даследчык творчасці братоў Грым немец Гольгер Эрхардт заявіў, што выявіў асобу апавядальніцы казак «Папялушка» і «Залатая птушка».**

Паводле высноў даследчыка, пісьменнікам гэтыя гісторыі распавяла Элізабэт Шэленберг, небагатая мяшчанка, якая памерла бяздзетнай у галечы ў 1814 годзе ў марбургскім доме састарэлых.

Амаль паўтара стагоддзі для даследчыкаў заставалася загадкай, адкуль браты Грым узялі ідэю для казкі «Папялушка». «Гэтая жанчына была вуснай крыніцай. Менавіта яна перадала ім гэты сюжэт», — сцвярджае Г. Эрхардт. Паводле яго слоў, у той час, на пачатку дзевятнаццатага стагоддзя, казкі лічыліся чымсьці нявартым свецкага чалавека, «бабскімі плёткамі». Шэленберг, відавочна, баялася асуджэння за свае апавяданні, таму Вільгельм Грым хітрасцю даведаўся аб казцы — паслаў да старой жанчыны сваіх дзяцей...

Даследчык таксама адзначыў, што браты-літаратары ўвялі ў сваёй апрацоўцы гісторыі французскія элементы, а ў казцы апісалі свет па ўзорах тагачаснай Франції да Італіі. Саму ж Элізабэт Шэленберг Гольгер Эрхардт назваў «проста ўзорнай казачніцай».

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Bookseller, 112.ua, Gildia.pl, Apparat, MediaSapiens, The Guardian, Deutsche Welle, The Telegraph, Associated Press, БелТА і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

Алег НОВІКАЎ

**Беспрэцэдэнтны фармат цяперашняй прэзідэнцкай кампаніі ў Злучаных Штатах праяўляецца таксама ў тым, што барацьба кандыдатаў будуецца па формуле: «Сам дурань».**



Фота www.paidsurveyupdate.com

# Белы дом ці дом вар'ятаў?

Калі верыць апошняму выпуску часопіса «Economist», нядаўна на сайце Амерыканскай Асацыяцыі псіхолагаў з'явіўся тэкст — заклік да сяброў не займацца публічным высвятленнем псіхічнага здароўя Дональда Трампа, Хілары Клінтан і іншых прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка Белага Дома. Кіраўніцтва Асацыяцыі лічыць, што гэта супярэчыць этычнаму кодэксу медыка. Тэкст не выпадковы, бо Злучаныя Штаты літаральна ахапіла мода на дыягназы вядучым палітыкам.

У паводзінах Дональда Трампа шмат хто бачыць сімптомы агрэсіўнага нарцысізму. Ацэнка грунтуецца на тым, што, маўляў, Дональду характэрныя дзіўная манія прыцягваць да сябе ўвагу, дэманстраваць завышаную самаацэнку, выбудоўваць эгацэнтрычную схему адносінаў з людзьмі. З гэтай оперы, напрыклад, яго нядаўняя заява: «Я значна больш сціплы, чым вы б зразумелі».

Ужо цяпер хапае ахвочых выклікаць да Трампа санітараў. Карэн Бас (дарэчы, рэспубліканка), дэпутат каліфарнійскага кангрэсу, запусціла інтэрнэт-петыцыю з заклікам правесці публічную дыягностыку Дональда Трампа наконт ягонага псіхічнага здароўя. Як гаворыцца ў тэксце яе звароту, высветліць стан здароўя Дональда — «абавязак кожнага амерыканскага патрыёта». Самае смешнае, што сам прэтэндэнт у кіраўнікі Злучаных Штатаў на фоне апісанага скандалу не так даўно заявіў: «Галоўная праблема ЗША — псіхічна хворыя людзі».

Цікава, што нават некаторыя прыхільнікі Трампа прызнаюць наяўнасць пэўных комплексаў у свайго куміра. Аднак яны намагаюцца растлумачыць гэта як праяву рэспубліканскіх кансерватыўных каштоўнасцяў, якія ўласцівыя Дональду, — накшталт індывідуалізму. Аднак значна часцей аматары Трампа ў такім выпадку намагаюцца пераведці стрэлкі на асобу Хілары Клінтан. У апаненткі Дональда таксама дыягназавалі цэлы букет псіхічных адхіленняў.

Так, у інтэрв'ю тэлеканалу MSNBC сябра выбарчага штабу Трампа Катрын Пірсан заявіла, што Клінтан пакутуе на дэфекты мовы. Трампаманамі звярталецца ўвага на тое, што ў лідара дэмакратаў калісьці было страсенне мозгу пасля падзення.

На думку такіх, як Пірсан, вельмі падазрона, што Клінтан рабіла незапланаваныя перапынкі падчас перадвыбарчай кампаніі. Таксама ім цікава, чаму ў гэтым годзе Хілары не дала ніводнай прэс-канферэнцыі. У рэспубліканскіх СМІ актыўна пашыраюцца здымкі і ролікі, на якіх місіс Клінтан засынае падчас публічных мерапрыемстваў або нечакана для ўсіх тэмпераментна круціць галавой.

Натуральна, у лагеры Клінтан падобныя выпады адмятаюць. Асабісты лекар Хілары Ліза Бордак неаднаразова заяўляла пра тое, што здароўе экс-дзяржсакратара ў парадку. «У Клінтан выдатнае здароўе, якое дазваляе ёй быць прэзідэнтам ЗША», — заявіла яна днямі ў інтэрв'ю для выдання «Hill».

Абвінавачанні амерыканскіх палітыкаў, і ў тым ліку кандыдатаў у прэзідэнты, наконт таго, што яны маюць псіхічныя праблемы, здараюцца рэгулярна. Для чаго, дарэчы, ёсць усе падставы. Напрыклад, падчас апошніх партыйных праймерыз адзін з прэтэндэнтаў падзяліўся думкай наконт таго, што ягоны паход у Белы дом адпавядае планам Бога. Другі растлумачыў неабходнасць права на валоданне зброяй магчымай пагрозай атакі на яго квартал з боку бабаевікоў «Ісламскай дзяржавы».

Не менш арыгінальныя асобы намагаліся стаць прэзідэнтамі Злучаных Штатаў і раней. У 2000 годзе ад Партыі Зялёных спрабаваў атрымаць намінацыю славуты рок-музыкант Джэла Біяфра, былы лідар панк-гурта «Dead Kennedys». Сярод іншага Джэла абяцаў надаць выбарчыя правы кожнаму амерыканцу, якому споўнілася пяць гадоў. Або як вам Джон Хагелін — кандыдат ад Партыі Прыроды ў 1976 годзе? Ён прапанаваў суперсродак для вырашэння «халоднай вайны», абяцаючы пасля перамогі сабраць усіх сусветных лідараў у адным пакоі і правесці з імі сеанс медытацыі. Паводле Джона, аднаго сеанса было б дастаткова, каб зняць міжнародную напружанасць на планеце на 25 гадоў наперад.

Некаторых прэзідэнтаў, якія пасля абрання годна выканалі свае абавязкі, на этапе выбарчай кампаніі таксама запісвалі ў вар'яты. Вар'ятамі, напрыклад, называлі калісьці Авраама Лінкальна і Рональда Рэйгана. У гэтым плане да ярлыка «дурань» на адрас Хілары і Дональда

**Нават прыхільнікі Трампа прызнаюць наяўнасць пэўных комплексаў у свайго куміра. Аднак яны тлумачаць гэта як праяву кансерватыўных каштоўнасцяў**

трэба ставіцца, хутчэй, асцярожна. Такія інсінуацыі, дарэчы, ахвотна тыражуюць медыя краін, лідары якіх сімпатызуюць аднаму з кандыдатаў. Так, у расійскім афіцыёзе вельмі папулярная тэма хвораў Клінтан, якая лічыцца прыхільнікам антыпуцінскага курсу.

Напрыканцы нельга не агучыць канспіралагічную тэорыю, папулярную сярод часткі палітолагаў. На іх думку, абодва кандыдаты сапраўды маюць праблемы з галавой, наконт чаго ёсць адпаведныя медычныя даведкі. Прынамсі, такая даведка ёсць наконт Клінтан, якую хавае нейкі палітычны клан. Калі Хілары пераможа, гэты кампрамат будзе зліты ў прэсу. Тады, паводле закону, прэзідэнт будзе вымушаны падаць у адстаўку, а яго месца будзе павінен заняць віцэ-прэзідэнт, звязаны з гэтым кланам.

Ёсць тэорыя і пра тое, што скандал наконт псіхічных праблемаў у кандыдатаў справакавалі буйныя фармацэўтычныя кампаніі. Сапраўды, калі ўсе толькі і кажуць пра праблемы палітыкаў, міжволі хочацца пайсці ў аптэку.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У выпадку рэалізацыі дактрыны знешнепалітычнага нейтралітэту, у Вашынгтоне гатовыя прыняць Беларусь такой, якая яна ёсць, і не патрабаваць ад беларускага кіраўніцтва неадкладнай «дэмакратызацыі» (чытай — змены рэжыму). Гэта значыць, пытанне дэмантажу грамадска-палітычнага ладу Рэспублікі Беларусь здымаецца з парадку дня, але толькі ў абмен на нейтралітэт.

**RuBaltic.ru (Расія)**

Гэта (Беларусь) тое, якім мог стаць СССР. Гэта постсавецкі Савецкі Саюз. Беларусь застаецца савецкай не толькі з-за некранутай сімвалічнай спадчыны накшталт помнікаў камуністычным правадырам і захавання зорак, сярпоў і молатаў па ўсёй краіне. Больш глыбокія пласты: функцыянаванне ідэалагічнай вертыкалі, неканкурэнтная апартыйная сістэма (замест КПСС — Адміністрацыя прэзідэнта), адсутнасць канкурэнтных выбараў, эканамічная мадэль з шырокім уплывам дзяржавы, выбарная вузкая прыватызацыя, залежнасць кар'ерных траекторый ад «правільнасці» ідэалагічных поглядаў — усё гэта робіць краіну інкарнацыяй СССР 2.0.

**«Коммерсантъ» (Расія)**

Кітай імкнецца дасягнуць Еўропы і быць там — што называецца, прысутнічаць не толькі эканамічна, але і культурна, і фінансава. У гэтым сэнсе Беларусь як прастора, дзе Кітай ужо прысутнічае, з'яўляецца нейкімі варотамі ў Еўропу. З гэтага пункту гледжання можна проста параўнаць, як сябе ўспрымае Беларусь з пункту гледжання адносінаў Расіі з Еўропай. Беларусь сёння прэтэндуе быць нейкім пасярэднікам у адносінах паміж Расіяй і Еўропай. (...) Прычым, зразумелым для беларусаў чынам. Урэшце, у Беларусі яшчэ памятаюць вялікі слоган: «Рускі з кітайцам — браты навек».

**ARU (Эстонія)**

Пуск двух энергаблокаў Беларускай АЭС можа затрымацца цяпер на год. Так што для Расіі, якая будуе станцыю на ёю ж прадастаўлены Мінску валютны крэдыт, і для самой Беларусі гэты праект стане яшчэ больш дарагім, чым ад пачатку чакалася. Але самае важнае — страшнае адчуванне дэжавю. Бо тры дзесяцігоддзі таму Беларусь спасцігла жахлівая бяда з-за таго, што на Чарнобыльскай АЭС менавіта ў ноч з суботы на нядзелю таксама вырашылі патрэніравацца.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Нягледзячы на дэклараванне беларускім кіраўніцтвам спрыяльных умоў для любых інвестараў, на самай справе сітуацыя ў рэспубліцы выглядае інакш, а многіх і зусім адпужваюць непрадказальнасць мясцовых уладаў і існуючае тут заканадаўства. Пра гэта сёння кажуць абсалютна ўсе: як незалежныя эксперты, так і мужныя людзі ў органах дзяржкіравання. Ні для каго не сакрэт, што інвестыцыі прыходзяць туды, дзе ёсць стабільная эканоміка і асяроддзе для зараблення грошай. Любы інвестар павінен быць упэўнены, што праз год, два ці пяць гадоў ён не страціць свае грошы, а яго інвестыцыі не будуць нацыяналізаваныя або рэквізаваныя дзяржавай, што мае месца ў Беларусі. Кіраўніцтва краіны ўжо не раз забірала ў інвестараў іх праекты на падставе «невыканання ўзятых на сябе абавязацельстваў».

**«Ритмы Евразии» (Расія)**

Адсутнасць украінскага амбасадара ў Беларусі таксама прадказвае праблемы. Там (у Беларусі) з'явіліся сур'ёзныя праблемы для Украіны. Пры тым, што Лукашэнка заявіў — з беларускай зямлі вайны супраць Украіны не будзе.

**«Газета» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗІМБАБВЭ: In dollar we trust!

У Харарэ — сталіцы Зімбабвэ, — прайшла незвычайная дэманстрацыя. Яе ўдзельнікі (каля ста чалавек), выступілі супраць планаў нацыянальнага банка краіны аднавіць друкаванне мясцовай валюты. Такую ідэю агучыў 92-гадовы прэзідэнт Роберт Мугабэ, які кіруе кранай з пачатку 80-х гадоў. Мясцовы долар не друкуецца аж з 2009 года, пасля таго, як стаў ахвярай гіперінфляцыі, якая даходзіла да 500.000 працэнтаў на год. З таго часу разлікі ідуць у замежнай валюце, перш за ўсё ў амерыканскіх доларах. І вось цяпер зімбабвійскі долар можа вярнуцца, каб, па словах Мугабэ, канчаткова перамагчы валютных спекулянтаў. Простыя людзі ў сваю чаргу думаюць, што вяртанне лакальнай валюты — нейкі прыём чыноўнікаў Мугабэ з мэтай выцягнуць у людзей валюту. Цікава, што нешматлікая дэманстрацыя мела брутальны фінал. Паліцыя разагнала яе з выкарыстаннем газу і дубінак. Эксперты звязваюць такую жорсткасць паліцыі з вельмі напружанай сітуацыяй у краіне.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Нацыянальная матэматыка

У адным з ліцэяў пад Варшавай з гэтага года будзе працаваць клас з нацыянальна-матэматычным ухілам. Курс «Нацыянальная матэматыка», праўда, не арыгінальны. На самай справе ў яго межах вучні будуць праходзіць курс матэматыкі з паралельным вывучэннем гісторыі нацыянальнага руху і вайсковай падрыхтоўкі. На думку дырэктара ліцэю, польскай моладзі трэба вучыцца вайсковай справе і выхоўваць сабе на кульце так званых «праклятых жаўнераў» (антысавецкія вайсковыя фармаванні ў пасляваеннай Польшчы). Навіна пра стварэнне новага курсу выклікала адмоўную рэакцыю сярод леваліберальнай часткі палякаў. У інтэрнэце ўжо з'явілася адпаведная петыцыя пратэсту. На думку крытыкаў нацыянальнай матэматыкі, падобныя курсы могуць скончыцца тым, што ў Польшчы паўторыцца венгерская гісторыя. У гэтым годзе Венгрыя святкуе 60-ю гадавіну славутага антысавецкага паўстання 1956 года. Аднак ксенафобскія і нацыяналістычныя выказванні мясцовага прэзідэнта Орбана сталі прычынай таго, што юбілей фактычна праігнараваны Брусэлем і Вашынгтонам.

**Паводле польскай прэсы**

### УКРАІНА. Мове — міжнародны статус!

Украінская мова павінна атрымаць статус мовы міжнародных зносін. Пра гэта на Сусветным форуме ўкраінцаў, які прайшоў на мінулым тыдні ў Кіеве, заявіла міністр адукацыі і навукі Лілія Грыневіч. «Я ўпэўнена, што ўкраінскі мова павінна мець статус мовы міжнародных стасункаў», — сказала яна. Міністр паведаміла, што ўжо распрацаваны міжнародны стандарт па ўкраінскай мове, а таксама вядзецца праца па ўкараненні міжнародна прызнанага сертыфікацыйнага іспыту па ўкраінскай мове як замежнай, што дазволіць замежнікам вывучаць украінскую як другую замежную мову. Заявы Грыневіч былі ўспрынятыя ў грамадстве вельмі асцярожна, перш за ўсё з-за таго, што ўкраінская мова нават ва Украіне не дамінуе ў СМІ і культурным жыцці. Пакуль гэта пытанне не вырашана, руская мова будзе цікавай для замежнікаў. Тым не менш, у агульных рысах прапанову Грыневіч падтрымліваюць. Некаторыя лічаць, што канкрэтным крокам па рэалізацыі яе плану можа быць распрацоўка і прапаганда ў свеце ўкраінскага варыянту лацінкі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. Путчысты — новыя дзекабрысты?

Успаміны пра няўдалую спробу дзяржаўнага перавароту 19 жніўня 1991-га выявілі татальную любоў сучасных расіян да путчыстаў. Нават на ліберальных радыёстанцыях, паводле апытанняў слухачоў, хапае тых, хто сімпатызуе Янаеву, Кручкову і іншым арганізатарам той акцыі. Безумоўна, асноўны матыў сімпатызантаў — настальгія па СССР. Адначасова высоўваюцца ідэі рэабілітацыі ГКЧП. Прапануецца перайменаваць у гонар путчыстаў вуліцы, тлумачыць у падручніках тое, што сябрамі Камітэту рухалі высакародныя ідэі ратавання



краіны і г.д. Аднак далей за ўсё пайшлі на сайтах прыхільнікаў Эдуарда Лімонава. На думку нацыянал-бальшавікоў, учынак путчыстаў нагадвае выступ дзекабрыстаў. Аднак, на думку экспертаў, такія ініцыятывы не будуць мець працягу нават з улікам цяперашняй патрыятычнай істэрыі ў Расіі. Справа ў тым, што ўзняцца так высока Уладзімір Пуцін змог выключна дзякуючы людзям, якія прыйшлі да ўлады пасля правалу ГКЧП.

**Паводле расійскай прэсы**

# Як святкуюць незалежнасць

Алег НОВІКАЎ



**Гэты тыдзень у нашым рэгіёне вельмі незвычайны і знакавы — шэраг краін СНД адзначае 25-ю гадавіну абвяшчэння незалежнасці.**

Напэўна, ніколі ў гісторыі за адзін тыдзень на палітычнай мапе свету не з'яўлялася столькі незалежных дзяржаў, як пасля правалу путчу 19 жніўня 1991 года. 24 жніўня Акт абвяшчэння незалежнасці прыняла Украіна, 25-га — Беларусь надала Дэкларацыі аб суверэнітэце канстытуцыйны статус, 27-га — Дэкларацыю незалежнасці прыняла Малдова, 30-га Азербайджан прыняў Дэкларацыю аб аднаўленні незалежнасці, 31-га — Узбекістан абвясціў сябе суверэннай дзяржавай, а Кіргізія прыняла Дэкларацыю аб дзяржаўнай незалежнасці.

У некаторых краінах дзень абвяшчэння незалежнасці ў жніўні 1991-га стаў чырвонай датай у календары. Натуральна, 25-ю гадавіну адзначаюць сёння з асаблівым размахам.

Аднак трэба адзначыць, што сацыяльна-эканамічны фон для ўрачыстасцяў у СНД не самы спрыяльны. Рэцэсія, якая цягнецца ў постсавецкай эканамічнай зоне з 2009 года, аб'ектыўна абмяжоўвае магчымасці арганізатараў святаў. У дадатак яна кідае цень на саму ідэю незалежнасці, калі ўладам даводзіцца тлумачыць, што альтэрнатывы ў 1991-м не было. Нездарма ў большасці краін, якія на гэтым тыдні адзначаюць незалежнасць, прыдумляюць незвычайныя канцэпты святаў.

**Рэцэсія, якая цягнецца ў постсавецкай эканамічнай зоне з 2009 года, аб'ектыўна абмяжоўвае магчымасці арганізатараў святаў. У дадатак яна кідае цень на саму ідэю незалежнасці, калі ўладам даводзіцца тлумачыць, што альтэрнатывы ў 1991 годзе не было**

Дэфіцыт сродкаў штурхае на незвычайныя творчыя формы святкавання. Напрыклад, ва Украіне ў Кіравальградскай вобласці з трактароў і камбайнаў утварылі найбуйнейшы ўкраінскі герб. Яго даўжыня — 120 метраў, а ў шырыню вывая гербу сягае 75 метраў.

З Украіны можна і пачаць, тым больш, што гэта — асноўнае нацыянальнае свята нашай суседкі. Цвіком святочнай праграмы быў вайсковы парад у цэнтры ўкраінскай сталіцы, які адначасна стаў прэзентацыяй новай вайсковай формы. Аднак і без параду жаўнераў хапае незвычайных акцый, прысвечаных незалежнасці. Напрыклад, напярэдадні былі зацверджаны адмысловы медаль. Як гаворыцца ў афіцыйным тлумачэнні, яго будуць уручаць за значныя асабістыя заслугі ў станаўленні незалежнай Украіны, зацвярджэнні яе суверэнітэту, умацавання міжнароднага аўтарытэту і г.д.

Цяперашняе свята ва Украіне адрозніваецца ад папярэдніх тым, што ў СМІ шмат узгадваюць змагароў за незалежнасць савецкіх часоў. Такі інтарэс да дысідэнтаў можна растлумачыць прапагандысцкай кампаніяй у Расіі, дзе незалежнасць Украіны намагаюцца трактаваць як выпадковасць і казус.

Калі верыць кіеўскім СМІ, рыхтуюцца да святкаванняў і праціўнікі незалежнасці. Паводле дадзеных выведкі Украіны, супрацоўнікамі ФСБ на тэрыторыю ДНР-ЛНР было завезена 200 камплектаў формы ўкраінскіх вайскоўцаў. Быццам, у святочныя дні рыхтуецца маштабная правакацыя. Праўда, не было паведамлена, старая гэта форма ці новая.

Вельмі незвычайна адзначаць свята ва Узбекістане. У чэрвені кіраўнік дзяржавы патрабаваў, каб падчас свята ўсе рэсурсы чыноўнікаў былі кінутыя на «шырокае інфармаванне грамадскасці пра значэнне праграм і захадаў ураду, накіраваных на дынамічнае развіццё галін, раскрыццё перадумоваў і фактары павелічэння ВУП». Асноўны тэзіс узбекскіх афіцыйных прапагандыстаў — дзякуючы незалежнасці краіна выйшла з крызісу ў 1990-я гады, а таксама дзякуючы ёй здольная вырашыць эканамічныя праблемы зараз.

У Кыргызстане ў планах мерапрыемстваў буйны турнір — Сусветныя гульні качэўнікаў. Хаця Гульні збіраецца наведаць цэлая кагорта палітычных лідараў суседніх краін, асноўны інтарэс у публікі выклікае госць з Галівуду, вядомы кінаартыст Стывен Сігал. Асаблівасць святкаванняў у Кыргызстане ў тым, што паралельна незалежнасці адзначаецца 100-я гадавіна антыцарскага паўстання 1916 года. Гэтая акалічнасць дазваляе разглядаць Дэкларацыю дзяржаўнай незалежнасці як лагічны працяг традыцыі 1916-га і здымае ў вачах грамадства шмат пытанняў наконт таго, чаму краіна, пачынаючы з 1991-га, стала дэградуе.

Найбольш непрадказальнае святкаванне чакаецца ў Малдове. Тут ад самага пачатку фармавання палітсцэны склалася парадаксальная сітуацыя: малдоўская незалежнасць разглядалася яе лабістамі як трамплін да аб'яднання краіны з Румыніяй. У выніку сёння галоўнымі фанатамі самастойнасці нечакана выступаюць нашчадкі камуністаў, якія ў 1990-я гады былі жорстка супраць малдоўскага суверэнітэту. Магчыма, з-за гэтых ідэалагічных супярэчнасцяў афіцыйная частка мерапрыемстваў была абмежаваная вузкай навуковай канферэнцыяй: «Абвяшчэнне незалежнасці Малдовы. 25 гадоў: мінулае, сучаснасць, будучыня».

Да таго ж, у краіне амаль год цягнецца палітычны крызіс. Блізкая да аднаго з алігархаў групоўка, якая знаходзіцца ля ўлады, вельмі не папулярная як сярод праеўрапейскіх, так і прарасійскіх малдаван. Апазіцыя не хавае, што збіраецца выкарыстаць народныя гулянні, прысвечаныя незалежнасці, для мабілізацыі на масавыя пратэсты ў цэнтры Кішынёва. Эксперты не выключаюць, што Дзень незалежнасці Малдовы можа ператварыцца ў новую рэвалюцыю.

Калі рабіць высновы, можна заключыць, што будаўніцтва незалежнасці ў краінах СНД дасюль ідзе. З іншага боку, таксама відавочна, што зваротнага шляху няма.




Фота www.russiancouncil.ru

# Вайна за ААН працягваецца

Алег НОВІКАЎ

**На фінальны этап выходзіць працэдура абрання новага, восьмага ў гісторыі аб'яднання генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Ці не выльюцца выбары ў новае змаганне паміж Масквой і Вашынгтонам?**

Непасрэдна працэдура абрання распачалася яшчэ ў красавіку, калі жадаючых ачоліць вядучую міжнародную арганізацыю на планеце пачалі запрашаць на сумоўе, высвятляючы іх адпаведнасць крытэрам генсека. Справа гэта нялёгкая. Напрыклад, адно з патрабаванняў да кандыдатаў — не ўжываць у побыце брудных жартаў.

Наступны раунд — пасяджэнне Савета Бяспекі, у якім зараз 15 сябраў, і які правядзе патаемнае галасаванне сярод тых, хто прайшоў сумоўе. Той, хто набраў больш за ўсё галасоў, будзе рэкамендаваны для зацвярджэння на Генеральнай Асамблеі. Плануецца, што сябры СБ вызначацца з адзіным кандыдатам да кастрычніка, аднак фіксаваных тэрмінаў працэдуры няма.

Увогуле, жаданне заняць вакансію генсека выказалі каля тузіна чалавек. Да этапу сумоўя дайшлі восем. Аднак найбольш шансаў у балгаркі Ірыны Бокавай і прадстаўніцы Новай Зеландыі Хелен Кларк. Высокія каціроўкі Ірыны і Хелен тлумачацца не толькі з тым, што цяперашні генсек Пан Гі Мун бачыць сваім пераемнікам менавіта жанчыну. За прэтэндэнткамі стаяць моцныя геапалітычныя сілы.

Белы дом лабіруе Кларк — былога лейбарысцкага прэм'ера Новай Зеландыі. Масква робіць стаўку на балгарку, што, дарэчы, цалкам лагічна з улікам некаторых абставін яе біяграфіі. Бацька Ірыны Георгій Бокаў быў адным з кіраўнікоў Балгарскай камуністычнай партыі, удзельнікам антыфашысцкага супраціву. Сама Ірына (нарадзілася ў 1955 годзе) — дыпламат, пікам кар'еры якой было старшынства ў ЮНЕСКА.

На першы погляд, выбары генсека не вартыя асаблівай увагі. Генсек ААН — хутчэй, адміністратыўная фігура, якая адказвае за апарат і тэхнічную працу арганізацыі, фармальна яе прадстаўляе, даводзіць да ведама Савета Бяспекі інфармацыю па праблемах, якія пагражаюць, на яго думку, падтрыманню міжнароднага міру і бяспекі. На самай справе, відавочна, што рэальна ўсім запраўляюць пяць сталых сяброў Савету Бяспекі — Расія, ЗША, Вялікабрытанія, Францыя і Кітай. Кожная з гэтых краін мае права накладаць вета на прынятыя Генеральнай Асамблеяй рашэнні.

Аднак гэтым разам сітуацыя нестандартная. Па-першае, у атмасферы цяперашняй «халоднай вайны» паміж Масквой і Вашынгтонам пасада генсека набывае моцны сімвалічны капітал. Па-другое, заклікі да рэформы ААН гучаць усё гучней. Ідэя пазбавіцца дыктату сталых сяброў Саўбезу аб'яднала дзяржавы з палярнымі ідэалогіямі — ад Зімбабве да Германіі і Японіі. Лічыцца, што перамены проста непазбежныя, і прыйдуцца на бліжэйшыя гады.

Прапануюцца самыя незвычайныя фарматы новай ААН. Напрыклад, ёсць ідэя ўвесці ў склад сталых сяброў Саўбезу прадстаўніка грамадзянскага сектару, які ў дадатак атрымае права вета. Ёсць прапанова надаць больш паўнамоцтваў генсеку, які зможа праводзіць аўтаномную ад сталых сяброў Саўбезу палітыку. Аднак большасць лічаць, што рэформа можа пайсці па двух шляхах. Першы — пашырэнне складу пастаянных сябраў Савета Бяспекі ААН. Другі — рост колькасці непастаянных удзельнікаў Саўбезу. З 1986 года ў іх лік уваходзіць дзесяць краін па прынцыпу ратацыі.

Відавочна, праект рэформы, яе ход і, магчыма, нават будучы фармат ААН шмат у чым будуць залежаць ад кіраўніка аб'яднання. Нарэшце, не выключана, што ў выпадку росту міжнароднай канфрантацыі генсек будзе вымушаны ўзяць на сябе дадатковую асабістую адказнасць. Дарэчы, Хелен Кларк адкрыта кажа, што ў выпадку сваёй перамогі будзе дамагацца таго, каб ААН была эфектыўнай структурай. На яе думку, Арганізацыя павінна ўмешвацца ў канфлікты яшчэ на ранняй стадыі, выкарыстоўваючы рэсурс няўрадавых арганізацый. Праграма Бокавай больш кансерватыўная: яна лічыць, што сябрам ААН перш за ўсё трэба развіваць мастацтва пошуку дыялогу.

Пакуль што інтрыга вакол прозвішча будучага генсека захоўваецца. Як у Кларк, так і ў Бокавай хапае плюсаў. Кандыдатура Кларк, якая ў мінулым займалася праблемамі бежанцаў, сімпатычная еўрапейскім дзяржавам — ахвярам міграцыйнага крызісу. Дадае пунктаў і яе інтарэс да актуальнай праблемы змены клімату.

У Бокавай свой джокер — нефармальнае правіла рабіць ратацыі генсекаў па геаграфічным прынцыпе. Зараз у кулуарах Арганізацыі папулярная ідэя генсека, які паходзіць з нейкай усходнееўрапейскай краіны. Так здарылася, што палітыкі з гэтага рэгіёну праз тое, што ён доўгі час быў фактычным пратэктаратам СССР, не разглядаліся ў якасці кандыдатаў на пасаду кіраўніка ААН.

Аднак не выключана, што на выбары паўплываюць і новыя фактары. Напрыклад, літаральна на днях выбухнула эпідэмія халеры на Гаіці, а да ЗША і Еўропы падбіраецца вірус Зіка. Адначасова Філіпіны заявілі пра магчымы выхад з ААН з-за таго, што Арганізацыя крытыкуе практыку забойства без суду і следства наркабаронаў. Актуальныя выклікі могуць прымусіць шукаць на вакансію генсека не вопытнага функцыянера, а крызіснага менеджара. У любым выпадку, развязкі інтрыгі наконт новага генсека засталося чакаць нядоўга.

Нарэшце, нельга не ўлічваць і яшчэ адзін варыянт. Статут ААН не забараняе Савету Бяспекі рэкамендаваць Генасамблеі больш за аднаго кандыдата, хаця да гэтага часу кандыдат быў толькі адзін.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Васім Ахтар



Пакістанскі палітык, адзін з лідараў сацыял-ліберальнай партыі «Аб'яднаны нацыянальны рух» (MQM), якая прадстаўляе інтарэсы ўрдамоўных пакістанцаў — нашчадкаў мігрантаў з Індыі, стаў мэрам Карачы — другога па колькасці насельніцтва горада ў краіне. Гэта навіна выклікала сусветны рэзананс, паколькі ратушай для новага мэра будзе турма.

Туды Ахтар трапіў у ліпені як падазраваны ў датычнасці да тэрарыстычнай атакі ў адным са шпіталяў. Нягледзячы на статус вязня, палітык узначаліў выбарчы спіс партыі, якая ў выніку перамагла. Праўда, не зразумела, як будзе выглядаць непасрэдна яго праца на пасадзе мэра. Кіраўніцтва партыі ўжо звярнулася да ўраду з заклікам стварыць у турме ўсе ўмовы для кіравання мегаполісам, у якім пражывае 20 мільёнаў чалавек. У прыватнасці, патрабуюць, каб у камеру да мэра штодня мог заходзіць сакратар.

Як ні дзіўна, эксперты кажуць, што кадэнцыя Ахтара можа быць паспяховай. Хаця б таму, што MQM традыцыйна мае моцныя сувязі з пакістанскім крыміналам і можа ўплываць на яго актыўнасць. Дарэчы, поспех MQM у Карачы можа мець маштабныя наступствы, паколькі гэта партыя — асноўны праціўнік вайскоўцаў, якія намагаюцца манапольна кіраваць дзяржавай.

### Нурсултан Назарбаеў



Елбасы імкліва асвойвае ролю вядучага міратворца на постсавецкай прасторы. Спачатку дзякуючы яму змаглі аднавіць стратэгічнае супрацоўніцтва Расія і Турцыя, якія, як вядома, моцна пасварыліся пасля інцыдэнту са збітым расійскім самалётам у Сірыі. На гэтым тыдні падчас казахстанска-польскага бізнес-форуму ў Варшаве Назарбаеў прапанаваў распрацаваць пагадненне паміж Казахстанам, Польшчай і Расіяй у галіне транспарту, што можа аслабіць польска-расійскую рэгіянальную напружанасць.

У дадатак ходзяць чуткі, што Назарбаеў намагаецца навесці масты паміж Кіевам і Масквой, адносіны якіх вельмі кепскія з-за гісторыі з быццам бы ўкраінскімі агентамі ў Крыме (дайшло да таго, што Парашэнку адмоўлена ў праве лічыцца легітымным лідарам).

Міралюбная актыўнасць Назарбаева таксама вельмі цікавая ў кантэксце нечаканага вызвалення галоўнага апазіцыянера Казахстана – лідара незарэгістраванай апазіцыйнай партыі «Алга!» Уладзіміра Казлова, якога 20 жніўня выпусцілі з турмы, куды ён трапіў на сем з паловай гадоў па справе аб беспарадках у Жанаазене 16–17 снежня 2011 года. Адкручванне гаек унутры краіны і новы імідж міратворца ўздымаюць прэстыж рэжыму Назарбаева. Застаецца пачакаць, каб пабачыць, якім чынам той выкарыстае новы імідж.

### Эльвіра Савіно



Італьянскі палітык, дэпутат ад правацэнтрысцкай партыі «Forza Italia», прапанавала караць бацькоў, што не даюць дзецям ежу, якая развівае ў іх адэкватныя кагнітыўныя і фізічныя здольнасці. За гэта, на думку палітыка, трэба штрафаваць і нават садзіць у турму да 6 гадоў.

Прапанаваная норма пагражае сем'ям вегетарыянцаў і веганаў, якія кормяць дзяцей спецыфічнай ежай. На думку палітыка, адсутнасць мяса ў дзіцячым меню кепска ўплывае на фізічна-разумовы стан дзіцяці, доказам чаму стаў нядаўні сумны выпадак у Генуі. Там медыкі дыягназавалі недахоп у двухгадовай дзяўчынкі вітаміну B12, што стала прычынай яе неўралагічных праблемаў. Дэфіцыт вітаміну выкліканы тым, што бацькі дзяўчынкі ўжываюць выключна веганскую ежу, якой карміілі і дзіця. Гісторыя ў Генуі стала прапрлогам імклівай палітызацыі праблему веганаў. Шмат партый — прычым, як правых, так і левых, — патрабуюць кантролю над вегетарыянскімі сем'ямі. Натуральна, пры гэтым узгадалі і тое, што Гітлер таксама не ўжываў мяса.

У ініцыятывы хапае і апанентаў, якія баяцца, што пад соусам абароны дзяцей дзяржава будзе больш шчыльна кантраляваць прыватнае жыццё. Левыя ў сваю чаргу кажуць, што адсутнасць мясных блюдаў часта звязаная з малымі заробкамі бацькоў і заклікаюць замест пераследу веганаў павялічыць сацыяльную дапамогу сем'ям.

Чым завершыцца незвычайная культурная вайна, будзе вядома ўвосень, калі ў дэпутатаў скончацца канікулы, і яны разглядзяць законапраект Эльвіры Савіно.

# Родная душа
## Згадваючы Генадзя Бураўкіна

Сяргей ШАПРАН

**Генадзю Бураўкіну, вядомаму дзяржаўнаму і грамадскаму дзеячу, аднаму з выбітных беларускіх паэтаў XX — пачатку XXI стагоддзя, 28 жніўня было б 80.**

Першай сустрэчы з Генадзем Мікалаевічам не прыгадаю. Выходзячы з дарчага надпісу на кнізе «Выбранага»: «Сяргею Шапрану, якога заўсёды чытаю з цікавасцю, — са спадзяваннем, што і ён мяне прачытае з разуменнем. Генадзь Бураўкін. 16.VI.1999 г.», — знаёмства адбылося недзе ў той час. Спачатку гэта былі, вядома, звычайныя дзелавыя стасункі: як журналіст я звяртаўся да яго з просьбамі пра інтэрв'ю і за каментарамі да нейкіх падзей, аднак незаўважна «службовыя» стасункі пастунова перараслі ў адносіны проста прыязна-чалавечыя. Здаецца, упершыню адчуў гэта, калі, збіраючыся летам у вёску, завітаў да Генадзя Мікалаевіча, і ён — мажны, пасівелы чалавек, які, як мне тады здавалася, толькі ў сваёй паэзіі, але ніяк не ў жыцці, здольны быць пяшчотным і наіўна-безабаронным, — нечакана папрасіў: «Калі будзеш праязджаць праз Расоншчыну, спынішся і ціхенька скажаш: "Прывітанне ад Генькі". Генька — гэта так мяне клікалі там у маладосці...»

Тыя адносіны канчаткова ўмацаваліся, калі я пачаў пісаць кнігу пра Васіля Быкава: мы тады часта сустракаліся і гутарылі пра Васіля Уладзіміравіча, прычым Бураўкін падтрымліваў мяне ўсе тыя амаль пяць гадоў, пакуль пісалася-збіралася кніга. Увогуле, па вялікім рахунку, адзінай маральнай апорай у тыя не дужа спрыяльныя для мяне пяць гадоў былі толькі два чалавекі: Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін...

Трэба сказаць, што няхай, вядома, не ў поўнай меры, але ад самага пачатку я ўсведамляў, хто ёсць Генадзь Бураўкін для літаратуры, для краіны, для гісторыі, і таму практычна ўсе гэтыя гады занатоўваў нашы гутаркі і сустрэчы. Некаторыя з іх і хацелася б прыгадаць.

17 чэрвеня 1999 г. 19-га — 75 гадоў Быкаву. Доўга гутарылі з Бураўкіным пра Васіля Уладзіміравіча, дык сярод іншага Генадзь Мікалаевіч распавёў: «Ужо калі я вярнуўся з камандзіроўкі з-за акіяна, з пасады пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН, мне была зроблена даволі хітрая прапанова: я, маўляў, мог бы разлічваць на высокую пасаду, калі б прынародна адмовіўся ад сяброўства з Быкавым. Ішоў, здаецца, 1994 год. Я адказаў: "Перадайце вашаму патрону (гэтая прапанова была перададзена праз аднаго чалавека), што на свеце няма і не будзе такіх пасад, за якія я мог бы прадаць маё сяброўства з Васілём Быкавым". Я на самай справе ганаруся гэтым сяброўствам і вельмі шаную яго. Ведаю, што і Васіль таксама ставіцца да мяне па-сяброўску. І гэта, можа быць, найвышэйшая з адзнак, пра якія я мог бы марыць».


**Генадзь Бураўкін.**
Фота Сяргея Шапрана

**Мне была зроблена хітрая прапанова: я мог бы разлічваць на высокую пасаду, калі б адмовіўся ад сяброўства з Быкавым**

11 снежня 2000 г. Генадзь Мікалаевіч распавёў, як цэнзура ледзь не спляжыла яго новую кнігу «Паміж зоркай і свечкай»:

— Гэтая кніга для мяне прынцыповая найперш таму, што гэта не чарговы зборнік вершаў — гэткі «мяшок», куды «скідваюць» напісанае, пакуль ён не будзе поўны. Я задумваў кнігу як нешта суцэльнае, арганічнае, са сваім настроем, са сваёй унутранай «драматургіяй». Гэта — менавіта кніга. Здаючы рукапіс у выдавецтва «Мастацкая літаратура», у якім выйшлі практычна ўсе мае кнігі, я, безумоўна, разумеў, што сітуацыя ў кнігавыдавецкай справе складаная — фінансаў не хапае, і не прэтэндаваў на асаблівую ўвагу, разумеючы, што прыйдзецца стаяць «у чарзе» разам з калегамі і сябрамі.

Аднак мінаў час, а ніякага руху не было. І стала відавочна, што ў выдавецтва няма жадання не тое, што паспрыяць выхаду кніжкі, а наогул праявіць да яе хоць бы якую-небудзь увагу. Ведаючы пра тыя стасункі, якія склаліся паміж некаторымі нашымі пісьменнікамі і ўладай, я зразумеў, што ляжаць мне і ляжаць! Усвядоміўшы гэта, я зрабіў тое ж самае, што і Васіль Уладзіміравіч Быкаў, які забраў з «Мастацкай літаратуры» рукапіс кнігі «Сьцяна». Не магу сказаць, хто канкрэтна «замарозіў» выданне майго рукапісу. У наш час цяжка даведацца, хто ў сапраўднасці стаіць за падобнымі рашэннямі. Звычайна хітра кажуць: «Хтосьці». Сам жа гэты «хтосьці» твар, натуральна, не адкрывае...

Аднак, на маё шчасце, дапамогу прапанаваў пісьменнік і выдавец Яўген Лецка і яго выдавецтва «Бацькаўшчына». Рукапіс мы здалі ў маладзечанскую друкарню «Перамога». Прычым ні я, ні Лецка па зразумелых прычынах гэты факт не афішавалі. Як раптам Яўген паведаміў, што нехта з друкарскіх чыноўнікаў хоча выключыць з кніжкі тры вершы. Мяне гэта здзівіла: з якіх гэта часоў друкарня атрымала права цэнзуры або, скажам так, літаратурнай крытыкі?! Зрэшты, гэтая быццам бы самадзейная ініцыятыва здалася мне не такой ужо і немагчымай, бо калі сяржант міліцыі падчас мітынгу замест таго, каб займацца аховай парадку, бярэ на сябе смеласць ацэньваць, хто, што і як кажа, гэта ўсё з той жа песні! Я прапанаваў: калі хочуць, няхай вершы здымаюць, і кніга выходзіць з белымі старонкамі. Гэта будзе цікавы факт у біяграфіі і маёй, і выдавецтва. Аднак у друкарні працуюць не такія ўжо някемлівыя людзі — яны, вядома, не пагадзіліся.

Самае цікавае, што тыя тры вершы ў свой час былі ўжо апублікаваны — у «Народнай газеце» (падкрэслю: не ў «Народнай волі»!), у «Звяздзе» і часопісе «Беларусь». Усё гэта — дзяржаўныя выданні, там працуюць досыць прафесійныя рэдактары, якія не прапусцілі б палітычную крамолу або літаратурную «невнятицу». Таму я і сказаў сваё рашучае «не». А каб не ўзнікала абвінавачання ў тым, што аўтар залішне амбіцыйны, прапанаваў (перамовы ішлі праз Яўгена Лецку): я гатовы ў любы час сустрэцца з чалавекам, каму гэтыя мае вершы не спадабаліся. Ён выкажа свае прэтэнзіі, і, можа быць, я іх прыму. Тады, паціснуўшы яму руку, ад душы падзякую за тое, што ён засцярог мяне ад таго, што я мог апублікаваць няправільныя і дрэнныя вершы. А магчыма, я змог бы даказаць яму, што калі пісаў, думаў пра нешта разумнае... Зрэшты, мой рэцэнзэнт або крытык — не ведаю, як яго назваць, — не захацеў здымаць маску: мы не сустрэліся, а кніжка ўсё-ткі выйшла з «сумнеўнымі» вершамі...

Вось адзін з тых трох вершаў:

*Чорнай навалаю коціцца зверху*
*Гвалт небывалы,*
*Раз'ятраны вэрхал.*
*У кіраўнічых суровых прамовах*
*Бэсціцца зноў беларуская мова:*
*Быццам бы наскія словы не здатны*
*Выказаць талент*
*і розум выдатны.*
*Новай уладзе не пашанцавала —*
*Хоць да спадобы ёй бульба і сала,*
*І самазвалы,*
*І фермы,*
*І нівы,*
*Непераборлівы люд наш цярплівы,*
*Бор карабельны*
*І мёд верасовы, —*
*Косткаю ў горле —*
*Народная мова.*

*Колькі цкавалі яе і глумілі,*
*А не складае падбітае крылле,*
*А ўсё жыве і ніяк не канае —*
*Песня азёрная,*
*Казка лясная.*

*Перажыла наша родная мова*
*І Бенкендорфа, і Мураўёва,*
*Панскія здзекі,*
*Чэкісцкія чысткі,*
*Рогат імперскі,*
*Вырак фашысцкі...*

*Тых,*
*Што з трасянкаю ў галаве,*
*Пераажыве!..*


**З Андрэем Макаёнкам і Васілём Быкавым. 1973 г.** Фота Уладзіміра Крука

29 жніўня 2001 г. Генадзю Мікалаевічу — 65. Першым учора яго павіншавалі, патэлефанаваўшы з замежжа, Васіль Быкаў, потым былі віншаванні ад Янкі Брыля, Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча, Сяргея Законнікава, Анатоля Кудраўца, ад Саюза беларускіх пісьменнікаў. Ніякіх урачыстых мерапрыемстваў Бураўкін не наладжваў — па-сямейнаму адзначыў дзень нараджэння з калегамі з газеты Аляксандра Старыкевіча «Беларускі час», увечары прымаў дома самых блізкіх людзей, а ўжо сёння я распытаў Генадзя Мікалаевіча пра мінулае. Вось толькі адзін эпізод з яго журналісцкага досведу:

— Яшчэ адна «правдистская» гісторыя звязаная з вайсковымі вучэннямі «Дзвіна», якія праходзілі на тэрыторыі Віцебскай вобласці. Мне тады тэрмінова далі заданне выехаць у раён вучэнняў, а канкрэтна — у штаб, дзе я павінен быў знайсці кіраўніка прэс-цэнтра генерала Рабава. А як на бяду, тэрмін дзеяння майго «правдистского» пасведчання тады якраз скончыўся, падоўжыць яго я не паспеў — для гэтага трэба было ехаць у Маскву. Што было рабіць? Указаннe выязджаць на вучэнні даў сам Міхаіл Васільевіч Зімянін, галоўны рэдактар «Правды». Прыйшлося тэрмінова ехаць.

Ад генералаў у штабе было не праціснуцца! І вось я, у сваёй дублёначцы, пытаюся ў гэтых вельмі важных людзей, дзе знайсці Рабава. Раптам адзін генерал (відаць, збіраючыся паставіць мяне па стойцы «смірна») строга спытаў: «А хто вы, уласна кажучы, такі?!» — «Карэспандэнт газеты "Правда"». — «Прад'явіце пасведчанне». Я прад'явіў! «Ага! — чамусьці ўзрадаваўся генерал. — Пасведчанне ў вас несапраўднае! А дзе, цікава, ваш пропуск?! Дзе вашы акрэдытацыйныя паперы?!» — «Няма ў мяне нічога, — адказаў я. — Усё гэта я і хачу атрымаць». — «Во як!..» — генерал пачаў шукаць афіцэра, каб, відаць, арыштаваць мяне. Адначасова ж задаў забойнае пытанне: «Як вы сюды пранiклі?!» Не ведаю, што мне падказала, аднак я сказаў: «Гэта я, як карэспандэнт "Правды", хачу спытаць у вас: як гэта без пропуска, з пратэрмінаваным пасведчаннем мне ўдалося пракрасціся ў штаб?!» Генерал разгубіўся. І ў гэты час на маё шчасце з'явіўся кіраўнік прэс-цэнтра, які ўручыў мне ўсе неабходныя дакументы.

**Працяг будзе.**

# Бацька беларускага тэатра



Ігнат Буйніцкі

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Яго называлі «панам для бедных», вымушаным пакінуць працу каморніка пасля таго, як падчас абмераў аднаго з маёнткаў ён адрэзаў на карысць сялян завялікі кавалак панскай зямлі. Сам каталік, таемна ахвяраваў сродкі на пабудову праваслаўнай царквы на малой радзіме, і нават склаў план зямельнага ўчастка пад яе. Заснавальнік камерцыйнага банка, які даваў пазыкі сялянам пад малы працэнт. Але нам ён больш вядомы як «бацька беларускага тэатра» — Ігнат Буйніцкі.**

## Танцуючы каморнік

Нарадзіўся Ігнат Буйніцкі 155 гадоў таму, 22 жніўня, у год «Вялікай рэформы» — адмены прыгоннага права, у фальварку Палівачы, на тэрыторыі сённяшняга Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і збяднелага шляхціца Тарквінія-Тэафіла Буйніцкага і Клацільды з роду Гласкіх.

Пасля заканчэння чатырохкласнага рэальнага вучылішча ва Улацлаўску Варшаўскай губерні, паступіў у Рыжскае політэхнічнае вучылішча. Працаваў землямерам у Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях, абышоўшы іх пешшу. Вандраваў заўсёды з сшыткам пад пахай, каб запісваць пачутыя песні, народныя легенды, паданні. Але асаблівую цікавасць і сапраўднае захапленне для Буйніцкага ўяўлялі народныя танцы. Ён заўсёды знаходзіў, пра што размаўляць з простым вяскоўцам, вельмі любіў сялянскіх дзяцей, якім расказваў казкі, вучыў спевам і танцам.

Чалавек творчы, з вялікім імпэтам і апантанасцю, «дзядзька Ігнат», як яго называлі сяляне, умеў ператварыць звычайную вясковую вечарыну ў сапраўднае свята. Каб развіваць свае здольнасці, ён нават скончыў прыватныя драматычныя курсы ў Вільні, дзе вывучаў акцёрскае майстэрства.

## Першая беларуская трупа

У 1907 годзе яго захапленне выйшла на новы ўзровень — разам з дочкамі Аленай і Вандай ды сябрамі ён заснаваў аматарскі калектыў, які пачаў вандраваць не толькі па гарадах Беларусі, але выязджаў з выступленнямі ў Варшаву і Пецярбург. Для гэтага Буйніцкаму даводзілася браць дазвол у губернатара. І калі за выступленні для заможных гледачоў вызначаўся высокі кошт у два рублі, то выступленні ў мястэчках для сялян ладзілі бясплатна.

Адно з такіх выступленняў у Слуцку, на якое збіраліся ўсе жыхары ваколіцы — ад малога да старога, — наведаў Зыгмунт Абрамовіч: «Адкуль у гэтых стомленых людзей, у гарачую пару лета, калі дыхнуць мала часу, столькі жадання ісці іншы раз некалькі вёрст да мястэчка, сядзець у цеснаце і духаце прымітыўнай залы на нязручных, спехам збітых лаўках? Што прымусіла гэту вялікую «грамаду» людзей наведваць беларускія спектаклі?». Абрамовіч быў настолькі ўражаны, што пайшоў у акцёрам да Буйніцкага.

У лютым 1910 года ў Вільні ладзілася першая публічная беларуская вечарына. Хор пад кіраўніцтвам Людаміра Рагоўскага, спектакль, падрыхтаваны Аляксандрам Бурбісам, а ў завяршэнне — выступленне танцавальнага калектыву Буйніцкага, якое выклікала сапраўдны фурор у залі. Паўліна Мядзёлка ўзгадвала: «Зняможаныя больш як самі танцоры, ап'янелыя ад моцнага ўражання, людзі нехаця пакідалі залу». Гэты поспех засведчыў з'яўленне «Першай беларускай трупы» або «Тэатра Ігната Буйніцкага».

Буйніцкі вырашыў распачаць гастрольную паездку, у чаканні губернскага дазволу на яе, трупа праводзіла рэпетыцыі ў набытым Ігнатам у крэдыт маёнтку Палівачы. Тут было пабудавана спецыяльнае драўлянае памяшканне, у якім мелася не толькі сцэна, але і лавы для гледачоў. Спачатку трупа складалася «з шасці пар», але паступова вырасла да 12 танцавальных пар, 15 акцёраў і 13 харыстаў, якіх аб'ядноўвала «пачуццё абавязку перад абяздоленай Бацькаўшчынай». Прычым у выступленнях удзельнічалі шматлікія беларускія дзеячы, напрыклад, Цётка і Алесь Бурбіс.



Трупа Ігната Буйніцкага. 1912 год

## Тур па Беларусі

Летам 1910 года Буйніцкі са сваімі акцёрамі выправіўся з турам па гарадах Беларусі, за якім уважліва сачыла газета «Наша Ніва». У жніўні ў ёй з'явілася паведамленне пра выступленне ў Дзісне: «Дзісна ня помніць такога збору народу. Інтэлігенцыя і просты народ усе шчыра віталі беларусаў, магучая ідэя нацыянальнага адраджэньня гарачымі праменьнямі сваімі ўсіх абагрэла, усіх з'яднала, разварушыла застыгшыя сэрцы, заіскрыла выцьвяўшыя ад сьпекі вочы і першае роднае слова са сцэны вітана было не аднэй сьлязой». Затым быў Полацк, аб чым карэспандэнт газеты Власт пазначыў: «Воклiскам канца не было: грымела гудзела ўся саля, як лежэнь з ройнымі пчоламі... Тэатр беларускі становіцца ўжо, дзякуючы заходам і рупнасьці дзядзькі Ігната Буйніцкага на цьвердыя падваліны і выплываюць усё новыя і новыя сілы. За гэтыя стараньні і рупнасьць шчырае дзякуй яму, а калісь, калі прабудзецца сьвядомасьць ува ўсім беларускім народзе, памяць Ігната Буйніцкага будзе святой для ўсіх».



СПБ ОБЩЕСТВО „ВѢСТНИКЪ ЗНАНІЯ"

ВѢСТНИКЪ ЗНАНІЯ

27-го ДЕКАБРЯ 1912 года

СПОРТИНГЪ ПАЛАСЪ (Каменноостровскій, 42)

ГРАНДІОЗНЫЙ

ЭТНОГРАФИЧЕСКІЙ ВЕЧЕРЪ И КОСТЮМИРОВАННЫЙ БАЛЪ

Музыка, танцы, народные хоры и лучшіе артисты народностей, населяющихъ Россію

этнографическіе кіоски.

М. Н. ДОЛИНОЙ

А. А. АРХАНГЕЛЬСКАГО.

Н. И. ПРИВАЛОВА

КОСТЮМИРОВАННЫЙ БАЛЪ

Уражаны здольнасцямі і дасягненнямі Буйніцкага, Янка Купала прысвяціў яму адзін з вершаў.

## «Брава, беларусы!»

Затым трупа наведала сталіцу Расійскай імперыі, дзе стаўся сапраўдным адкрыццём. Адзін з відавочцаў іх выступлення ў Пецярбурзе запісаў: «Як выйшаў Буйніцкі са сваімі танцорамі і сялянамі — дударом, цымбалістам і скрыпачом — беларусамі, — па-простаму паварочваючыся, дык гэта адразу прынялі ўсе з захапленнем. А калі Буйніцкі з дачкой пайшоў «Лявоніху», а за ім чарада хлопцаў з дзяўчатамі, як пачалі прытупваць, падскокваць, дык уся публіка, тысяч восем народу, як ударыла ў далонькі, як закрычала «брава, брава, беларусы!». Ніколі і нідзе не бачыў, каб гэтак што спадабалася... пецярбуржцам, як беларускія танцы... Потым публіка распытвалася... скуль і якія гэта беларусы з'явіліся? Бо раней іх не чуваць было!»

Выступленні трупы ўяўлялі сабою не толькі тэатральную пастаноўку з танцамі. Іх Буйніцкі разбаўляў вершамі беларускіх паэтаў, якія браў са старонак «Нашай Нівы». А завяршалася ўсё тым, што кожны з прысутных у залі мог сам паўдзельнічаць у танцах з акцёрамі.

Да таго ж сам Буйніцкі, які сваёй галоўнай мэтай бачыў бясплатна несці асвету і культуру беднаму гледачу-селяніну, імкнуўся да развіцця сваёй справы і стварэння мясцовых калектываў у гарадах і мястэчка Беларусі, для якіх ладзіў заняткі і нават пакідаў матэрыялы з уласнага рэпертуару.

Буйніцкі жыў на сцэне, аб чым сведчаць успаміны яго акцёраў. Так, І. Глогер адзначаў: «Ігнат Буйніцкі быў сярэдняга росту, чорнавалосы, з сівымі скронямі. Танцаваў заўсёды «з сэрцам». Акцёрам танцы паказваў сам, музыкам мелодыя таксама напяваў сам. Займаўся трупай стала і ўзімку, і ўлетку...». А З. Абрамовіч, лічыў, што «Ігнат Буйніцкі перш за ўсё быў да мозгу касцей танцор...»

## Памёр падчас танцу

У 1913 годзе з-за матэрыяльных праблем калектыў Буйніцкага спыніў сваю дзейнасць. Продаж білетаў пакрываў толькі частку ўсіх выдаткаў. Асноўны цяжар клаўся на кішэню Буйніцкага. Да таго ж расійскія газеты ў паклёпніцкіх матэрыялах усё часцей звярталі ўвагу на выкарыстанне «мужыцкай» мовы і «прымітыўнасць» рэпертуару беларускага тэатру, які лічылі нічым іншым, як «польскай інтрыгай».

Буйніцкі вымушаны быў прадаць маёнтак у Палівачах і пераехаць у суседнія Празарокі, дзе заснаваў крэдытнае таварыства. З пачаткам Першай сусветнай вайны ён удзельнічаў у дабрачыннасці на карысць беларускіх бежанцаў, дапамагаючы віленскаму таварыству «У дапамогу фронту». А пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года быў адным з ініцыятараў стварэння Першага таварыства беларускай драмы і камедыі, якое ў 1920 годзе стала асновай для Дзяржаўнага беларускага тэатра. Доўгі час у ім захоўвалася світка Буйніцкага, якая перадавалася лепшаму выканаўцу яго роляў.

У 1917 годзе ён трапіў на Заходні фронт, пад Маладзечна, дзе падчас падрыхтоўкі выступлення салдацкай самадзейнасці яму стала дрэнна, і 22 верасня ва ўзросце 56 гадоў ён памёр ад тыфу ў шпіталі каля мястэчка Гарадок. Захавалася нават прыгожая легенда, што Ігнат Буйніцкі памёр падчас танца. Ён наказаў пахаваць яго ў родным маёнтку, у трох соснах. Але калі родныя дочкі цягніком прывезлі цела бацькі ў Палівачы, у спустошаным вайной краі іх нават не было каму сустрэць.

***

Напачатку 1970-х гадоў яго магіла амаль знікла, калі яе знайшлі Уладзімір Караткевіч і прафесар Уладзімір Няфёда. Дзякуючы ім астанкі «бацькі беларускага тэатра» былі перанесены ў цэнтр суседняй вёскі Празарокі і перазахаваныя. Над магілай у 1975 годзе быў усталяваны помнік, аўтарам якога з'яўляецца скульптар І. Міско. У Празароцкай сярэдняй школе з 1982 года дзейнічае музей, прысвечаны Ігнату Буйніцкаму, які вылучаецца багатым зборам.

# Парк мініяцюр замкаў і храмаў ВКЛ

Ігар СТАНКЕВІЧ





**У старадаўнім шляхецкім фальварку Родзевічы, што за 5 кіламетраў ад Гальшанскага замка, 27 жніўня адбудзецца прэзентацыя праекта «Парк мініяцюр замкаў Вялікага Княства Літоўскага».**

Падчас прэзентацыі гасцям фонду «Краіна замкаў» будуць прадстаўлены канцэпцыя парка, некалькі мініяцюр, а таксама 3D-друкаркі, на якіх друкуюцца макеты замкаў. У прэзентацыі возьмуць удзел дзеячы культуры: музыка Зміцер Вайцюшкевіч, тэатральны рэжысёр Валерый Мазынскі і вядучы праграмы «Падарожжы дылетанта» Юры Жыгамонт.

«Наш праект хутка можна будзе называць народным, — кажа дырэктар фонду «Краіна замкаў» Алесь Варыкіш. — На сённяшні дзень у ім узялі ўдзел больш за 100 чалавек не толькі з Беларусі, але з Германіі, Ізраіля, Расіі, Польшчы. Сярод іх ахвярадаўцы, валанцёры. Людзі не толькі пералічваюць нам грошы на набыццё дадатковых 3D-друкарак, але і актыўна прапануюць розную дапамогу — ад збору камянёў на ўчастку да стварэння 3D-макетаў і друку мадэляў на ўласных друкарках».

На сённяшні дзень на прэзентацыю запісалася больш за 100 чалавек. Для іх будзе арганізаваная экскурсія па найбольш значных аб'ектах рэгіёна, пасля якой будзе прадстаўлены парк мініяцюр. Завяршыцца праграма святочнай вечарынай з майстар-класамі па старадаўніх танцах і песнях. Запісацца на экскурсію-прэзентацыю можна ў фондзе «Краіна замкаў».

Аб стварэнні парку мініяцюр замкаў і храмаў было заяўлена ў канцы мінулага года. Ідэя была падтрымана ў рамках праекта ЕС / ПРААН «Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь». Свае сродкі ў будаўніцтва парку ўкладвае і «Краіна замкаў». Інвестыцыі ў аб'ект ужо перавысілі 300 мільёнаў недамінаваных рублёў. На гэтыя грошы быў набыты першы 3D-прынтэр, матэрыялы для друку мініяцюр, створана некалькі віртуальных мадэляў замкаў і храмаў, праведзены зямельныя работы на тэрыторыі парку.

А 20 ліпеня на платформе Talaka.by стартавала кампанія па зборы сродкаў на набыццё двух дадатковых, больш магутных 3D-друкарак, кожная з якіх каштуе каля 2,5 тысячы долараў. Іх задача — паскорыць працэс друку мініяцюр. 23 жніўня грошы на адну з неабходных друкарак былі ўжо сабраныя і друкарка набытая.

Афіцыйнае адкрыццё парку запланавана на май-чэрвень 2017 года. Першыя дзесяць мадэляў павінны з'явіцца ў парку ўжо да канца гэтага года.

# Ой, не буду горювати — буду танцювати!

Алег ГРУШЭЦКІ

**Штосуботу ў Мінску на тэрыторыі Верхняга горада ў рамках Фестывалю нацыянальных культур сваёй адметнасцю дзеляцца прадстаўнікі розных краін. Пачаўся фестываль Святам польскай культуры 6 жніўня, праз тыдзень сваю культуру прадстаўляла Рэспубліка Карэя, 20 жніўня шумна і весела прайшло Свята ўкраінскай культуры.**





Кавальская справа

Каб стварыць па-сапраўднаму святочную атмасферу і перадаць дух каларытнай украінскай культуры, на канцэрт у цэнтр Мінска прыехалі творчыя выканаўцы ўкраінскай песні і танца з Мінска, Мінскай, Гомельскай і Брэсцкай абласцей: фальклорны ансамбль украінскай песні і абраду «Ватра», хор «Берагіня», жаночы вакальны квартэт «Камертон», вакальны ансамбль «АкалаДа!», народны ансамбль бандурыстаў «Вербічанька», дуэт «Смерэка», дуэт баяністаў «Драйв», народны ансамбль «Вязынка», народны хор украінскай песні «Крыніца». Можна было пачуць народныя песні «Рове та стогне Днипр широкий», «Ой, у поли криниченька», «Гуляемо весілля», пабачыць заліхвацкія танцы.

Тут жа разгарнулася экспазіцыя народных рамёстваў — украінскага гафту і традыцыйных ручнікоў, праходзілі кірмаш майстроў народнай творчасці і выстава-продаж украінскай літаратуры, прадукцыі ўкраінскіх выдавецтваў. Апроч таго, на свяце была прадстаўлена фотавыстава мінскага фатографа Міколы Лінніка «Захавальніца спадчыны».

І якое ж украінская свята без вядомай амаль на ўвесь свет украінскай кухні? Наведвальнікі маглі пакаштаваць такія стравы, як боршч украінскі з пампушкамі, варэнікі, закарпацкія галубцы, зразы бульбяныя з капустай, бульбяныя галушкі, канапе з салам, цыбульнік, піражкі адэскія, бульбачку са скваркамі, дранікі са смятанай.

Асноўная канцэртная праграма праходзіла з 13.00 да 16.00. Пакаштаваць стравы ўкраінскай кухні можна было ажно да 23 гадзін. Арганізатарамі свята выступілі Беларускае грамадскае аб'яднанне ўкраінцаў «Ватра», Мінгарвыканкам, Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, пасольства Украіны ў Беларусі.

На тэрыторыі Беларусі пражывае каля 160 тысяч украінцаў. Адзін з бульвараў у Мінску носіць імя Тараса Шаўчэнка, на якім усталяваны барэльеф вялікаму Кабзару. Яшчэ адзін помнік украінскаму паэту размешчаны каля будынка пасольства Украіны. Таксама ў Мінску працуе кінатэатр «Кіеў».



## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143, Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. Код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда, (8 029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20 капеек**, квартала — **9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**


Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 828

Падпісана да друку 26.08.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.